● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

16 ліпеня 1996 г. аўторак, №№ 178 — 179 (22981 — 22982)




# ЗВЯЗДА

*— СКАНДАЛ —*

## ЯК ПРЫСВОЙВАЛІСЯ ГРОШЫ ТРАКТАРАБУДАЎНІКОЎ

**Галоўны бухгалтар медыцынскага цэнтра Мінскага трактарнага завода так і не паспела набыць яшчэ адну прафесію. 29 мая гэтага года яна была арыштавана супрацоўнікамі міліцыі прама ў аўдыторыі лінгвістычнага універсітэта ў час здачы экзамена па англійскай мове.**

**На працягу амаль двух гадоў гэтая студэнтка-завочніца «выпампоўвала» з беднага медцэнтра дзесяткі мільёнаў рублёў.**

Схема гэтага злачынства была даволі нахабна-простая. Галоўны бухгалтар пераводзіла грошы на рахунак якой-небудзь камерцыйнай структуры. Кіраўніцтва гэтай фірмы, вядома ж, не задарма, пераўтварала грошы з безнаяўных у наяўныя і вяртала спрытнай махінатарцы.

Прычым паслугі, якія шчодра нібыта аплачвала галоўны бухгалтар медцэнтра МТЗ, былі даволі арыгінальныя. Напрыклад, на рахунак адной з фірмаў было пералічана 18 мільёнаў рублёў за выраб... візітных картак. Ды на такія грошы можна было б забяспечыць візітнымі карткамі не толькі ўвесь персанал медыцынскага цэнтра, але і палову працоўнага калектыву МТЗ.

Зрэшты, у дадзеным выпадку была хоць бы фармальная падстава для пералічэння грошай на рахунак камерцыйнай фірмы. А іншым разам, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ва ўпраўленні па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС краіны, грошы проста здымаліся з рахунку медцэнтра і пералічваліся якой-небудзь камерцыйнай структуры, пасля чаго асядалі ў кішэнях удзельнікаў гэтай простай аферы.

Цікава, што дырэктар медцэнтра МТЗ, заявіў следству, што нічога не ведаў пра «хітрыкі» галоўнага бухгалтара. Ён проста падпісваў чыстыя плацежныя даручэнні, якія прыносіла яму галоўны бухгалтар, але і ўцяміць не мог, па яго словах, што яго даверам будуць злоўжываць. Следчыя дырэктару паверылі. Прынамсі, пакуль што, ён па-за падазрэннямі.

Варта дадаць яшчэ, што медыцынскі цэнтр МТЗ за апошнія гады неаднаразова правяралі розныя кантралюючыя органы, і ім нічога не ўдавалася выявіць. Хоць схема злачынства, як ужо адзначалася, была на дзіва простая. Можа сакрэт «слепаты кантралёраў» заключаецца ў тым, што ў гэтым медцэнтры, які мае выдатнае замежнае абсталяванне, іншым разам правяраюць стан свайго здароўя некаторыя высокапастаўленыя чыноўнікі.

А магчыма, кантралёрам, сапраўды, не хапіла кваліфікацыі, каб разблытаць нават такую няхітрую справу. Шкада. Колькі медыкаментаў і рознага абсталявання можна было б набыць за гэтыя дзесяткі мільёнаў рублёў, якія «зніклі» з рахунку медцэнтра. І толькі дзякуючы таму, што фінансавымі махінацыямі галоўнага бухгалтара медцэнтра МТЗ зацікавіліся супрацоўнікі УБЭЗ Міністэрства ўнутраных спраў, «выпампоўванне» грошай з кішэняў трактарабудаўнікоў удалося спыніць.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ВЯРТАЙЦЕСЯ З УЗНАГАРОДАМІ

**«У першую чаргу па вашых перамогах даведаецца свет аб нашай радзіме», — сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі на сустрэчы з беларускай алімпійскай камандай у Стайках.**

На маючай адбыцца Алімпіядзе ў Атланце выступіць 160 беларускіх спартсменаў. Гэта вялікі гонар для рэспублікі, дзе жыве 10 мільёнаў чалавек. Сямён Шарэцкі азнаёміўся з умовамі жыцця алімпійцаў у час збораў, пабываў на трэніроўках лёгкаатлетаў, дзюдаістаў і валейбалістак. Размова, вядома, зайшла аб праблемах, перш за ўсё, аб паляпшэнні матэрыяльнай базы. «Спорт — гэта дзяржаўная справа. Патрэбы спартсменаў нельга пакідаць без увагі, таму што і спартсмены — твар нашай дзяржавы», — заявіў Сямён Шарэцкі, абяцаючы дапамагчы.

Стайкі Старшыня Вярхоўнага Савета пакідаў з двума медалямі, не залатымі — памятнымі, але з упэўненасцю, што беларускія спартсмены з Атланты вернуцца з высокімі ўзнагародамі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета — БЕЛТА.**



**ЗАДУМЕННАСЦЬ. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## Створана юрыдычная аснова далейшага развіцця супрацоўніцтва Беларусі і Францыі з улікам узаемных інтарэсаў

**А. ЛУКАШЭНКА — Прэзідэнт Беларусі:**

— У палітычным плане я вельмі задаволены вынікамі візіту ў Францыю. З Прэзідэнтам Францыі Жакам Шыракам праведзены даволі змястоўныя перагаворы, падпісаны асноватворны Дагавор аб дружбе, узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі. Гэта першы такі шырокамаштабны дагавор, які Беларусь падпісала з заходняй дзяржавай. Цяпер створана юрыдычная аснова далейшага развіцця супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў з улікам узаемных інтарэсаў. Сустрэчы ў Парыжы далі падтрымку развіццю кантактаў Беларусі з Еўрапейскім Саюзам, Саветам Еўропы.

Добрыя вынікі паездкі і ў галіне эканомікі. Падпісана адразу некалькі буйных кантрактаў, адпрацавана пытанне аб адкрыцці крэдытнай лініі на суму 200—300 мільёнаў долараў ЗША. Перакананы, што гэты інвестыцыйны праект будзе ажыццёўлены і стане своеасаблівым «прарывам» Беларусі ў галіне прыцягнення ў сваю эканоміку буйнога замежнага капіталу.

Я ўжо гаварыў у сваіх выступленнях аб намеры правесці ў рэспубліцы рэферэндум па змяненню асобных палажэнняў Канстытуцыі. Вельмі многія нормы ў новай рэдакцыі Асноўнага закона запазычаны з французскай Канстытуцыі. Таму дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі было карысна ўбачыць французскую дэмакратыю ў дзеянні.

За дзень да пачатку візіту вядомыя нашы палітычныя сілы ініцыіравалі ў адной з французскіх газет публікацыю, у якой у чарговы раз абліты брудам Беларусь, яе народ і Прэзідэнт. Шчыра кажучы, чакаў з боку кіраўнікоў Францыі пытанняў, звязаных з фарміраваннем за мяжой негатыўных адносінаў да Беларусі. Аднак, на дзіва, ні Прэзідэнт Францыі Ж. Шырак, ні французскія бізнесмены і банкіры нават не спрабавалі закрануць гэтую тэму. Я сам паставіў гэта пытанне ў гутарцы з кіраўніком Францыі. Ён выразна даў зразумець, што разглядае адносіны паміж дзяржавамі не праз тэлеперадачы ці газетныя публікацыі, а непасрэдна зыходзячы з рэальна праводзімай палітыкі.

Не ўтаю, знаходзячыся ў Парыжы, мне было вельмі непрыемна даведацца, што група нязбытных у Беларусі палітыкаў, якія «эмігрыравалі» за мяжу, спрабавала ачарніць нашу рэспубліку ў вачах французаў. Шэраг апазіцыянераў нават спрабавалі прыехаць у Парыж з Мінска з мэтай правядзення антыпрэзідэнцкіх акцый, але ім не выдалі ўязныя візы, за што я вельмі ўдзячны.

Знаходзячыся ў Францыі, вечарамі, пасля цяжкай і напружанай работы, неаднаразова задаваў сабе пытанне: што прымушае апазіцыянераў абліваць брудам сваю радзіму? Гэтым яны робяць горш не аднаму толькі Лукашэнку, а ўсяму народу рэспублікі...

Напярэдадні візіту Ж. Шырак інфармаваў мяне аб падыходах краін «вялікай сямёркі» да ідэі еўрапейскай інтэграцыі. Мне было вельмі прыемна ўбачыць многа агульнага ў канцэпцыях еўрапейскай інтэграцыі і збліжэння дзяржаў СНД у рамках саюзаў Беларусі і Расіі, а таксама Беларусі, Расіі, Казахстана і Кіргізіі. У ходзе перагавораў, прэзідэнт Францыі вітаў інтэграцыйныя працэсы, якія пачаліся ўнутры Садружнасці. Ж. Шырак не бачыць у заключаных, як на двух, так і на чатырохбаковай аснове, саюзніцкіх дагаворах ніякіх «пагроз суверэнітэтам». Што датычыць французскіх бізнесменаў, то яны нават шкадавалі наконт развалу таго велізарнага адзінага рынку, якім быў Савецкі Саюз. Многія вядучыя банкіры і прамыслоўцы Францыі ў свой час мелі цесныя адносіны з СССР, і ў іх выступленнях выразна прасочвалася настальгія па ранейшых часах. Безумоўна, размова ішла аб настальгіі ў эканамічным плане.

Цікавасць да Беларусі з боку прэзідэнта Францыі і дзелавых колаў гэтай краіны можна назваць вельмі вялікай. У тым ліку і таму, што наша рэспубліка з'яўляецца часткай адзінай мытнай прасторы. У Парыжы разумеюць: стварыўшы сумесную вытворчасць у Беларусі, можна паспяхова збываць іх прадукцыю ў Расіі, Казахстане, Кіргізіі.

Прэзідэнт Францыі прыняў маё запрашэнне наведаць Мінск. Магчыма, паездка адбудзецца даволі хутка. У галіне палітыкі ў нас пачаўся актыўны, добразычлівы дыялог, і да прыезду Ж. Шырака ў Беларусь, не выключана, што паміж нашымі краінамі ў мэтах развіцця асноўнага Дагавора аб дружбе, будзе падпісана некалькі пагадненняў...

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

*УВАГА: ПРАМАЯ ЛІНІЯ*

## Сямён Шарэцкі сёння адкажа на вашы пытанні

**16 ліпеня з 14 гадзін Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Георгіевіч Шарэцкі будзе праводзіць прамую лінію і адкажа на пытанні чытачоў газеты «Звязда».** ***Пытанні можна будзе задаць непасрэдна Сямёну Георгіевічу па тэлефонах: (0172) 32-38-21, 32-38-92.*** **Папярэдне пытанні кіраўніку заканадаўчай галіны ўлады можна задаць пазваніўшы супрацоўнікам нашай газеты па тэлефонах:** ***(0172) 68-27-57, 68-28-69.***

*— АФІЦЫЙНА —*

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Завяршыла работу першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання. Мінула паўгода з дня пачатку дзейнасці вышэйшага прадстаўнічага і адзінага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады. Тэрмін не вельмі значны, але дастатковы для таго, каб зацвердзіцца, зарэкамендаваць сябе, вызначыць прыярытэты і пачаць плённую работу.

Беларускі народ, сфарміраваўшы ў ходзе выбараў правамоцны Вярхоўны Савет, пацвердзіў жаданне жыць у прававой, дэмакратычнай дзяржаве. Дзяржаве, дзе правіць Закон, перад якім усе роўныя — ад рабочага і вясковага працаўніка да Прэзідэнта і Старшыні Вярхоўнага Савета.

Галоўнай, адметнай рысай работы Вярхоўнага Савета ў гэты перыяд быў канструктывізм, імкненне да згоды і супрацоўніцтва з усімі галінамі ўлады, палітычнымі партыямі і грамадскімі рухамі дзеля дасягнення асноўнай мэты — паляпшэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне.

Адным з першых пытанняў, што значыліся ў парадку дня сесіі, быў бюджэт рэспублікі на 1996 год, які прымаўся ў няпросты для парламента перыяд арганізацыйнага станаўлення. Тады Вярхоўны Савет згадзіўся з многімі прапановамі Прэзідэнта.

На першай сесіі за кароткі тэрмін былі разгледжаны і вырашаны арганізацыйныя пытанні, выбрана кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, сфарміраваны яго органы.

Магістральны напрамак у дзейнасці Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання — прыняцце законапраектаў, накіраваных на сацыяльную абарону грамадзян. Статус першачарговага плацяжу нададзены заработнай плаце. Спадзяёмся, што Прэзідэнт падтрымае гэта рашэнне Вярхоўнага Савета. Ідзе дапрацоўка Кодэкса законаў аб працы, ствараецца Кодэкс аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні. Не застаюцца без увагі парламента і такія злабадзённыя праблемы, як барацьба са злачыннасцю і карупцыяй. Іх вырашэнню будуць садзейнічаць дапаўненні і змяненні ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс, законы аб пракуратуры, аб статусе суддзяў, Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Дэпутаты актыўна працуюць над стварэннем канцэпцыі эканамічнага развіцця Беларусі. Гэтаму пытанню былі прысвечаны парламенцкія слуханні. Распрацаваны праекты заканадаўчых актаў па рэалізацыі эканамічнай рэформы ў рэспубліцы, сярод якіх трэба назваць: аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва, аб прадпрыемствах, аб банкруцтве, аб санацыі, аб спрошчанай сістэме падаткаабкладання, аб адаптацыі сельгаспрадпрыемстваў да рынычных умоў, аб прамыслова-фінансавых групах, жыллёвы, паветраны і падатковы кодэксы.

Усяго ў час першай сесіі было праведзена 99 пленарных пасяджэнняў; разгледжана 282 пытанні; прынята 54 законы, 214 пастаноў; у першым чытанні адобрана 17 законапраектаў; ратыфікавана 40 міжнародных дагавораў і пагадненняў. На працягу паўгода адбылося 11 пасяджэнняў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, на якіх былі абмеркаваны 247 пытанняў, прынята 224 пастановы.

У сувязі з развіццём інтэграцыйных працэсаў і стварэннем Супольніцтва Расіі і Беларусі прадбачыцца далейшая работа над уніфікацыяй беларускага і расійскага заканадаўстваў, перш за ўсё ў эканамічнай сферы. На другой сесіі, якая пачнецца восенню, неабходна будзе, і гэта адна з важнейшых задач, своечасова разгледзець і прыняць збалансаваны бюджэт на наступны год. Належнае месца ў парадку дня другой сесіі зоймуць пытанні дзяржаўнага будаўніцтва, рэформы Узброеных Сіл, умацавання нацыянальнай бяспекі, барацьбы з карупцыяй.

Вярхоўны Савет перакананы: праблемы грамадскага жыцця, рознагалоссі паміж галінамі ўлады можна і трэба вырашаць разумна і ўзважана. Складанасці сацыяльна-эканамічнага характару пераадольныя пры безумоўным выкананні законаў.

Вярхоўны Савет асуджае практыку парушэння Канстытуцыі і законаў нашай рэспублікі, невыканання рашэнняў Канстытуцыйнага суда.

Разумеючы гістарычную значнасць складаных сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія адбываюцца сёння, Вярхоўны Савет заклікае да кансалідацыі ўсіх галін улады, усіх грамадзян нашай рэспублікі. Толькі разам мы зможам пераадолець усе цяжкасці і ператворым нашу Радзіму — Рэспубліку Беларусь — у высокаразвітую цывілізаваную дзяржаву.

## АФІЦЫЙНА

## ДАЎГІ «ФАНДОКА» БУДУЦЬ ПАГАШАНЫ

**«Вы былі піянерамі эканамічных рэформаў, піянерамі ўсяго новага ў Беларусі. Аднак новымі беларусамі не сталі». Гэтымі словамі Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка пачаў сваё выступленне перад прадстаўнікамі працоўнага калектыву бабруйскага акцыянернага таварыства «Фандок». Праз тры гады пасля акцыяніравання прадпрыемства аказалася на мяжы банкруцтва. Даўгі «Фандока» складаюць 224 млрд. рублёў.**

Кіраўнік дзяржавы паведаміў рабочым аб прыняцці экстранных мер па выратаванню вытворчасці. Тут будзе створаны прэзідэнцкі наглядальны савет, які стане напрамую інфармаваць кіраўніка дзяржавы аб стане спраў. «Фандоку» выдзелены льготны крэдыт у размеры 50 млрд. рублёў. Гэтыя сродкі неабходны для запуску вытворчых магутнасцей. Усё кіраўніцтва прадпрыемстваў, уключаючы прэзідэнта гэтага акцыянернага таварыства Уладзіміра Таранава, за грубыя пралікі адпраўлена ў адстаўку.

Аляксандр Лукашэнка паабяцаў рабочым, што да 1 верасня прадпрыемства поўнасцю разлічыцца з даўгамі па зарплаце. Што датычыць іншых даўгоў, то яны будуць пагашаны за кошт перадачы часткі акцый «Фандока» найбольш буйным крэдыторам, сярод якіх «Беларусбанк», «Белзнешэканомбанк» і ВА «Магілёўэнерга». Доля дзяржавы ў Статутным фондзе акцыянернага таварыства на сённяшні дзень складае 47,8 працэнта.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА: ПАТЭНЦЫЯЛ ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА ЯШЧЭ ВЯЛІКІ

**Першая афіцыйная сустрэча ў рамках візіту прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра ў Літву адбылася ўжо на граніцы дзвюх краін, дзе прыбыцця беларускай дэлегацыі чакалі пасол Літвы ў Беларусі Віктарас Баўбліс і міністр сацыяльнай абароны і працы Міндаўгас Мікайла. Пасля кароткага абмену прывітаннямі ўрадавы картэж у суправаджэнні прадстаўнікоў Літоўскай Рэспублікі накіраваўся ў Вільнюс.**

Праграма знаходжання беларускай дэлегацыі ў Вільнюсе прадугледжвала перагаворы Міхаіла Чыгіра з прадстаўнікамі амаль усіх галін улады Літоўскай Рэспублікі. Першай у чарзе гэтых сустрэч стаў прыём беларускай дэлегацыі прэм'ер-міністрам Літвы Лаўрынасам-Міндаўгасам Станкявічусам.

Спачатку кіраўнікі ўрадаў дзвюх краін правялі гутарку сам-насам. Пасля чаго з удзелам абодвух прэм'ераў адбылося сумеснае пасяджэнне беларускай дэлегацыі і ўрада Літвы. У ходзе праведзенага дыялогу абмяркоўваліся праблемы ўзаемаразлікаў у гандлі паміж дзвюма краінамі, магчымасці выкарыстання літоўскіх портаў для транспарціроўкі беларускіх грузаў і іншыя эканамічныя пытанні. Бакі з задавальненнем адзначылі інтэнсіўнасць развіцця беларуска-літоўскага дыялогу. Так, тавараабарот паміж дзвюма дзяржавамі ў 1995 годзе павялічыўся ў пяць разоў у параўнанні з годам папярэднім. Але патэнцыял узаемавыгаднага супрацоўніцтва яшчэ вялікі. Аб гэтым гаворыць і той факт, што сумеснае пасяджэнне прадстаўнікоў выканаўчай улады дзвюх краін прадаўжалася амаль на гадзіну больш запланаванага.

У гэты ж дзень жонка прэм'ер-міністра Юлія Чыгір наведала беларускую школу ў Вільнюсе. Ад імя ўрада яна перадала школе беларускія нацыянальныя касцюмы і пажадала вучням і выкладчыкам помніць аб традыцыях свайго народа.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Павялічылася доля грашовых сродкаў, якія накіроўваюцца **ва ўклады, каштоўныя паперы і набыццё валюты:** з 5,4 працэнта ў 1994 годзе, 12,2 працэнта ў 1995 годзе да 22 працэнтаў у першай чвэрці бягучага.

❑ Зарплата работнікаў **сельскай гаспадаркі** ніжэй сярэднерэспубліканскай **на 41 працэнт** і на **2 працэнты** ніжэй мінімальнага пражытачнага мінімуму.

❑ Каля 22 мільёнаў людзей у свеце з'яўляюцца носьбітамі віруса СНІД, **сярод іх 8,8 мільёна** — жанчыны, **звыш 800 тысяч** — дзеці.

❑ У 1995 годзе **павялічылася колькасць стратных** сельскіх гаспадарак са 162 у 1994 годзе да 394 — у 1995-м, а сума страт узрасла ў 1,9 раза.

❑ Колькасць прыбытковых сельскіх гаспадарак **скарацілася ў мінулым годзе з 2391 да 2149**; прыбытак у сярэднім на адну гаспадарку склаў 1152 млн. рублёў.

❑ Дэпутаты гарадскога Савета Жлобіна прынялі рашэнне **абкласці гаспадароў сабак спецыяльным падаткам** — 20 працэнтаў мінімальнай зарплаты за кожную жывёліну.

❑ У першым паўгоддзі **пакінуць межы Беларусі** па падробленых дакументах спрабавала 382 чалавекі.

❑ Ад Міжнароднага валютнага фонду ў 1993—1995 гадах **рэспубліка атрымала крэдыт** на агульную суму 275 мільёнаў долараў ЗША.

# Створана юрыдычная аснова далейшага развіцця супрацоўніцтва Беларусі і Францыі з улікам узаемных інтарэсаў

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**Т. ВІННІКАВА — Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка:**

— Самым галоўным вынікам праведзеных у Парыжы перагавораў з кіраўніцтвам Нацыянальнага банка Францыі з'явілася тое, што падпісаны канкрэтныя пагадненні аб аказанні нашай дзяржаве дапамогі ў станаўленні рынку каштоўных папер. Важна, што за гэту справу ўзяліся спецыялісты з Францыі, паколькі менавіта ў гэтай краіне распрацаваны і дзейнічаюць новыя банкаўскія тэхналогіі ў гэтай сферы. Акрамя таго, спецыялісты Нацбанка Францыі будуць дапамагаць Беларусі і ў станаўленні новых тэхналогій у галіне бухгалтарскага ўліку. У Нацбанку нашай рэспублікі ўжо працуе эксперт французскага банка, які пераводзіць банкаўскі бухгалтарскі ўлік на новыя для нас, але прынятыя ў міжнароднай практыцы «рэйкі». Ужо відаць першыя вынікі: Беларусь практычна ўжо працуе па новых стандартах. Іншыя краіны СНД зацікаўлены ў тым, каб аналагічныя тэхналогіі былі ўкаранёны ў іх. Новая сістэма паспяхова апрабавана ў дзеянні. Яна сапраўды дае магчымасць Беларусі інтэгрыравацца ў сусветную банкаўскую сістэму.

Пры наведанні Нацбанка Францыі вельмі важным пытаннем было вывучэнне сістэмы захоўвання залатога запасу дзяржавы. На жаль, у Беларусі захоўванне золата і выкарыстанне яго ў якасці аднаго з інструментаў грашовага рынку не практыкавалася. Прэзідэнт Беларусі падпісаў Указ, згодна з якім залаты запас дзяржавы будзе захоўвацца ў Нацбанку. Пытаннямі кіравання залатым запасам у такіх умовах добра валодае Францыя, паколькі ў яе Нацбанку захоўваецца не толькі свой нацыянальны залаты запас, але і часткова залатыя запасы Расіі, шэрага дзяржаў Балтыі. Важна, каб залаты запас адначасова адыгрываў некалькі функцый: ролю закладу, гаранта пры выдзяленні крэдытных ліній.

Вельмі важна падкрэсліць значнасць банка «Крэдзі Камерсіяль дэ Франс». Гэты банк ужо два гады працуе на беларускім рынку. Яго спецыялісты вучаць нашых прынцыпам інтэграцыі беларускіх банкаў у сусветную банкаўскую сістэму.

«Крэдзі Камерсіяль дэ Франс» — адзін са старэйшых і вельмі аўтарытэтных банкаў Францыі. Яму больш як сто гадоў. У банка вельмі салідная кліентура. Там абслугоўваюцца ў асноўным буйнейшыя прадпрыемствы электронікі, энергетыкі, транспарту.

На ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў прынята рашэнне аб стварэнні камісіі па выдзяленню Беларусі крэдытнай лініі ў памеры 200—300 мільёнаў долараў ЗША. Хутчэй за ўсё, гэта будуць таварныя крэдытныя лініі.

У ходзе сустрэчы з кіраўнікамі Нацбанка Францыі і банка «Крэдзі Камерсіяль дэ Франс» гаварылі аб стварэнні ўмоў для магчымага прадастаўлення адзін другому крэдытных ліній непасрэдна для бізнесменаў. У прыватнасці, абмяркоўвалася магчымасць крэдытавання французскімі банкамі сваіх кліентаў, якія ўкараняюць свае тэхналогіі і займаюцца вытворчасцю ў Беларусі.

Буйныя прадпрыемствы Францыі, у тым ліку «Алькатэль» і шэраг энергетычных фірмаў прапанавалі размясціць свае інвестыцыі на тэрыторыі Беларусі, а Нацбанк і «Крэдзі Камерсіяль» гатоў фінансаваць гэтыя праекты.

Вельмі важна, што буйнейшая ў Францыі страхавая фірма «КОФАС» згадзілася страхаваць гэтыя інвестыцыйныя праграмы. «КОФАС» даволі даўно працуе на беларускім рынку і яе кіраўніцтва пераканалася ў прыстойнасці беларускіх партнёраў.

**М. МАРЫНІЧ — міністр знешніх эканамічных сувязей:**

— Візіт прайшоў даволі паспяхова. Эканамічны блок абмеркаваных у Парыжы пытанняў вырашаны. Падпісаны пагадненні з кампаніяй «Жэк-Альстон» на пастаўку абсталявання для адной з нашых ТЭЦ. Гэта кампанія валодае перадавымі тэхналогіямі ў данай галіне. Абсталяванне, якое яна выпускае, каштуе ніжэй, чым аналагі, што прапануюцца іншымі, не менш аўтарытэтнымі фірмамі. Лічу, што ў энергетычнай галіне Беларусі сітуацыя можа вельмі хутка змяніцца ў лепшы бок, у прыватнасці, у плане эканоміі энергіі.

Падпісана пагадненне па мадэрнізацыі сетак сувязі Беларусі, пераводу іх на сучасныя оптыкавалакністыя кабелі. Таксама падпісана беларуска-французскае пагадненне аб аўтамабільных перавозках, якое спрашчае схему перамяшчэння транспарту адзін да другога. У рамках гэтага дакумента французскі бок будзе вывучаць праекты па мадэрнізацыі беларускіх аўтамабільных дарог і інфраструктуры. Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця гатоў фінансаваць такія праекты і, у першую чаргу, па мадэрнізацыі аўтастрады Варшава—Брэст—Мінск— Масква.

Сустрэча Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі з кіраўнікамі вядучых банкаў і кампаній Францыі ў мясцовым Патранаце прамысловасці была вельмі важнай для Беларусі. Прэзідэнт растлумачыў французскім прадпрымальнікам тактыку і стратэгію развіцця эканомікі Беларусі, прапанаваў ім больш актыўна працаваць на беларускім рынку, у тым ліку і ў ствараемых у рэспубліцы свабодных эканамічных зонах (СЭЗ). У прыватнасці, кіраўнік Беларусі заклікаў французскіх бізнесменаў удзельнічаць у рабоце СЭЗ, якая ствараецца ў раёне аэрапорта «Мінск-2».

Вельмі станоўчую рэакцыю з боку дзелавых колаў Францыі выклікала інфармацыя Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб тым, што парламент Беларусі прыняў закон, які дапускае прадастаўленне пад буйныя інвестыцыйныя праекты землі ў прыватную ўласнасць замежным кампаніям. Не сумняваюся, што пасля гэтага французскі капітал больш актыўна «пацячэ» ў Беларусь.

У Парыжы было падпісана пагадненне паміж французскімі прадпрымальнікамі і аб'яднаннем «БелВАР» па вытворчасці касавых апаратаў новага пакалення. Яны змогуць спрасціць разлікі ў гандлі на ўнутраным рынку.

На мой погляд, вельмі добрае пагадненне падпісана паміж Віцебскім малочным камбінатам і французскай фірмай па вытворчасці казеіну. Ядрэнны дагавор быў таксама падпісаны французскай фірмай з Нясвіжскім заводам аб сумеснай дзейнасці ў галіне катанізацыі льну.

Кіраўнік Белзнешэканомбанка падпісаў пагадненне са сваімі французскімі калегамі па прадастаўленню крэдыту для фінансавання ўкаранення новых тэхналогій: па катанізацыі льну на беларускім ільнокамбінаце і па закупцы абсталявання для Жлобінскага металургічнага камбіната.

З віцэ-прэм'ерам рэспублікі В. Кокаравым наведалі адну з атамных электрастанцый (АЭС). На свае вочы пераканаўся, як французы даражаць сваімі тэхналогіямі. Больш як 80 працэнтаў усёй электраэнергіі, якая выпрацоўваецца ў Францыі, атрымліваецца ў выніку дзейнасці АЭС. 60 працэнтаў гэтай энергіі экспартуецца. АЭС маюць надзейную ахову з пункту гледжання экалогіі.

Беларусь мае вялікую патрэбу ва ўласнай электраэнергіі.

Думаю, што ў рэспубліцы няма альтэрнатывы стварэнню АЭС. Рана ці позна на гэта трэба будзе пайсці. Вопыт, у тым ліку і Францыі, дае магчымасць сцвярджаць, што будаўніцтва надзейнай, паўтараю надзейнай, АЭС у Беларусі будзе садзейнічаць нармальнай рабоце эканомікі дзяржавы, умацаванню яе эканамічнай бяспекі.

Але самым галоўным вынікам паездкі дзяржаўнай дэлегацыі ў Парыж з'явілася прыняцце рашэння аб стварэнні змешанай камісіі, якая прааналізуе інвестыцыйныя праекты і прадставіць іх ураду Францыі для прыняцця рашэння па адкрыццю крэдытнай лініі. Дасягнута папярэдняя дагаворанасць у тым, што першая крэдытная лінія будзе адкрыта ў памеры 200—300 мільёнаў долараў ЗША.

**У. ЛАТЫПАЎ — першы памочнік Прэзідэнта Беларусі:**

— Адносіны з Францыяй на Захадзе для Беларусі важныя не менш, чым з Расіяй на Усходзе. Гэта пацвярджаецца дасягнутай у ходзе візіту дагаворанасцю, што Францыя будзе садзейнічаць інтэграцыі Беларусі ў Еўрапейскі Саюз.

Падводзячы вынікі праведзеных перагавораў кіраўнікоў дзяржаў неабходна адзначыць, што пазіцыі прэзідэнтаў Беларусі і Францыі ў многім супалі і па пытанню перспектыў расшырэння НАТО на Усход. Кіраўнікі рэспублік перакананы, што Паўночна-Атлантычны альянс неабходна рэфарміраваць. Расшырэнне НАТО на Усход не павінна адбывацца хутка. Прэзідэнт Францыі Ж. Шырак выказаўся за расшырэнне НАТО без ушчамлення інтарэсаў Расіі, Беларусі і Украіны. Простае расшырэнне НАТО, якое стваралася ў процівагу СССР, паводле яго слоў, цяпер не патрэбна. НАТО неабходна рэфарміраваць, перакананы Ж. Шырак. Абодва прэзідэнты, такім чынам, пацвердзілі падабенства падыходаў і ў адносінах да забеспячэння агульнаеўрапейскай бяспекі.

**Інтэрфакс.**

## СКАНДАЛ

## Сэр Пітэр Эмеры «выручыў» Беларусь у Стакгольме

**Удзельнікі пятай Стакгольмскай сесіі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), прадстаўнікі беларускай дэлегацыі днямі сустрэліся ў Вярхоўным Савеце з журналістамі, каб паведаміць пра вынікі паездкі ў Швецыю. Адразу заўважу, што замест шасці дэпутатаў парламента (менавіта такое прадстаўніцтва мае Рэспубліка Беларусь) на сесіі прысутнічала толькі трое дэлегатаў: Ігар Катляроў, Мікалай Бекіш і Віктар Цярэшчанка. Адной з прычын такога становішча стала тое, што ўрад Беларусі не ўнёс своечасова ўзнос за ўдзел у АБСЕ. Ведаючы тое, што беларусы не будуць мець голасу пры галасаванні на сесіі, частка членаў дэлегацыі адмовілася ад паездкі.**

Але сенсацыйным стала не гэтае паведамленне, а тое, што ўзнос за Беларусь ужо ў час сесіі ў Стакгольме ўнесла прыватная асоба. 65.982 дацкія кроны, што прыкладна роўна 9000 долараў ЗША, заплаціў казначэй АБСЕ, дэпутат Палаты абшчын Вялікабрытаніі сэр Пітэр Эмеры. «Мы, вядома, далі распіску, што наша дзяржава верне грошы, але вы нават уявіць не можаце, як сорамна было перад гэтым чалавекам, паколькі сп. Эмеры зрабіў гэта без нашай згоды нават не папярэдзіўшы пра свой учынак, — сказаў Ігар Катляроў. — Да таго ж сорамна было падчас галасавання, калі мы не маглі прымаць у ім удзел, а нашы суседзі здзіўлена азіраліся на нас. Для іх гэта было проста незразумела». Як стала вядома, узнос не заплацілі яшчэ дзве дзяржавы: Туркменістан і Таджыкістан, якія маюць намер выйсці з арганізацыі. «Калі краіна вырашыла ўдзельнічаць у рабоце якой-небудзь арганізацыі, то павінна выконваць абавязкі, якія з гэтага вынікаюць», — заўважыў І. Катляроў.

Многае здзівіла і нашых парламентарыяў у Швецыі. Яны пераканаліся ў тым, што пра нашу краіну амаль нічога не ведаюць: ні пра становішча з правамі чалавека ў Беларусі, ні пра чарнобыльскую праблему. «Нават нашага флага, ні старога, ні новага там нідзе, акрамя залы пасяджэння сесіі, не пашчасціла ўбачыць у той час, калі флагі ўсіх астатніх краін-удзельніц былі паўсюдна вывешаны», — зазначылі дэпутаты. Такім чынам, удзельнікі прэс-канферэнцыі яшчэ раз пераканаліся ў слабой міжнароднай дзейнасці Беларусі, у недахопе парламенцкага вопыту. «Але калі мы і далей будзем сябе так весці, то ніколі не станем уплывовым салідным партнёрам заходніх краін», — падкрэсліў І. Катляроў.

Тым не менш на сесіі не ўсё было так дрэнна. Нягледзячы на прыкры і непрыемны інцыдэнт, члены беларускай дэлегацыі сустрэліся амаль з усімі дэлегацыямі, якія прынялі ўдзел у рабоце сесіі. А ў апошні дзень, калі ўжо было атрымана права голасу, беларуская дэлегацыя нават унесла некалькі дапаўненняў у выніковыя рэзалюцыі сесіі АБСЕ. У прыватнасці, некаторыя з іх тычыліся чарнобыльскіх праблем.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



## ФУТБОЛ

## МАЗЫРАНЕ ЖЫВУЦЬ НАДЗЕЯЙ

**У сродках масавай інфармацыі паведамлялася ўжо аб выніках жараб'ёўкі папярэдняга этапа ў розыгрышы Кубка УЕФА і Кубка кубкаў. Апошні трафей, як вядома, будзе аспрэчваць мазырскі МВКЦ, якому жэрабя ў сапернікі вызначыла ісландскі «Рэйк'явік».**

Палескія футбалісты праводзяць першы матч 8 жніўня і намерваліся згуляць яго на стадыёне ў Магілёве, паколькі мясцовы стадыён «Юнацтва» красавіцкай інспекцыяй УЕФА з-за нязначных недаробкаў не быў прыняты.

Зараз жа мазыране жывуць надзеяй, што дамашні матч любімай каманды пройдзе ў самім Мазыры. Днямі ва УЕФА з футбольнага клуба МВКЦ пайшоў факс з просьбай накіраваць новую інспекцыю. Таму што ўвесь комплекс работ па заўвагах камісіі поўнасцю выкананы, а менавіта:

— закончана ўзвядзенне стадыённай агароджы, як таго патрабуе УЕФА;

— падрыхтаваны дзве гасцініцы для прыёму суддзяў і каманды сапернікаў;

— пабудавана аўтамабільная стаянка паблізу стадыёна на 200 машын;

— абсталяваны дзве раздзельныя ложы: для журналістаў і ганаровых гасцей;

— узведзена аднапавярховае памяшканне, у якім па еўрапейскіх нормах устаноўлена тэлефонная, факсавая і мадэмная сувязь.

Магчыма, адпраўленая ва УЕФА папера з просьбай праверыць футбольную гаспадарку Мазыра па новаму і дасць свой плён. І тады надзеі мясцовых футбольных балельшчыкаў і проста аматараў спорту ўбачыць дэбют сваёй каманды на еўрапейскім узроўні ў «родных сценах» стане рэальнасцю.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ХРОНІКА «БАЗАРНЫХ» ДЗЁН

## ГАЛАСЫ ДЫЯСПАРЫ

**Беларуская дыяспара на «Славянскім базары», як заўсёды, вылучаецца гасціннасцю. Таму што большасць часу на сцэне ўсё ж праводзяць госці, якіх з задавальненнем чакае віцебская публіка.**

Затое дзень 14 ліпеня быў афіцыйна замацаваны ў канстытуцыі сёлетняга фестывалю як дзень Рэспублікі Беларусь. Вось тут мы і паказалі, хто на што здольны. На вячэрнім гала-канцэрце адчувалася рука таленавітага рэжысёра сучаснасці Мікалая Пінігіна і погляд на беларускую рэчаіснасць мастака Зіновія Марголіна. Сярод кампаніі, якую запрасілі ў Віцебск, Уладзімір Мулявін, знайшлося месца Камернаму хору РБ, Камернаму аркестру ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, беларускім народным танцам у выкананні «Харошак», «Камерацe», англамоўнай «Рублёвай зоне» і «Палацу». Была ў праграме частка, якую назвалі «радыё настальжы», дзе гучалі песні ў выкананні «экс-песняра» Валерыя Дайнэкі, «Сяброў» і дуэта Ціхановіч + Паплаўская. Паказаліся нашы «эмігранты» Алёна Свірыдава і Юрый Антонаў. Прагучаў неўміручы паланэз М.-К. Агінскага «Развітанне з Радзімай». Шоу скончылася феерверкам. Але такое адчуванне, што ў гэтым спектаклі не было апошняй з'явы. Гэта шоу павінна працягвацца.

## З ПЕСНІ СЛОВА НЕ ВЫКІНЕШ. ПРАСЦЕЙ — ВЫКІНУЦЬ ПЕСНЮ

**Праспяваўшы ўсяго адну песню ў беларускім канцэрце, гурт «Палац» пакінуў Віцебск. «Палацу» не знайшлося болей месца на фестывальных канцэртах.**

Гурт выкраслілі з праграмы шоу «Міс-славянка», як гэта планавалася раней. У канцэртах адкрыцця і закрыцця таксама прадстаўляць Беларусь будуць іншыя. Даўно вядомыя і прызнаныя аўтарытэты. Канешне, навошта з гэтай моладдзю важдацца — яна ж непрадказальна таленавітая.

**Ларыса ЦІМОШЫК,**
*Віцебск.*

## НЯЯКАСНЫ ПРАЯЗНЫ — ПРАБЛЕМА ТОЛЬКІ ПАСАЖЫРА?

**Як паведамляла раней «Звязда», у красавіку ў Мінскім метрапалітэне былі ўведзены ў абарачэнне пластыкавыя праязныя. Праз некалькі месяцаў мінчане ўжо могуць меркаваць аб тым, наколькі эфектыўным было гэта наваўвядзенне. Неаднаразова жыхарам сталіцы прыходзілася быць сведкамі гарачых спрэчак, якія ўзнікаюць ля турнікетаў паміж пасажырамі і кантралёрамі. Прычына — нездавальняючая якасць новых праязных дакументаў.**

У вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома пацвердзілі, што пластыкавыя праязныя, якія выпускаюцца айчыннымі вытворцамі, сапраўды на сённяшні дзень далёкія ад дасканаласці, зрэшты як і апараты кадзіравання праязных, а таксама апараты перадпродажнай праверкі. Але гэты факт зусім не азначае, што будуць вернуты назад усім прывычныя, простыя ў абарачэнні папяровыя праязныя дакументы.

Папяровы праязны — дзень учарашні: ні разгрузіць службовы праход на станцыях, ні пазбегнуць умела падробленага праязнога дакумента на ксераксах ён не ў стане. А таму, каб зноў не вынаходзіць веласіпед, нашы транспартнікі маюць намер у самы бліжэйшы час вывучыць вопыт выкарыстання імпартных аднаразовых пластыкавых картак вытворчасці ЗША у Санкт-Пецярбургскім метрапалітэне. Як паказала практыка, айчынныя пластыкавыя праязныя не вытрымліваюць шматразовага кадзіравання. Такім чынам, плануецца пераход да выкарыстання выключна аднаразовых праязных дакументаў у метро, прычым, калі вопыт калег з Расіі будзе прызнаны пасляховым, то залогавы кошт новых пластыкавых праязных зменіцца: у параўнанні з вырабамі айчыннай вытворчасці (а цяпер ён складае 10 тыс. руб.) імпартная картка будзе каштаваць нашаму пасажыру прыблізна ў 3 разы танней.

А пакуль мінчанам толькі застаецца ў выпадку няспраўнасці новага праязнога аспрэчваць свае правы ва Упраўленні метрапалітэна, дзе ёсць магчымасць яго замены. Толькі вось ці ў кожнага знойдзецца час для гэтага...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы пераменная воблачнасць, па паўночнай палавіне — невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Магілёве 16—18, Віцебску 15—17, Брэсце і Гомелі 18—20 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак неба воблачнае з праясненнямі, у паўночных і ўсходніх раёнах — кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы 5—10, удзень 14—19 градусаў цяпла.

## ГРАШОВЫЯ КУРСЫ: ГАВОРЫМ «ЗАЙЧЫК», РАЗУМЕЕМ — «РУБЕЛЬ»

**Учора расійская Дзярждума на чарговым пленарным пасяджэнні прыняла вельмі важны для нашай рэспублікі федэральны закон «Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж урадам, Цэнтральным банкам Расійскай Федэрацыі і ўрадам, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь аб мерах па забеспячэнню ўзаемнай канвертуемасці і стабілізацыі курсаў расійскага і беларускага рублёў».**

У сувязі з гэтым намеснік міністра фінансаў РФ Алег В'ючык паведаміў: «Пагадненне аб узаемнай канвертацыі валют дзвюх рэспублік было падпісана яшчэ ў пачатку студзеня 1995 года. Працяглая паўза была выклікана тым, што не былі дасягнуты пэўныя параметры стабільнасці не толькі расійскай, але і беларускай валюты. Быў вялікі працэнт інфляцыі. А без гэтай умовы любыя механізмы застануцца толькі на паперы. Да пачатку 1996 года гэтыя праблемы былі больш-менш вырашаны і ў Расіі, і ў Беларусі. Цяпер з'явілася магчымасць не толькі для правядзення ўзаемаразлікаў у любой валюце — і ў расійскіх, і ў беларускіх рублях, — але і для прадастаўлення крэдытаў у нацыянальнай валюце. Цяпер дзве дзяржавы маюць магчымасць стварэння банкамі цэнтралізаваных фондаў з тым, каб з дапамогай рыначных інструментаў рэгуляваць курс рублёў. Будзе ўстаноўлены парадак дэкларавання, створаны ў Расіі і на Беларусі абменныя пункты, будуць забяспечаны курсавыя каціроўкі.

Гэты дакумент узаемавыгадны для абедзвюх дзяржаў і не патрабуе для яго рэалізацыі дадатковых затрат».

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## ЛЕТНЯЯ ПРАКТЫКА СКОНЧЫЛАСЯ ТРАГЕДЫЯЙ

**У Купальскую ноч на геабазе ля вёскі Калдыкі, што ў Валожынскім раёне, адбылося забойства.**

З 27 чэрвеня там знаходзіліся студэнты-практыканты геафака БДУ. Вечарам, 6 ліпеня, 3 мінчаніны на машыне, адзін з якіх прыехаў сюды да сваёй дзяўчыны ў суседнюю вёску, вырашылі адзначыць свята. У 2 гадзіны ночы яны ў нецвярозым стане ўчынілі бойку, у выніку якой 4 чалавекі былі паранены, адзін з іх памёр па дарозе ў бальніцу. Забойцы затрыманы.

**Яна САВІЦКАЯ.**

## Ігнат Іванавіч ТАЎГЕНЬ

13 ліпеня 1996 г. на 58-м годзе жыцця раптоўна памёр намеснік кіраўніка апарату Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Таўгень Ігнат Іванавіч.

Працоўную дзейнасць Ігнат Іванавіч пачаў на сваёй радзіме, у Валожынскім раёне. Большую частку свайго жыцця ён прысвяціў выхаванню моладзі. Працаваў настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе, у камсамольскіх органах рэспублікі, на адказных пасадах у Міністэрстве адукацыі і Дзяржаўным камітэце па прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі.

Выдатны арганізатар і працавіты работнік, ён карыстаўся павагай і ў апараце ўрада Рэспублікі Беларусь, дзе з 1986 года прайшоў шлях ад старшага інструктара да намесніка кіраўніка апарату Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

За працоўныя заслугі Ігнат Іванавіч Таўгень узнагароджаны медалямі «За працоўную доблесць», «За доблесную працу. У гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна», «Ветэран працы» і дзвюма Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Светлая памяць пра Ігната Іванавіча Таўгеня назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А. А. Сакалоўскі, Г. І. Кумпіцкі, Ф. М. Азараў, В. А. Антонаў, І. І. Гаўрылаў, А. А. Годаў, Г. В. Грынкевіч, І. К. Грамыка, Л. П. Гуляка, І. М. Лемяшэўскі, А. Н. Максіменка, Д. І. Маліноўскі, Ю. В. Мельнікаў, В. В. Міхайлаў, С. С. Палонік, В. П. Пугачоў, В. П. Пшанічны, Б. А. Саўчанка, В. В. Цяліпка, В. Я. Філонаў, Я. І. Функ, С. С. Шухно, А. А. Яновіч.**

*ПОГЛЯД*

# ПРЫВАТНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ НА ЗЯМЛЮ: АДНОСІНЫ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ

**Ігар ПЕЛІПАСЬ, к.э.н., намеснік дырэктара НІСЭПД**

***Пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю, якое, на наш погляд, з'яўляецца чыста эканамічным, даволі часта выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах і пераходзіць у ідэалагічную плоскасць. Але прыватная ўласнасць, уключаючы ўласнасць на зямлю — аснова любой рыначнай сістэмы.***

Многія сродкі масавай інфармацыі, публікуючы даныя сацыялагічных апытанняў, спрабуюць унушыць, што пераважнай большасці насельніцтва Беларусі неўласцівая нават сама ідэя прыватнай уласнасці на зямлю. Так, звычайна прыводзіцца наступная аргументацыя («Знамя юности», 22 сакавіка 1996 г., «Беларуская думка», 1996, № 3):

1) большасць насельніцтва выступае супраць прыватнай уласнасці на зямлю (паводле даных праф. І. Катлярова, толькі кожны сёмы жыхар Беларусі выступае за прыватную ўласнасць на зямлю, г. зн. прыкладна 14 працэнтаў насельніцтва);

2) назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя падзення папулярнасці ідэі прыватнай уласнасці на зямлю;

3) актыўней за прыватную ўласнасць на зямлю выступаюць тыя, хто «жыве сярод асфальту, працуе ў цяпле за кульманамі ці канторскімі сталамі, а то і проста вучыцца», чым жыхары сяла, г. зн. тыя, хто зямлю апрацоўвае;

4) насельніцтва занепакоена тым, што іншаземцы скупяць у нас усю «зямлю-карміцельку».

Прыведзеныя вышэй аргументы грашаць, на наш погляд, залішняй эмацыянальнасцю. Аднак больш важна, канешне ж, тое, наколькі ўсё гэта спрыяе рэальнаму становішчу спраў.

У маі-чэрвені 1996 г. Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у рамках праекта «Фарміраванне грамадскіх лідэраў у посткамуністычнай Беларусі» правёў чарговае агульнанацыянальнае апытанне дарослага насельніцтва Беларусі па рэпрэзентатыўнай выбарцы (апытана 1535 чалавек, памылка выбаркі — 3 працэнты). Выкарыстоўваючы атрыманыя даныя, а таксама вынікі папярэдніх агульнанацыянальных апытанняў НІСЭПД, паспрабуем высветліць, ці сапраўды насельніцтва Беларусі ў цэлым выступае супраць прыватнай уласнасці на зямлю.

Тут трэба адзначыць, што вельмі часта адказ на зададзенае рэспандэнту пытанне залежыць ад яго фармулёўкі. Можна, напрыклад, спытаць у пажылога чалавека нешта накшталт: «Ці хочаце вы прыватнай уласнасці на зямлю, у выніку чаго дамарослыя капіталісты і іх замежныя калегі скупяць усю зямлю-матухну і заэксплуатуюць да смерці народ Беларусі?» Адказ на такое пытанне ў нашых умовах відавочны — «не». Аднак больш спакойныя і нейтральныя фармулёўкі, магчыма, прывядуць да іншага адказу і дазволяць высветліць сапраўдныя адносіны насельніцтва да той ці іншай праблемы. Можна таксама прапанаваць у якасці альтэрнатывы прыватнай уласнасці на зямлю і такі даволі няпэўны, на нашу думку, варыянт, як доўгатэрміновая арэнда і г. д.

У ходзе нашых апытанняў пытанні, што датычылі прыватнай уласнасці на зямлю, былі сфармуляваны наступным чынам: **«Ці дапушчальная прыватная ўласнасць на зямлю ў Беларусі для яе грамадзян?»** і **«Ці дапушчальна, каб іншаземцы маглі валодаць зямлёй у Беларусі?»** Зразумела, што дапушчэнне прыватнай уласнасці на зямлю мае на ўвазе таксама магчымасць куплі-продажу зямельных участкаў (іначай, якая ж гэта прыватная ўласнасць). Акрамя таго, мы мяркуем, што няма сэнсу, апытваючы насельніцтва, закранаць спецыфічныя моманты: напрыклад, якая частка зямельных угоддзяў і якія зямельныя ўчасткі павінны застацца ва ўласнасці дзяржавы, якія абмежаванні варта ўвесці пры куплі-продажы зямлі і інш. Калі пытанне пра прыватную ўласнасць на зямлю вырашана ў прынцыпе, дык усе астатнія праблемы павінны вырашацца зыходзячы з прынцыпу эканамічнай эфектыўнасці і канкрэтнай сітуацыі.

**Табліца 1. Адносіны насельніцтва Беларусі да прыватнай уласнасці на зямлю (у прац.)**

| Ці дапушчальная прыватная ўласнасць на зямлю ў Беларусі для яе грамадзян? | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 |
|---|---|---|---|---|
| Так | 72,1 | 72,5 | -* | 79,1 |
| Не | 26,6 | 27,0 | -* | 17,0 |
| Не далі адказу | 1,3 | 0,5 | -* | 3,9 |
| **Ці дапушчальна, каб іншаземцы маглі валодаць зямлёй у Беларусі?** | **1993** | **1994** | **1995** | **1996** |
| Так | 20,3 | 20,7 | 19,5 | 22,5 |
| Не | 78,2 | 78,9 | 80,0 | 76,5 |
| Не далі адказу | 1,5 | 0,4 | 0,5 | 1,3 |

* Гэтае пытанне ў ходзе апытання 1995 г. не задавалася.

**Табліца 2. Адносіны гарадскога і сельскага насельніцтва Беларусі да прыватнай уласнасці на зямлю (у прац.)**

| Ці дапушчальная прыватная ўласнасць на зямлю ў Беларусі для яе грамадзян? | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 |
|---|---|---|---|---|
| Гарадскія жыхары | 76,2 | 76,8 | - | 80,2 |
| Сельскія жыхары | 62,6 | 64,9 | - | 77,5 |
| **Ці дапушчальна, каб іншаземцы маглі валодаць зямлёй у Беларусі?** | **1993** | **1994** | **1995** | **1996** |
| Гарадскія жыхары | 25,3 | 26,0 | 21,5 | 28,2 |
| Сельскія жыхары | 9,8 | 10,7 | 15,4 | 19,6 |

Што ж думаюць грамадзяне Беларусі наконт прыватнай уласнасці на зямлю? Як бачна з табліцы 1, пачынаючы з 1993 г. больш 70 працэнтаў рэспандэнтаў выказваліся на карысць прыватнай уласнасці на зямлю для грамадзян Беларусі. Акрамя таго, няма ніякіх падстаў сцвярджаць, што папулярнасць ідэі прыватнай уласнасці на зямлю мае тэндэнцыю да зніжэння. Што датычыцца іншага аспекта праблемы — магчымасці для замежных грамадзян быць уласнікамі зямлі ў Беларусі, дык прыхільнікаў гэтага значна менш. І ўсё ж прыкладна пятая частка апытаных не бачыць тут ніякай пагрозы для нашай краіны.

Страсці з нагоды таго, што іншаземцы за бясцэнак могуць скупіць усё і ўся, тыповыя для большасці посткамуністычных краін і, як правіла, падаграюцца палітыкамі, што выступаюць супраць радыкальных эканамічных рэформаў. Аднак практыка паказвае, што гэтыя апасенні беспадстаўныя: жадаючых купляць што-небудзь у былых сацкраінах (асабліва з няўстойлівай эканамічнай і палітычнай сітуацыяй) сярод іншаземцаў вельмі мала.

Можа быць, толькі гараджане так «легкадумна» ставяцца да гэтай праблемы, а сельскія жыхары катэгарычна супраць прыватнай уласнасці на зямлю? Нашы даныя сведчаць, што гэта не так (табл. 2). Хоць даныя па гораду і сялу крыху адрозніваюцца, колькасць прыхільнікаў прыватнай уласнасці на зямлю сярод сельскіх жыхароў, як бачым, даволі высокая і мае тэндэнцыю да павелічэння.

Нашы даныя паказваюць, што грамадская думка наконт прыватнай уласнасці на зямлю дастаткова аднародная. У табл. 3 прадстаўлены вынікі апошняга апытання НІСЭПД і даныя праф. І. Катлярова («Беларуская думка», 1996, № 3, с. 40-41). Мы разумеем, што прыведзеныя даныя непараўнальныя, па крайняй меры, з-за рознай фармулёўкі пытання. Аднак варта звярнуць увагу на тое, што праф. І. Катляроў, апіраючыся на свае даныя, робіць вывады прама процілеглыя рэальнаму становішчу спраў. У сапраўднасці, як сведчаць вынікі апытанняў НІСЭПД за шэраг гадоў, насельніцтва Беларусі даволі цярпліва ставіцца да ідэі прыватнай уласнасці на зямлю, і гэтую сітуацыю трэба было б выкарыстаць для паглыблення эканамічных рэформаў.

**Табліца 3. Адносіны да прыватнай уласнасці на зямлю розных катэгорый насельніцтва Беларусі**

| Катэгорыі насельніцтва | | Ставяцца станоўча да прыватнай уласнасці на зямлю, прац. | | Разыходжанне, разоў |
|---|---|---|---|---|
| Апытанне НІСЭПД | Апытанне праф. І. Катлярова | Даныя НІСЭПД | Даныя праф. І. Катлярова | |
| Рабочыя | Рабочыя | 79,5 | 11,5 | 6,9 |
| ІТР і служачыя | ІТР і служачыя | 80,0 | 13,4 | 5,9 |
| Работнікі сельскай, лясной і паляўнічай гаспадаркі | Сяляне | 72,8 | 8,4 | 8,7 |
| Навучэнцы і студэнты дзённага навучання | Навучэнцы і студэнты | 89,7 | 15,8 | 5,7 |

Цікава адзначыць, што станоўча да прыватнай уласнасці на зямлю ставяцца рэспандэнты з рознымі эканамічнымі поглядамі (табл. 4). Канешне, сярод прыхільнікаў рыначнай эканомікі, капіталістычнага шляху развіцця прыхільнікаў прыватнай уласнасці на зямлю больш. Аднак нямала такіх і сярод тых, хто адказаў, што лічыць за лепшае жыць пры сацыялізме і планавай эканоміцы. Гэта даволі цікавы факт: многія людзі, заблытаўшыся ў ідэалагічных установках, робяць даволі прагматычна, калі справа датычыцца канкрэтнага пытання. Вынікі апытання таксама паказваюць, што прыкладна аднолькавыя адносіны да прыватнай уласнасці на зямлю і ў рэспандэнтаў з розным узроўнем матэрыяльнага становішча.

**Табліца 4. Адносіны да прыватнай уласнасці на зямлю ў залежнасці ад эканамічных пераваг (у прац.)**

| Што б вы выбралі? | Лічаць дапушчальнай прыватную ўласнасць на зямлю для грамадзян Беларусі | Лічаць дапушчальным, каб іншаземцы маглі валодаць зямлёй у Беларусі |
|---|---|---|
| *Гарадскія жыхары* | | |
| Рыначную эканоміку | 86,6 | 37,8 |
| Планавую эканоміку | 70,5 | 14,3 |
| *Сельскія жыхары* | | |
| Рыначную эканоміку | 86,8 | 28,1 |
| Планавую эканоміку | 68,8 | 13,3 |
| **Які лад больш прыдатны для Беларусі?** | **Лічаць дапушчальнай прыватную ўласнасць на зямлю для грамадзян Беларусі** | **Лічаць дапушчальным, каб іншаземцы маглі валодаць зямлёй у Беларусі** |
| *Гарадскія жыхары* | | |
| Капіталізм | 88,4 | 44,2 |
| Сацыялізм | 72,4 | 16,4 |
| Іншы | 86,4 | 37,3 |
| *Сельскія жыхары* | | |
| Капіталізм | 89,9 | 34,5 |
| Сацыялізм | 71,6 | 12,3 |
| Іншы | 85,1 | 35,8 |

Дапушчэнне ў шырокіх маштабах прыватнай уласнасці на зямлю і куплі-продажу зямлі не можа прывесці да пагаршэння эканамічнага становішча насельніцтва. Насупраць, гэта будзе спрыяць фарміраванню рыначных адносінаў ва ўсіх сферах эканомікі, прыцягненню інвестыцый і павышэнню эфектыўнасці выкарыстання зямельных участкаў. Насельніцтва Беларусі ў прынцыпе да гэтага гатова. Канкрэтныя праблемы павінны вырашаць адпаведныя спецыялісты і заканадаўцы.

# Адкрыты ліст Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку

Паважаны спадар Прэзідэнт!

Мы вымушаны звярнуцца да Вас ад імя прафкома МГП «Мінскпасажыраўтатранс» у сувязі з тым, што не можам знаходзіцца ўбаку і назіраць, як развальваецца і гіне транспартная сістэма горада Мінска, ды і ўсёй рэспублікі.

Мы крыху хацелі б расказаць пра сябе: МГП «Мінскпасажыраўтатранс» існуе больш за 25 гадоў. У састаў прадпрыемства ўваходзіць сем аўтобусных паркаў, аўтавакзалы горада, РБУ і цэнтральныя аўтарамонтныя майстэрні. На прадпрыемстве працуе больш як 8000 чалавек. Па аб'ёму пасажырскіх перавозак прадпрыемства — самае буйное ў рэспубліцы. Мы ажыццяўляем больш чым 50 працэнтаў усіх аўтобусных перавозак у нашай краіне. Займаемся гарадскімі, прыгараднымі, міжгароднімі і міжнароднымі перавозкамі.

У апошнія гады з-за цяжкага фінансава-эканамічнага становішча працоўны калектыў пастаянна ліхаманіць. Ужо больш як два гады практычна не абнаўляецца рухомы састаў. Калі ўзяць па прабегу, то некаторыя аўтобусныя паркі падышлі ўжо на 90 працэнтаў пад спісанне. І ў гэты час здзіўляе пазіцыя ўрада па пытанню распрацоўкі і вытворчасці ўласнага аўтобуса. У 10-мільённай рэспубліцы асвоена вытворчасць трох відаў аўтобусаў. Замест таго, каб распрацаваць дакладную праграму вытворчасці, мы кідаемся з адной крайнасці ў другую, купляем дарагія тэхналогіі, трацім народныя грошы, а ў выніку нічога не маем.

Такімі тэмпамі ў хуткім часе больш-менш буйное прадпрыемства будзе збіраць уласныя аўтобусы. Неаднаразовыя звароты транспартных прадпрыемстваў аб стварэнні нармальнай, рэальнай праграмы не атрымалі падтрымкі ва ўрадзе, і ў гэтым пытанні пара навесці парадак.

З-за недахопу фінансавання нестае рухомага саставу, запасных частак, прадпрыемствы вымушаны пастаянна скарачаць колькасць аўтобусаў, якія выходзяць на лінію горада. Калі ў 1991 годзе на гарадскія маршруты выходзіла 1100 аўтобусаў, то ў 1996 годзе 800, пры тым, што горад расце, будуецца і засяляе новыя мікрараёны.

Цяпер у сувязі з адсутнасцю сродкаў практычна не набываюцца запасныя часткі, прадпрыемствам аплачваецца толькі паліва і выплачваецца заработная плата, ды і тая з затрымкамі, бывае, што на цэлы месяц. Аўтобусы выходзяць на лінію практычна няспраўнымі, вадзіцелі працуюць на свой страх і рызыку, а мы ж возім людзей.

Калі раніцай на выездзе з паркаў паставіць ДАІ і прад'явіць усе тэхнічныя патрабаванні, на лінію горада выйдуць адзінкі.

Мы разумеем абурэнне пасажыраў, якія незадаволены якасцю абслугоўвання, але калі б яны ведалі, у якім стане знаходзіцца рухомы састаў, яны самі не селі б у нашы аўтобусы. У такім становішчы мы можам пратрымацца яшчэ год, максімум два. Што будзе далей, ніхто сказаць не можа.

Неаднаразовыя звароты да гарадскіх уладаў не прыносяць ніякіх вынікаў.

Адказ адзін: «Грошай няма, бюджэт пусты».

Мы павінны тлумачыць людзям аб цяжкім эканамічным стане ў краіне, і тлумачым, а калі б не тлумачылі, то транспарт даўно б спыніўся.

Затое само кіраўніцтва горада за апошнія два гады ні разу не пабывала ў працоўных калектывах нашага прадпрыемства, а на ўсе нашы запрашэнні адмаўляюцца, спасылаючыся на сваю занятасць. У лепшым выпадку, абыходзяцца запрашэннем да сябе кіраўніцтва прадпрыемства. Як правіла, гэтыя размовы заканчваліся тым, што «бацькі горада» скардзіліся на цяжкае становішча ці прапаноўвалі заняць іх крэслы і пакіраваць, калі мы такія разумныя. Хоць напрошваецца думка, а можа і на самай справе пара мяняць апарат?

Як ужо гаварылася вышэй, абстаноўка ў калектыве застаецца напружанай, звальняюцца высокакваліфікаваныя спецыялісты, прадпрыемства пакідаюць вадзіцелі, якія прапрацавалі па 10—20 гадоў. Цякучасць кадраў складае па вадзіцелях за 1995 год 21,4 працэнта. Гэта па ўсіх парках, а ў гарадскіх яна яшчэ вышэйшая і складае ад 26,2 да 30 працэнтаў. Мы плацім з бюджэту велізарныя грошы за навучанне вадзіцеляў, а людзі звальняюцца, і адной з асноўных прычын з'яўляецца заработная плата, умовы працы.

Так, у адным аўтобусным парку, які працуе на гарадскіх маршрутах, з 90 чалавек, якія прайшлі навучанне на курсах па падрыхтоўцы вадзіцеляў, у 1995 годзе, да канца года працаваць засталіся 8 чалавек.

У некаторых вадзіцеляў заработная плата менш за мільён рублёў, і гэта пры такім рэжыме работы — у 4 гадзіны раніцы быць на рабочым месцы, адпрацаваць змену, заехаць у парк, каб хоць неяк адрамантаваць аўтобус, каб у наступны дзень зноў выехаць на лінію. Цяпер сярод вадзіцеляў і слесараў павялічылася смяротнасць. Асабліва яна высокая ў тых парках, дзе кантынгент працуючых старэйшыя за 40 гадоў. Напрыклад, у аўтобусным парку № 2, дзе вадзіцелі аўтобусаў выязджалі, ды і цяпер ездзяць у чарнобыльскую зону.

Шкада, што ніхто з высокіх начальнікаў не спрабуе, а можа і не жадае заўважаць нашы праблемы. Мы чуем толькі адно: «Давай, давай, давай. Давайце, закрывайце лінію, адкрывайце маршруты, павышайце культуру абслугоўвання». Мы лічым, што перш чым з чалавека патрабаваць, трэба стварыць яму ўмовы для нармальнай працы.

У сваім пісьме мы ўжо не раз звярталі Вашу ўвагу на цяжкае фінансавае становішча нашага прадпрыемства. Цяпер картатэка нашага прадпрыемства складае 42 млрд. рублёў, з іх 28 млрд. — неплацяжы ў бюджэт і 14 млрд. — запазычанасць іншым прадпрыемствам.

Паўтара года назад у прадпрыемства картатэкі не было. Нельга сказаць, што былі добрыя ўмовы. Але, прынамсі, мы разлічваліся з бюджэтам і забяспечвалі прадпрыемствы запаснымі часткамі. Затым гарвыканком і ўпраўленне транспарту і сувязі прынялі рашэнне самі рабіць усе нашы плацяжы. Цяпер вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі праводзіць усе нашы плацяжы праз свой рахунак (прычым — бюджэтны). За паўтара года, практычна штучна яны пасадзілі нас на картатэку. Але, самае цікавае, што Ваша вертыкаль Вас і падманвае. Гаворачы пастаянна аб неплацяжах у бюджэт горада і рэспублікі, яны самі робяць так, каб грошы туды не паступалі.

Наогул, нам цяжка зразумець пазіцыю гарвыканкома ў адносінах да пасажырскага транспарту горада Мінска. Яны не спрабуюць вырашаць транспартныя праблемы, пусцілі ўсё на самацёк, па прынцыпу: выжывайце кожны сам па сабе. На наш погляд, робяць усё, каб нас загубіць.

Апошнім часам наша адміністрацыя і вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі замест вырашэння глабальных праблем заняты высвятленнямі структуры кіравання. Мы разумеем, што настаў час зрабіць рэфармацыю транспартнай сістэмы горада, ды і ў нас ёсць свае ідэі ў гэтым плане, але гарадскія ўлады нават не прыслухоўваюцца да нашых прапаноў, хоць гэтыя прапановы ад спецыялістаў з 15—20-гадовым стажам работы ў сістэме пасажырскага транспарту. У іх адны ідэі — ліквідаваць, разагнаць. Хоць самі паспяхова ўзбуйняюцца. Напрыклад, раней у гарвыканкоме быў аддзел транспарту і сувязі з 4-5 чалавек, а цяпер існуе ўжо вышэйпамянёнае ўпраўленне транспарту і сувязі, якое налічвае больш як 200 чалавек. Стваралася гэта ўпраўленне нібыта для таго, каб займацца кантролем і забяспечваць больш поўнае паступленне выручкі ад рэалізацыі талонаў і праязных білетаў у бюджэт горада. Цяпер гэтыя абавязкі яны пераклалі на нас.

У нашага генеральнага дырэктара на нарадах іншых размоў як аб паступленні даходаў няма. Дык мы гэтым і займаемся: вадзіцелі рэалізуюць талоны (хоць гэта ўплывае на бяспеку руху), ІТР і служачыя, рамонтныя рабочыя ходзяць на кантроль, правяраюць пасажырскі транспарт. Навошта тады столькі людзей ва ўпраўленні транспарту, калі мы выконваем іх функцыі? Адзінай іх задачай стала штодзённа раніцай падзяліць на тры транспартныя арганізацыі суму грошай, якая паступае з бюджэту горада.

Магчыма, прачытаўшы гэта пісьмо, складзецца ўражанне, што мы хочам «падставіць» кіраўніцтва горада і службы, якія адказваюць за транспарт, але гэта не так. Мы хочам, каб вы звярнулі ўвагу на праблемы транспарту горада. Мы разумеем, што Вы заняты, няма часу, але мы просім Вас, калі будзеце разбірацца па гэтых праблемах, запрасіце нас. І няхай гарадскія ўлады адхіляць хоць бы адзін факт. Мы гатовы даказаць усю беспадстаўнасць іх абвяржэнняў. Мы вельмі хацелі б сустрэцца з Вамі і абмеркаваць нашы праблемы, таму што іх значна больш, чым сказана ў гэтым пісьме.

Мы хочам, каб тыя, ад каго залежыць вырашэнне гэтых праблем, зразумелі, што транспарт — артэрыя жыцця горада, ды і ўсёй рэспублікі.

Калі «ляжа» транспарт сталічнага горада, то «лягуць» усе прадпрыемствы, нават тыя, якія яшчэ працуюць.

**По даручэнню прафсаюзнага камітэта МГП «Мінскпасажыраўтатранс» В. ГЕРЦЫК.**

# Прафсаюзны камітэт «Мінскпасажыраўтатранса» перакананы: дбаючы пра адну толькі зарплату і не звяртаючы ўвагі на іншыя праблемы, можна пазбавіцца ўсяго разам — і будучых прыбыткаў, і высокакваліфікаваных спецыялістаў

**Друкуючы адкрыты ліст, мы разумеем, што ва ўсякай справе, ва ўсякім клопаце ёсць, як мінімум, два бакі медаля. Першы прадстаўлены высновамі, выкладзенымі ў лісце прафсаюзнага камітэта. Відавочна, што актыў турбуе не толькі сітуацыя з выплатай зарплаты. Прафсаюзны камітэт добра ведае, што, калі не ўкладваць грошы ў развіццё парка «Мінскпасажыраўтатранса», то ўжо ў бліжэйшай будучыні пагоршыцца стан спраў не толькі, у прыватнасці, у аб'яднанні, але і ў цэлым транспартная сітуацыя ў горадзе.**

**Размаўляючы з работнікамі аўтобусных паркаў, гутарачы з вадзіцелямі, з людзьмі, якія займаюцца рамонтам тэхнікі, нельга сказаць, каб людзі былі ўсім задаволены. Але ж і параўнаць сітуацыю ў іх калектывах з тым, што робіцца на «БелВАРы» і яму падобных, нельга. У параўнанні з іншымі транспартнікі атрымліваюць прыстойную зарплату. Іншая справа, што шчаслівае ці проста бязвоблачнае заўтра залежыць не толькі ад заробленага рубля. Таму і не маўчаць прафсаюзныя актывісты «Мінскпасажыраўтатранса», абіваюць самыя высокія парогі. І вось чаму яны — лідэры прафсаюзных камітэтаў — ідуць гэткім шляхам? На гэтае і іншыя пытанні адказвае старшыня прафкома аўтобуснага парка № 7 Уладзімір Аляксандравіч СУШКО.**

— Усе нашы беды ў першую чаргу, — сцвярджае Уладзімір Аляксандравіч, — звязаны з тым, што мы атрымліваем грошы з гарадскога бюджэту. Таму не хапае, фактычна няма грошай на абнаўленне рухомага саставу, запчасткі. Але ж і ў нармальным памеры на зарплату, паліва — таксама не хапае, не кажучы ўжо і пра сацыяльную сферу. Аўтобусны парк амаль не абнаўляецца. На чым нашы людзі будуць працаваць заўтра?

***— Большасць аўтобусаў патрабуе запчастак замежнай вытворчасці...***

— Так, а на гэта проста няма грошай. Калі ж прыйдуць на змену айчынныя аўтобусы — невядома.

***— Уладзімір Аляксандравіч, але ж аснова ў вашага абурэння непараўнальная з той сітуацыяй, якая існуе на добра вядомых вам іншых прадпрыемствах Мінска... Вось затрымкі ў вас бываюць з заробкам?***

— Па стану на 8 ліпеня разлічыліся за май. Хаця ў калектыўнай дамове дзень зарплаты — 14-е чысло... Аванс таксама абумоўлены. Але за чэрвень не выплачвалі... Зразумейце, што нас турбуе не толькі зарплата. Хаця ў некаторых яна зусім невялікая: часам вадзіцелі атрымліваюць па 900 тысяч рублёў.

***— Але ж часцей за ўсё болей...***

— Атрымліваюць і па 2,5 мільёна рублёў. Але чаму зайздросціць — тытанічныя нагрузкі, пастаяннае напружанне!

***— Уладзімір Аляксандравіч, і ўсё ж вадзіцелі не бастуюць...***

— Вы ж, вядома, памятаеце, некалькі затрымак з нявыездам аўтобусаў на лінію было. У нашым парку — толькі аднойчы. Літаральна — на некалькі гадзін. Таму, што не бастуем, вось і звяртаемся з лістом. Лепш няхай бы рэагаванне было сёння, чым заўтра людзі не змогуць гадзінамі дабрацца да работы. І не таму, што вадзіцелі забастуюць. Проста аджыўшыя свой век аўтобусы не здолеюць выйсці на лінію. А гэта рэальна пагражае Мінску. І, на мой погляд, шмат перашкод у далейшым развіцці з-за таго, што вельмі складаная сістэма кіравання ў нашай сферы. Занадта велізарнае, раздутае па штату кіруе намі вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі Мінгарвыканкома. Мы чакаем ад яго большай дапамогі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### ... А ВОСЬ ПРАЦОЎНЫЯ МІНСКАГА АЎТОБУСНАГА ПАРКА № 5 УПЭЎНЕНЫ, ШТО ЎЛАДЫ, МУСІЦЬ, ЗУСІМ ЗАБЫЛІСЯ ПРА ІСНАВАННЕ ЛЮДЗЕЙ ЗА РУЛЁМ ГАРАДСКІХ АЎТОБУСАЎ

У вечнай мітусні цяперашняга жыцця адным з асноўных прынцыпаў стала амерыканскае перакананне: «Твае праблемы». Можа таму, што ўласных праблем ва ўсіх хапае і няма калі задумвацца аб праблемах іншых людзей. Напрыклад, таго ж вадзіцеля звычайнага гарадскога аўтобуса. Ніхто ж не папытае пра тое, як яму жывецца. А жывецца кепска. Пра гэта карэспандэнт «Звязды» пачуў непасрэдна ад вадзіцеляў аўтапарка № 5. Пра пісьмо прафкома «Мінскпасажыраўтатранса» да Прэзідэнта працоўныя нічога ні чулі, а вось уласнымі турботамі падзяліліся. Асноўнае, што іх зараз хвалюе, — адсутнасць запчастак і поўная безабароннасць перад супрацоўнікамі таго ж вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкома. Якія, па словах шафёраў, не за безбілетнікамі сочаць, а за тымі, хто сядзіць за рулём, — ці працуюць дынамікі, ці прыбрана ў салоне аўтобуса, і гэтак далей. Карацей кажучы, знаходзяць тысячу падстаў, каб напісаць скаргу ў аддзел бяспекі руху аўтапарка, дзе з вадзіцеляў, амаль не разбіраючыся, знімаюць прэмію і выпускаюць крыўдную «маланку» з прозвішчам «вінаватага». Гэта вельмі б'е па кішэні, бо асноўную частку зарплаты шафёраў складаюць менавіта прэміі і грошы за тыя гадзіны, якія яны правялі за рулём. А з-за адсутнасці запчастак і пры дрэнным тэхнічным стане аўтобусаў стаць на рамонт — значыць стаць беспрацоўным. Таму вадзіцелі імкнуцца ўжо самастойна дагаворвацца з механікамі з дапамогай сімвалічнай бутэлькі. Прыходзіцца рамантавацца практычна за свае грошы. Сітуацыя безвыходная, таму пакідаюць аўтапарк высокакваліфікаваныя шафёры — трэба на сям'ю зарабляць. «Пакуль наездзіш тыя 200 гадзін для атрымання больш-менш прыстойнага заробку, усе нервы вытрапаеш, — так засведчыў у гутарцы са мною адзін малады вадзіцель. — Мы ў такой пастцы, выйсці з якой амаль немагчыма».

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### «ЖЫЦЦЁ ПРЫМУШАЕ НАС ЗАРАЗ ПРАЦАВАЦЬ У РАМКАХ ЖОРСТКАЙ ЭКАНОМІІ»

«Зварот прафсаюзнага камітэта «Мінскпасажыраўтатранса» да Прэзідэнта — паказчык утрыманскай паказухі, — лічыць намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома Пётр Сямашка. — Трэба жыць па сродках, улічваючы, што ўсім нясоладка». Камунальны транспарт знаходзіцца на гарадскім бюджэце, недахоп грошай літаральна на ўсе галіны народнай гаспадаркі знайшоў свой адбітак і на ім. Таму зараз задача кожнага прадпрыемства заключаецца менавіта ў павышэнні сваёй канкурэнтаздольнасці на рынку дзеля рэалізацыі прынцыпу самаакупнасці. Плацяжы «Мінскпасажыраўтатранса», ажыццяўляемыя праз рахунак вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі, — мера вымушаная, прадыктаваная сучаснымі эканамічнымі ўмовамі. Без гэтага, на думку Пятра Сямашкі, прадпрыемства спыніцца літаральна праз два тыдні, бо не ў стане будзе аплаціць усе свае расходы, не лічачы ўжо выплаты працоўным заработнай платы. «Неабходна разумець, — зазначыў Пётр Міхайлавіч, — што жыццё прымушае нас зараз працаваць у рамках жорсткай эканоміі. Таму лепш імкнуцца да павышэння эфектыўнасці прадпрыемства, чым перацягваць коўдру на свой бок».

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## *Вячаслаў СІКОРСКІ:* «Калі сёння не гаварыць пра магчымую трагедыю, то заўтра яна будзе абавязкова...»

***Не толькі зварот прафсаюзнага камітэта «Мінскпасажыраўтатранса» да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, але і ўвогуле сітуацыю на прадпрыемстве «Звязда» папрасіла пракаменціраваць генеральнага дырэктара «Мінскпасажыраўтатранса» Вячаслава Уладзіміравіча Сікорскага.***

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, калі на іншых прадпрыемствах не плацяць зарплату два-тры месяцы запар, калі людзей выганяюць у вымушаны неаплатны адпачынак, то, прабачце, на гэтым фоне сітуацыя на вашым прадпрыемстве выглядае не дужа трагедыйнай. На ваш погляд, ці не занадта патэтычныя словы: «...развальваецца і гіне транспартная сістэма горада...»**

— Чаму ж не трагедыйная... Перакананы, што калі сёння не гаварыць пра магчымую трагедыю ў сферы транспарту, то заўтра яна будзе абавязкова. Адна з галоўных сённяшніх праблем — абнаўленне рухомага саставу. У нас сітуацыю дыктуе старэнне транспарту. Абнаўленне за адзін дзень (а наш парк складае 1800 аўтобусаў) не правядзеш. Па ранейшым часе наша прадпрыемства атрымлівала па трыста і болей аўтобусаў. Сёння існуе такая норма: каб парк не сышоў на нішто, трэба штогод абнаўляць яго на 200 аўтобусаў. А мы за апошнія пяць гадоў атрымалі ўсяго 166. Вось і ўлічыце, на якой тэхніцы людзі ездзяць. Выходзяць у рэйс, не ведаючы, ці змогуць нармальна дапрацаваць да канца змены.

**— Такі горкі стан з абнаўленнем нараджае, безумоўна, і іншыя праблемы?**

— Так, і вельмі вострыя. Той фактар, што 46 працэнтаў аўтобусаў выхадзілі свае рэсурсы, безумоўна, уплывае і на цякучку кадраў. Летась, у 1995 годзе, звольнілася каля 1000 чалавек. Улічваючы, мяркуючы па ранейшым часе, што падрыхтоўка высакакласнага вадзіцеля — справа не аднаго дня, можна рабіць пэўныя высновы і адносна таго, чаму падае культура абслугоўвання на гарадскіх аўтобусных маршрутах. Апошнім часам прадпрыемства само падрыхтавала 500 вадзіцеляў, што называецца, з нуля.

Зразумейце, зарплата вадзіцеля залежыць ад колькасці гадзін знаходжання на лініі. Калі ж аўтобус яго прастойвае на рамонце, то адпаведна падае і заробак.

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, калі гаварыць пра абнаўленне аўтобуснага парка, то дзе, у чым шукаць выйсце?**

— Вось за апошнія паўгода мы атрымалі пяць аўтобусаў «МАЗ-101». Я лічу гэта кропляй у моры патрэб. Скараціліся ў нас магчымасці капітальнага рамонту. Разлічваючы толькі на беларускія аўтобусы, на машыны, сабраныя ў Пінску (на «Амкадоры» — «Ікарус-18»), у Лідзе, мы кардынальна не зменім сітуацыю ні ў Мінску, ні ў Беларусі ўвогуле.

**— Дык што, атрымліваецца, няма перспектыў?..**

— Чаму ж няма. Пэўную частку патрэб маглі б задавальняць і гэтыя прадпрыемствы. Але ж і ў іх не ўсё гладка складваецца. І яны патрабуюць дадатковага фінансавання, пэўных, значных інвестыцый. Думаю, што набыццё, абнаўленне аўтобусаў павінна стаць першачарговай задачай у сферы бюджэтнага фінансавання грамадскага транспарту. Патрэбна цэласная праграма. Сёння яна адсутнічае.

**— Прафсаюзны камітэт занепакоены характарам узаемаадносінаў прадпрыемства з вытворчым упраўленнем транспарту і сувязі...**

— Сапраўды, калі ўзнікаюць вялікія праблемы з фінансаваннем, то праглядваецца той момант, што штаты ў кіруючых структур падаюцца вялікімі. Але ж я не хацеў бы тут нешта сцвярджаць. Можа лепей няхай параўноўваюць спецыялісты наша ўпраўленне з адпаведнымі гарадскімі службамі ў іншых такіх жа сталічных гарадах, у суседніх краінах.

**— Прафсаюзны камітэт сцвярджае, што вытворчае ўпраўленне само праводзіць вашы плацяжы праз свой рахунак. І грошы пры гэтым як быццам затрымліваюцца...**

— Што датычыць даходнай часткі, збор якой ажыццяўляе ўпраўленне транспарту і сувязі, то яна адразу ж пасля паступлення размяркоўваецца паміж транспартнымі арганізацыямі горада. І я б не сказаў, што грошы затрымліваюцца на рахунку ўпраўлення. Іншая справа — паступленне бюджэтных сродкаў. Мы знаходзімся на картатэцы. І плацяжы нашы выконвае ўпраўленне. А чаму б нам адразу на прадпрыемства не пералічваць сродкі — не было б тады і картатэкі.

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, і апошняе пытанне — па выплаце зарплаты...**

— Затрымка існуе ўжо і за чэрвень. 13—15 ліпеня павінны былі выплаціць, згодна дагавору. Затрымка ў сувязі з тым, што даходная частка складае (талоны, праязныя) каля 40 працэнтаў, астатнія нашы грошы — з бюджэту. Нерытмічнасць паступлення грошай з бюджэту і з'яўляецца прычынай затрымак па зарплаце.

**Пра адно ў размове з генеральным дырэктарам «Мінскпасажыраўтатранса» не гаварылі. Прычынай пагаршэння работы аўтобуснага транспарту з'яўляецца яшчэ і тое, што ў масе сваёй (гавораць, што працэнтаў гэтак на пяцьдзесят) пасажыры проста не аплачваюць праезд. А з гэтага ці не ўсё і пачынаецца?..**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 26 (45)





## ПРАДАЕЦЦА

- VW-Гольф-1, 1983 г. в., чорны, 100.000 км, у выдатным стане, 2200 долараў
  Тэл. 263-61-11.
- Матацыкл «Днепр» з люлькай, новы.
  Тэл. 232-38-02, з 10 да 18 гадзін.
- Кватэра 2-пакаёвая ў г. Буда-Кашалёве Гомельскай вобл., або мяняю на раўназначную ў г. Светлагорску.
  Тэл. у Светлагорску 2-36-10.
- Зямельны ўчастак 12 сотак, прыватызаваны, у межах г. Ганцавічы.
  Тэл. у Ганцавічах 2-25-83.
- Грыб-вясёлка.
  Тэл. 235-88-79.
- Дом у добрым стане, маецца сад, гаспадарчыя пабудовы, 35 сотак зямлі. Нядорага. Звяртацца: Мінская вобл., Клецкі раён, в. Карацк, вул. Перамогі, 27.
- Халадзільнік «Саратаў-1615», новы, 130 долараў; матор-кампрэсар да халадзільніка, новы.
  Тэл. 290-95-57.
- Недабудаваны дом з будматэрыяламі, або абмяняю на «ВАЗ».
  Тэл. у Міёрах: 2-28-31, вечарам.
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі, агарод 40 сотак, сад у в. Прудок Светлагорскага раёна.
  Тэл. (8-02342) 96-6-88, Віктар.
- Прычэп да УАЗа, грузападымальнасцю 1,5 тоны, тэнт і запчасткі.
  Тэл. у Воранава 22-4-94, 21-9-94.
- Брыкет тарфяны ў г. Узда, магчыма дастаўка.
  Тэл. у Мінску 254-67-92.
- Дом, хлявы, летняя кухня, гараж, студня, участак 30 сотак ў в. Налібакі Стаўбцоўскага раёна.
  Тэл. у Валожыне 55-9-85.
- Дом у г. Клецку, ёсць сад, агарод.
  Тэл. у Слуцку 79-1-61.
- Мотаблок у камплекце; мяняю два матацыклы «Днепр» з запчасткамі на два рухавікі да «Запарожца» альбо прадам.
  Г. Бялынічы. Тэл. (8-02232) 2-16-45.
- Кватэра 2-х пакаёвая, прыватызаваная ў пас. Бярэзінскае Маладзечанскага раёна, маецца тэлефон.
  Тэл. у Оршы (8-02161) 3-69-06.
- Стары дом у цэнтры Ваўкавыска. Цана 4000 долараў; маладняк андатры.
  Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.
- Дом у в. Магілёўцы Пружанскага раёна з садам-агародам каля ракі Латыш.
  Тэл. у Навагрудку 23-1-40.
- Міні-электрастанцыя на 1000 вт. 220 в.
  Тэл. у Мінску 247-80-69, тэл. ва Ушачах (8-02158) 21-0-10.
- Літаратура па персанальных камп'ютэрах, па каратэ, кэмпа і г. д., камп'ютэрныя гульні.
  Звяртацца: 247100, Гомельская вобл., г. Лоеў, вул. Калініна, 32. Якіменка А.
- Дом 6х4, 20 сотак, сад, 28 км. ад Мінска.
  Звяртацца: Удзенскі раён, в. Возера, вул. Дзяржынская, д. 31, кв. 6.
- Электраліт шчолачны
  Тэл. у Слуцку (8-01795) 22-7-10 з 8 да 17 гадзін.
- Дом 6х10, хлеў, лазня, участак 20 сотак на ст. Дашкаўка Магілёўскага раёна, 3000 долараў.
  Тэл. (8-22) 42-67-56.





## РОЗНАЕ

- Матэматыка, кансультацыі.
  Тэл. 271-80-98.
- Рамонт і перацяжка любой мяккай мэблі, танна, ёсць неабходныя матэрыялы.
  Тэл. у Мінску 235-03-33.
- Мяняю 3-пакаёвую прыватызаваную кватэру палепшанай планіроўкі ў г. Слоніме на Мінск або Стоўбцы.
  Тэл. у г. Слоніме 2-32-54.
- Шукаю спонсара для ўтварэння прыватнага ліцэя, школы, гімназіі.
  Адрас: 220114 г. Мінск-114, а/с 128.
- Праекты: электраацяпленне, электразабеспячэнне, электраабсталяванне, КВП і аўтаматыкі.
  Тэл. у Віцебску 50-4-54.
- Знаёмлю калекцыянераў, рэчы калекцыяніравання самыя розныя.
  Адрас: 225320 г. Баранавічы-16, а/с 23.

*Правление, профсоюзный комітет и трудовой коллектив КО «Пинскдрев» поздравляет с юбилеем председателя правления — генерального директора АРИНИЧА Лорана Степановича*

Жизнь — извечная тайна
Нам дана не случайно.
Притяжением звездным
Нас связав навсегда
и на прочность проверив,
Открывает нам двери
И в грядущие лета,
И в былые года...

60 — это возраст
В жизни главный и важный,
Отражением станет
Всех путей и дорог.
В разноцветье июля
В ярких красках закатных
Золотистою нитью
Ляжет в несколько строк...

Юность пела недавно,
Отзвенела мгновенно.
Пусть года пролетели,
Но прожиты не зря.
Нам ли верить в приметы,
Наша песня не спета
60 — это зрелость,
В Вашей жизни заря.

Самый возраст мужчинам —
Стойким духом и сильным.
Нет причины для грусти,
Что искать в прошлом след!
Было все ненапрасно:
И ненастье и счастье.
Оставайтесь собою
В силе дней, в вихре лет,

В ореоле рассвета.
60 — Ваши лета!
Возраст главный и важный —
Нет для грусти причин.
В личной жизни, в работе,
Вам горенья на взлете.
60 — это возраст
Настоящих мужчин!

ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

*Віншую каханую жонку Генрыку Янаўну ФЕДАРАКА з днём нараджэння. Жадаю шчасця, радасці і здароўя.*

**Муж Віктар.**

Згубленае пасведчанне інваліда 3 групы № 086070 серыі 07, выдадзенае на імя **Капанца Мікалая Мікалаевіча**, лічыць несапраўдным.

**Іван ЦІЦЯНКОЎ:**

# «Распрацаваны Кіраўніцтвам спраў Прэзідэнта план дасць магчымасць значна зэканоміць бюджэтныя сродкі, якія расходуюцца на ўтрыманне дзяржапарату»

## З кіраўніком спраў Прэзідэнта Беларусі Іванам Ціцянковым гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»



**— Іван Іванавіч! Кіраўніцтва спраў распрацавала мерапрыемствы, укараненне якіх дасць магчымасць, на думку вашых экспертаў, значна скараціць расходы з рэспубліканскага бюджэту на ўтрыманне дзяржаўнага апарату. Раскажыце, калі ласка, аб гэтых ініцыятывах.**

— На працягу першага паўгоддзя арганізацыямі былі прыняты меры па зніжэнню бюджэтных затрат, фінансаванне праводзілася па фактычных расходах...

У 1996 годзе ў арганізацыях Кіраўніцтва спраў атрымала развіццё пазабюджэтная дзейнасць, расшыраецца практыка ўкаранення шырокага пераліку работ і паслуг з мэтай атрымання дадатковых даходаў. За студзень—май падведамным арганізацыям паступіла на бягучыя рахункі па пазабюджэтных сродках 40,4 млрд. рублёў і 677,7 тыс. долараў ЗША.

Пазабюджэтныя сродкі накіроўваюцца на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы бюджэтных устаноў, пакрыццё расходаў, звязаных з утрыманнем адміністрацыйных будынкаў, комплексаў.

Галоўным упраўленнем па абслугоўванню дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый за кошт скарачэння штатнай колькасці будзе зэканомлены артыкул расходаў па аплаце працы ў суме 402,8 млн. рублёў, затраты па ўтрыманню комплексаў зменшыцца на 1,5 млрд. рублёў.

Скарачэнне на 61 адзінку калектыву аўтатранспарту, які абслугоўвае органы дзяржаўнага кіравання, а таксама лімітаў прабегаў на 205 тыс. км дасць магчымасць зменшыць расход эксплуатацыйных матэрыялаў на 93 млн. рублёў кожны месяц, а агульнагаспадарчыя расходы — на 182 млн. рублёў. Затраты на ўтрыманне 36 адзінак кіраўніцкага персаналу, інжынерна-тэхнічных работнікаў, а таксама служачых аўтапрадпрыемства будуць поўнасцю кампенсаваны за кошт пазабюджэтнай дзейнасці. Эканомія сродкаў на аплату працы па аўтапрадпрыемству складзе 809 млн. рублёў. З васьмі аўтамабіляў, якія абслугоўваюць Кіраўніцтва спраў і падведамныя прадпрыемствы, шэсць будуць утрымлівацца за кошт гаспадарчаразліковай дзейнасці. У цэлым па аўтапрадпрыемству ў другім паўгоддзі 1996 года будзе скарочана бюджэтнае фінансаванне на 2,3 млрд. рублёў.

Свабодныя аўтамабілі будуць выкарыстоўвацца для прадастаўлення іх у арэнду па дагаворах і заказах. Прапрацоўваецца магчымасць арганізацыі пракату аўтамабіляў.

Галоўнае ўпраўленне адміністрацыйных будынкаў Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта налічвае на сваім балансе 126 адміністрацыйных будынкаў.

За студзень—май 1996 года ад пазабюджэтнай дзейнасці галоўным упраўленнем атрымана 29,5 млрд. рублёў, што адпавядае гадавому даходу за 1995 год.

На рамонт адміністрацыйных будынкаў з бюджэту рэспублікі ў 1996 годзе галоўнаму ўпраўленню неабходна было 111,0 млрд. рублёў, запланавана 24,9 млрд. рублёў, а прафінансавана за 5 месяцаў бягучага года ўсяго толькі 2,6 млрд. рублёў. У сувязі з тым, што выдзяленне бюджэтных сродкаў для рамонту будынкаў адбываецца непланамерна і ў відавочна недастатковым аб'ёме, галоўнае ўпраўленне адміністрацыйных будынкаў пераходзіць на частковае фінансаванне рамонту ўсіх будынкаў за кошт сродкаў, атрыманых ад здачы памяшканняў у арэнду.

Удасканаленне структуры галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў дасць магчымасць скараціць штатную колькасць на 12 чалавек. Эканомія грашовых сродкаў ад гэтага складзе 28,5 млн. рублёў, а эканомія па кіраванню ў цэлым — 11.338,5 млн. рублёў.

Рацыянальная арганізацыя работы санаторыяў галоўнага ўпраўлення, лячэбна-прафілактычных і санаторна-курортных устаноў дазволіць скараціць у другім паўгоддзі 100 штатных адзінак, перавесці на гасразлік да 230 работнікаў, а гэта дасць магчымасць зэканоміць дзяржаве 4,6 млрд. рублёў.

Увогуле эканомія па галоўнаму ўпраўленню лячэбна-прафілактычных і санаторна-курортных устаноў складзе 59,3 млрд. рублёў.

Удасканаленне структуры штатнай колькасці работнікаў запаведнікаў і нацыянальных паркаў дасць магчымасць знізіць долю бюджэтнага фінансавання. Прадугледжваецца перавесці 76 адзінак штатнай колькасці на гасразлік, у выніку чаго будзе зэканомлена 313,9 млн. рублёў з дзяржбюджэту.

**— Ці займаецца Кіраўніцтва спраў пытаннямі эканоміі паліва і энергарэсурсаў?**

— Распрацоўваецца праграма пераводу шэрага арганізацый на забеспячэнне цяплом ад установак, якія працуюць на цвёрдым паліве і адходах вытворчасці. Рэалізацыя ўказанай праграмы прывядзе да эканоміі грашовых сродкаў па арганізацыі Кіраўніцтва спраў у памеры 1776 млн. рублёў. Толькі ў рамонтна-будаўнічым трэсце адмова ад цэнтралізаванага цеплазабеспячэння і эксплуатацыя ўласнай кацельні, якая працуе на адходах дрэваапрацоўчай вытворчасці, эканоміць у год 1100 млн. рублёў.

Выдавецтва «Беларускі дом друку», якое спецыялізуецца на выпуску газет, часопісаў, брашур, кніг і іншай друкаванай прадукцыі, у 1996 годзе мяркуе выпусціць тавараў на суму 106,3 млрд. рублёў.

Прадугледжваецца за кошт эканоміі энергіі, укаранення сістэмы прыбораў уліку штодзённага кантролю за расходам электрычнасці і цяпла, уводу ў дзеянне новых тэхналогій і абсталявання без зніжэння аб'ёмаў выпуску прадукцыі дасягнуць эканоміі 15 працэнтаў электраэнергіі і 30 працэнтаў цеплавой энергіі.

За 5 месяцаў бягучага года ўжо зэканомлена 13 працэнтаў электраэнергіі і 40 працэнтаў цеплавой энергіі.

Дарэчы, аб выдавецтве. «Беларускі дом друку» ўжо даўно гатоў пачаць выраб бланкаў агульнаграмадзянскіх пашпартоў для МУС і бланкаў для МЗС. Аднак да цяперашняга часу ніводзін з заказчыкаў не падпісаў узоры і не аформіў афіцыйна заказ.

Лічу неабходным распрацаваць з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі дыферэнцыраваную сістэму аплаты атрымання агульнаграмадзянскіх пашпартоў. Рэалізацыя 1 млн. пашпартоў у год магла б папоўніць рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты ў суме да 50 млрд. рублёў.

**— А як абстаяць справы ў канцэрне «Белмастацпромыслы», які ў свой час быў падпарадкаваны Кіраўніцтву спраў?**

— І там прымаюцца меры па паляпшэнню фінансава-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў канцэрна. Трэба карэнным чынам змяніць становішча спраў у галіне.

Ажыццяўленне разам з ужо прынятымі дадатковых мер дасць магчымасць, па маіх падліках, давесці аб'ём вытворчасці таварнай прадукцыі на прадпрыемствах канцэрна «Белмастацпромыслы» да канца бягучага года да 99 млрд. рублёў ці павялічыць у параўнанні з 1995 годам на 25 працэнтаў.

У цэнтры ўвагі як Кіраўніцтва спраў, так і канцэрна пастаянна знаходзяцца пытанні гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, арганізацыі фірменнай гандлёвай сеткі.

З улікам прынятых у гэтай галіне мераў у саставе канцэрна «Белмастацпромыслы» па стану на 1 ліпеня 1996 года працавала 46 прадпрыемстваў гандлю. Іх тавараабарот за студзень—май бягучага года склаў 7,5 млрд. рублёў. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ён павялічыўся ў фактычных цэнах на 46 працэнтаў.

Хацелася б адзначыць дзейнасць дзяржаўнага прадпрыемства «Гасцінічны комплекс «Мінск». Ён працуе з 1 чэрвеня 1995 года. Чакаецца, што ў першым паўгоддзі 1996 года агульная сума даходаў складзе 12,4 млрд. рублёў, што на 15 працэнтаў больш, чым атрымана па выніках яго дзейнасці за чэрвень—снежань 1995 года. За студзень—май 1996 года уплачана падаткаў у бюджэт — 2309,9 млн. рублёў, у пазабюджэтныя і іншыя фонды — 568,2 млн. рублёў. Працягваюцца работы па скарачэнню колькасці на аснове перагляду нормаў абслугоўвання і з улікам рэнтабельнасці асобных падраздзяленняў.

Кіраўніцтвам спраў з удзелам падведамных прадпрыемстваў і арганізацый, якія займаюцца гаспадарчаразліковай дзейнасцю, створаны цэнтралізаваны інвестыцыйны фонд. У 1995 годзе і за 5 месяцаў 1996 года туды адлічана адпаведна 1891,7 і 892,4 млн. рублёў. Усяго ў 1996 годзе паступленні ў фонд павіннны скласці 4012,1 млн. рублёў. За кошт гэтых сродкаў праводзіцца фінансаванне праграм і мерапрыемстваў, накіраваных на развіццё вытворчасці прадукцыі, тавараў, работ і паслуг, а таксама на абнаўленне і набыццё асноўных фондаў, вытворчага абсталявання для падведамных Кіраўніцтву спраў прадпрыемстваў і арганізацый.

Такім чынам, дзякуючы мерапрыемствам, накіраваным на зніжэнне затрат, эканомію фінансаў і матэрыяльных рэсурсаў, Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта рэспублікі ў другім паўгоддзі 1996 года прадугледжвае скараціць фінансаванне ўсяго дзяржаўнага гаспадарчага комлпексу з рэспубліканскага бюджэту больш чым на 78 млрд. рублёў, у тым ліку на аплату працы больш як 6 млрд. рублёў, камандзіровачныя расходы — на 100 млн. рублёў, набыццё абсталявання амаль на 7 млрд. рублёў, капітальны рамонт больш чым на 10 млрд. рублёў, іншыя расходы — 55 млрд. рублёў. Прадугледжваецца скараціць больш як 155 штатных адзінак, а 498 работнікаў перавесці на гаспадарчы разлік.

Кіраўніцтва спраў і далей будзе працягваць работу па скарачэнню колькасці працуючых, змяншэнню бюджэтнага фінансавання, паляпшэнню арганізацыйнай структуры і гаспадарчай дзейнасці падведамных устаноў і арганізацый.

### Іменем Рэспублікі Беларусь

# Заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пастановы Вярхоўнага Савета ад 11 чэрвеня 1993 года «Аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў) у Рэспубліцы Беларусь» і Часовага палажэння аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), зацверджанага пастановай Савета Міністраў ад 31 жніўня 1993 года № 589"

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні Суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І., Чудакова М. Ф.

з удзелам прадстаўнікоў

Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прыняў пастанову: Хрола В. П. — сакратара Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы; Свіціна В. В. — галоўнага спецыяліста Экспертна-прававога ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, які выдаў Часовае палажэнне: Батуры Б. В. — міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, Сукала В. А. — міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь;

эксперта Чыгіра В. Ф. — прафесара кафедры грамадзянскага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктара юрыдычных навук;

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пастановы Вярхоўнага Савета ад 11 чэрвеня 1993 года «Аб парадку куплі-продажы кватэр (дамоў) у Рэспубліцы Беларусь» і Часовага палажэння аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), зацверджанага пастановай Савета Міністраў ад 31 жніўня 1993 г. № 589".

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Камянкоў В. С. — намеснік Старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь, Кандрацьеў В. К. — першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Справа ўзбуджана Канстытуцыйным судом па свайму меркаванню на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і часткі другой артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Праверцы падлягалі пастанова Вярхоўнага Савета ад 11 чэрвеня 1993 года «Аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў) у Рэспубліцы Беларусь (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1993. № 25. ст. 306) і Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), зацверджанае пастановай Савета Міністраў ад 31 жніўня 1993 года № 589 (Збор пастаноў урада Рэспублікі Беларусь. 1993. № 25. ст. 486).

У пункце 1 пастановы Вярхоўнага Савета дадзена даручэнне Савету Міністраў распрацаваць і прыняць Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), прадугледзеўшы ў ім, у прыватнасці, што права на набыццё кватэр ва ўласнасць шляхам куплі маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, і што кватэры могуць быць прададзены грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у даным населеным пункце, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах пакупнікамі іх могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь незалежна ад пражывання ў дадзеным населеным пункце і патрэбнасці ў паляпшэнні жыллёвых умоў, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, а таксама юрыдычныя асобы. Пры гэтым замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства могуць набываць кватэры ва ўласнасць, калі яны маюць на тэрыторыі рэспублікі пастаяннае месца пражывання і законную крыніцу існавання, а юрыдычныя асобы — калі яны зарэгістраваны ў якасці такіх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах у горадзе Мінску пакупнікамі іх могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у горадзе Мінску, і юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на яго тэрыторыі.

У мэтах выканання ўказанай пастановы Вярхоўнага Савета Савет Міністраў 31 жніўня 1993 г. зацвердзіў Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), у якім вызначыў парадак і ўмовы куплі-продажу кватэр (дамоў) паміж грамадзянамі, паміж грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі і паміж юрыдычнымі асобамі. У прыватнасці, у пункце 7 Часовага палажэння ўказана, што права на набыццё кватэры ва ўласнасць шляхам куплі маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на яе тэрыторыі.

Пунктам 8 гэтага Палажэння прадугледжана, што кватэры могуць быць прададзены грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у дадзеным населеным пункце. Згодна з пунктам 16, у выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах у г. Мінску, пакупнікамі іх могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у г. Мінску, і юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на яго тэрыторыі.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, міжнародных дагавораў, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд лічыць, што асобныя нормы пастановы Вярхоўнага Савета і Часовага палажэння аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў) супярэчаць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з наступнага.

Артыкулам 22 Канстытуцыі абвешчана роўнасць усіх перад законам і права на абарону правоў і законных інтарэсаў без усякай дыскрымінацыі.

Згодна з артыкулам 44 Канстытуцыі дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасці. Уласнік мае права валодаць, карыстацца і распараджацца маёмасцю як аднаасобна, так і разам з іншымі асобамі. Недатыкальнасць уласнасці, права яе наследавання ахоўваюцца законам.

Артыкул 48 Канстытуцыі гарантуе права грамадзян на жыллё. Гэта права забяспечваецца развіццём дзяржаўнага, грамадскага і прыватнага жыллёвага фонду, садзейнічаннем грамадзянам у набыцці жылля.

Межы правамоцтваў уласніка ўстаноўлены часткай пятай артыкула 86 Грамадзянскага кодэкса, які прадугледжвае, што ўласнік мае суверэнную магчымасць рэалізоўваць правамоцтвы валодання, карыстання і распараджэння па свайму меркаванню і ў сваіх інтарэсах.

У артыкуле 6 Закона «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» указана, што ўласнік па свайму меркаванню валодае, карыстаецца і распараджаецца маёмасцю, якая яму належыць, і ён мае права рабіць з гэтай маёмасцю любыя дзеянні, якія не супярэчаць закону.

Артыкул 23 Канстытуцыі дапускае абмежаванне правоў і свабод асобы толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб.

З улікам вышэйсказанага Суд прыйшоў да вываду, што правяраемыя нарматыўныя акты, якія абмяжоўваюць правы ўласнікаў, супярэчаць патрабаванням артыкулаў 22, 23, 44 і 48 Канстытуцыі.

На думку Суда, нормы, замацаваныя ў правяраемых актах, аб тым, што права на набыццё кватэры ва ўласнасць шляхам куплі маюць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, і што кватэры могуць быць прададзены толькі грамадзянам, што пастаянна пражываюць у даным населеным пункце, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам, супярэчаць таксама артыкулу 30 Канстытуцыі, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, Грамадзянскаму кодэксу.

Так, артыкулам 30 Канстытуцыі прадугледжана, што грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства ў межах рэспублікі, пакідаць яе і бесперашкодна вяртацца назад.

Згодна з артыкулам 12 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах кожнаму, хто законна знаходзіцца на тэрыторыі якой-небудзь дзяржавы, належыць у межах гэтай тэрыторыі права на свабоднае перамяшчэнне і свабода выбару месца жыхарства.

Артыкулам 10 Грамадзянскага кодэкса права грамадзяніна выбіраць месца жыхарства аднесена ў лік асноўных правамоцтваў, якія вызначаюць яго правадздольнасць.

У сувязі з гэтым Суд лічыць, што, не маючы магчымасці свабодна прадаць сваю кватэру (дом) ці купіць кватэру (дом) у іншым населеным пункце, грамадзянін пазбаўляецца магчымасці свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства ў межах рэспублікі, пакідаць яе і бесперашкодна вяртацца назад.

На падставе вышэйсказанага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 1 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 чэрвеня 1993 г. «Аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў) у Рэспубліцы Беларусь і пункты 7, 8, 16 Часовага палажэння аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 жніўня 1993 г. № 589, у частцы, якая прадугледжвае, што:

права на набыццё кватэры ва ўласнасць шляхам куплі маюць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на яе тэрыторыі;

кватэры могуць быць прададзены толькі грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у даным населеным пункце;

у выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах у горадзе Мінску пакупнікамі могуць быць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у горадзе Мінску.

Прызнаць гэтыя нормы страціўшымі сілу з моманту прыняцця гэтага Заключэння.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету, Кабінету Міністраў і іншым органам выканаўчай улады прывесці нарматыўныя акты ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін у «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе былі апублікаваны правяраемыя акты Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы —**
**Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ.**

27 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ З-39/96

# НЕ ТАЯМНІЦА, АЛЕ — ЗА СЯМЮ «ГАРЫЗОНТАМІ»...

**«Салігорскі раён адносіцца да неспрыяльнай у экалагічным плане тэрыторыі Беларусі з-за пастаяннага ўплыву на арганізм фактараў, звязаных з вытворчасцю калійных мінеральных угнаенняў, і з радыеактыўным забруджваннем часткі тэрыторыі ў сувязі з катастрофай на ЧАЭС».**

ТАК ПАЧЫНАЕЦЦА адзін з навуковых дакладаў, што прагучалі летась на міжнародным навукова-практычным семінары, тэмай якога былі праблемы прамысловых рэгіёнаў увогуле і салігорскага прамраёна ў прыватнасці. Асноўныя арганізатары семінара — салігорскае грамадскае аб'яднанне «ЭКА» і Фонд імя Фрыдрыха Эберта (Германія). Сярод аўтараў падрыхтаваных да семінара дакладаў (назвы работ і імёны аўтараў апускаю з-за дэфіцыту плошчы) — супрацоўнікі такіх арганізацый, як НДІ «Белгорхімпрам», НДІ галургіі (Санкт-Пецярбург), МАНЭБ (міжнародная Акадэмія Навук экалогіі і бяспекі жыццядзейнасці), Пермскі горны інстытут Расійскай Акадэміі навук, УралНДІ «Экалогія», мінскі НВК «Космааэрагеалогія», Беларускія НДІ санітарыі і гігіены і аховы мацярынства і дзяцінства. Гэта не поўны пералік: у працы семінара бралі ўдзел і салігорскія медыкі, і прадстаўнікі экалагічных камітэтаў, і прамыслоўцы, і вучоныя з іншых інстытутаў.

Гэта я да таго, што некаторыя факты з матэрыялаў семінара заслугоўваюць асаблівай увагі.

Цікава, напрыклад, што Салігорскі раён (разам з Валожынскім) з'яўляецца самым забруджаным радыенуклідамі ў межах Мінскай вобласці. Максімальны ўзровень забруджанасці цэзіем-137, паводле розных крыніц, на поўдні раёна складае да 6 кюры на квадратны кіламетр. Праўда, карты, што складзены з улікам касмічных аэрафотаздымкаў, адзначаюць узровень толькі 1—3 ku/кв. км, зноў жа, на поўдні. А ў межах горада і прамраёна — 0,5 ku/кв. км, і то толькі лакальныя ўчасткі. Калі ж вымяраць радыяцыю ў мікрарэнтгенах у гадзіну, то прамраён устойліва «трымаецца» на ўзроўні 20—35 мкр/гадз.

Ёсць яшчэ радыяцыя спецыфічна салігорская: калій-40 з адходаў, але спецыялісты прыраўноўваюць яе да фонавага ўзроўню, ад якога не назіраецца адчувальнай шкоды. Гэты ізатоп калію таксама асядае на зямлі лакальна, мясцінамі. На поўдні раёна калій-40 забруджвае 0,5 працэнта тэрыторый, у прамраёне — да двух.

Спалучэнне ўплываў прамысловай базы, радыенуклідаў, зніжэнне эканамічнага ўзроўню жыцця ўвогуле (фінансавання медыцыны ў тым ліку), як канстатуюць медыкі, прывяло да сумных вынікаў. Калі да 1986 г. урачы раёна не сустракаліся з такім захворваннем, як гіперплазія шчытападобнай залозы, то летась на яе хварэлі больш за дзве з паловай тысячы дзяцей. Падобная карціна з некаторымі іншымі захворваннямі, якія раней сустракаліся вельмі рэдка ці не сустракаліся (асабліва сярод дзяцей) наогул. У 87-м годзе ўпершыню зарэгістраваны два выпадкі рака сярод дзяцей («пік» прыпадае на 89-ы год — ажно 14 выпадкаў). У 1995 годзе траім дзецям прааперыравалі «шчытавідку», восем дзяцей раёна пакутавала ад злаякасных захворванняў крыві. А ўвогуле хваробы крыві і крыватворных органаў перавышаюць абласныя статыстычныя паказчыкі ў 3-4 разы на працягу ўжо не аднаго года. Часцей за ўсіх на Міншчыне салігорскае маладое (непаўналетняе) пакаленне хварэе і на хваробы органаў стрававання. Медыкаў непакоіць вялікая колькасць прыроджаных анамалій, што назіраюцца ў апошнія сем-восем гадоў. Сярод іх найчасцей — парокі развіцця сэрца і сістэмы кровазвароту, органаў стрававання, коснамышачнай сістэмы. Ёсць два выпадкі, што ўвогуле былі адзначаны як адзіныя на ўсю Беларусь. У 1993 годзе нарадзілася дзіця з прыроджаным лейкозам, праз год яшчэ адно — з пухлінай галаўнога мозга... Вядома, гэта — выпадкі выключныя. Калі ж гаварыць «без выключнасцей», то ў горадзе і раёне назіраецца самы высокі, у параўнанні з абласным і рэспубліканскім, узровень смяротнасці сярод немаўлят. У здароўі большасці новanароджаных урачы знаходзяць тыя ці іншыя адхіленні, што непасрэдна звязаны з паталогіямі стану здароўя іх маці.

Для паўнаты карціны можна дадаць, што сярод цяжарных жанчын рэзка ўзрасла колькасць анемій (малакроўя), а нараджальнасць за сем паслячарнобыльскіх гадоў зменшылася прыкладна ўдвая. Але апошнія дзве прыкметы часу — не толькі салігорская «адметнасць». Як і такая з'ява, што завецца імунадэфіцытам. Пішучы, хоць і не так часта, як трэба, на медыцынскую тэматыку, я сутыкалася з тым, што часам ставіла ў тупік вопытных урачоў: дзіця «згасала», памірала, напрыклад, ад запалення лёгкіх — не супраціўляўся ў належнай ступені арганізм.

У Салігорску амаль у паловы абследаваных спецыялістамі дзяцей выяўлены дысбаланс імунаглабулінаў. У 75 працэнтаў дзяцей з «зоны» раёна (у сэнсе забруджанай радыяцыяй) і ў паловы юных салігарчан — зніжэнне гемаглабіну ў крыві. Пры гэтым няма значнай розніцы ў залежнасці ад таго, дзе працуюць іх бацькі. Але калі быў праведзены аналіз медыцынскай дакументацыі, а на яго падставе — экспертная ацэнка захворванняў нованароджаных, то выявілася вось што. Большасць такіх выпадкаў прыпадала на тых дзяцей, чые мамы працуюць на прадпрыемствах са шкоднай вытворчасцю. І на жыхароў забруджанай радыяцыяй мясцовасці.

На думку навукоўцаў-медыкаў, «як з сацыяльнага, так і з медыцынскага пунктаў гледжання, рэгіён Салігорска патрабуе пільнай увагі і шэрага мерапрыемстваў, аналагічных тым, што неабходны для жыхароў зон з павышанай радыяцыяй».

І яшчэ адзін вынік даследаванняў. Устаноўлена, што хваравітасць дзяцей прама звязана з колькасцю гадоў, пражытых іх бацькамі ў горадзе Салігорску. Напрыклад, 2—3-гадовыя малыя хварэюць часцей у тых бацькоў, што пражылі ў горадзе ад самага нараджэння.

У перспектыве, калі тэмпы наступлення хваробаў і падзення нараджальнасці не зменшацца, хто ў недалёкім будучым будзе здабываць тую соль, папаўняючы бюджэт краіны валютай?..

### ГАРЫЗОНТЫ І МІГРАНТЫ

Хто лічыць, што «Салігорск правальваецца ў бездань» у самым прамым сэнсе (а згадкі пра такое даводзілася чуць і нават чытаць калісьці ў друку), той памыляецца.

«Дзякуй Богу, горад аказаўся не на радовішчы», — сказаў адзін са спецыялістаў падчас нашай гутаркі. Амаль не на радовішчы, бо на карце шахтных палёў усё ж бачна, што гарызонты праходзяць пад самай старой часткай горада. Але, паводле планаў «Беларускалія», распрацоўкі пад горадам весціся больш не будуць.

(У гэтым сэнсе «шанцуе» вадасховішчу, якое роўна 30 гадоў таму было пабудавана акурат над шахтамі. Што, праўда, нічога асаблівага не значыць: гарызонты ж — пад яго дном, метраў на 700 унізе).

Затое ёсць мясціны вакол калійных фабрык, якія адносяцца да «зоны». Санітарна-ахоўнай. Жыць там нельга. Сярод пераліку шэрага прычын такія, як перыядычнае забалочванне мясцовасцей (не выратоўвае перыядычная меліярацыя, і ўсё!), здаюцца дробяззю. Як і тое, што канцэнтрацыі шкодных рэчываў накшталт аксіду азоту часам у «зоне» перавышаюць ПДК. Да многага можна прывыкнуць, прыстасавацца або зусім на яго не зважаць. Але так званая тэхнагенная праблема «пастукалася» ў сцены дамоў. Сцены дзе-нідзе не вытрымалі і пачалі даваць трэшчыны.

Наконт «дзе-нідзе»: паводле звестак з «Беларускалія», які прынята лічыць галоўным «віноўнікам» праблемы, зараз патрэбна дапамагчы з перасяленнем 179 сем'ям. Спецыяльная камісія вызначае ступень «віны» ў кожным выпадку разбурэння дома калійнай вытворчасці, і аб'яднанне будуе жытло за свой кошт. (Падчас майго візіту пачула ад Людмілы Шахназаравай, начальніка прыродаахоўнай службы аб'яднання, пра 29 дамоў у дзвюх вёсках, што дабудоўваюцца зараз.) За апошнія гады тэхнагенная праблема «пашырыла» некаторыя вёскі, дзе выраслі новыя вуліцы перасяленцаў, нават «утварыла» новыя паселішчы — прынамсі, пасёлак Багданаўка будаваўся спецыяльна для людзей з «зоны».

Дзякуючы «выбрыкам» зямных нетраў, што не трываюць пустотаў, арыгінальным чынам паўстала ў горадзе і раёне спрадвечнае «кватэрнае пытанне». Шахты ў гэтым пытанні (дакладней, пры спробе адказу) «нарадзілі» шмат вынаходніцтваў. Так, у «Беларускаліі» мне распавялі, што часам сельсаветы ўсё роўна выдзяляюць людзям участкі ў ахоўнай зоне: а раптам з ім нічога не здарыцца? У райвыканкоме згадалі пра пастанову, якая забараняе прапіску па адпаведных («зонаўскіх») адрасах. Самое ж насельніцтва знайшло мноства юрыдычна граматных захадаў па выкананню ўласнай «жыллёвай праграмы». Напрыклад, сцяна трэснула — муж з жонкай разышліся... А некаторыя проста селяць у новае жытло дзяцей, унукаў, а самі жывуць сабе далей пад звыклым, няхай нават небяспечным, але такім пажаданым у наш час уласным дахам.

— Таго жылля, што сёння будуе «Беларускалій», для санітарнай зоны недастаткова, — сказаў старшыня Салігорскага райвыканкома Сяргей Прахорчык. — У раёне сёння патрэбна адсяляць больш за трыста сем'яў, і рабіць гэта трэба тэрмінова!

Тэрміновасць — не з-за таго, што, скажам, у дамоў дах едзе ў прамым сэнсе, а з-за памянёных «вынаходніцтваў» у спалучэнні з дэмаграфіяй. Дзеці растуць, сям'яў усё больш пад старым дахам... На думку Сяргея Мікалаевіча, калі не вырашыць тэхнагенна-сацыяльную праблему за бліжэйшыя 2-3 гады, то горад і раён яе проста «не пацягнуць», не кажучы ўжо пра адзін толькі «Беларускалій». Ці «цягне» зараз? Мяркуйце: за апошнія пяць гадоў патрэбы з жыллём для «зоны» задаволены на 38 працэнтаў...

### КРОПКІ, КРЫЖЫ І РУЛЕТКА

Кропку, зрэшты, ставіць пакуль рана. І справа гэта не проста не журналісцкая — яна, здаецца, увогуле не пад сілу камусьці аднаму. Нават «Беларускалію». Які, паводле слоў кіраўніцтва, калі справы ў эканоміцы пойдуць гэтак і далей, у сваёй барацьбе за экалогію можа дайсці да банкруцтва. Ужо зараз з-за расходаў на ахову прыроды рэзка скарочаны датацыі на сацыяльную сферу. «Рэч у тым, што за апошнія тры гады ў сотні разоў павялічыліся падаткі, — Людміла Шахназарава паказала мне калонку лічбаў. — Яшчэ ў студзені бягучага года генеральны дырэктар аб'яднання П. Калугін накіраваў ліст на імя прэм'ер-міністра М. Чыгіра, у якім мы просім пакінуць падаткі хаця б на ўзроўні мінулага года». Дарэчы, практычна ўсе сумы, што ідуць у дзяржаўную казну і ад горада ўвогуле, і ад «Беларускалія», потым вяртаюцца назад у выглядзе датацый на экалагічныя патрэбы.

Сяргей Прахорчык, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ, спрабаваў узняць салігорскае пытанне ў парламенце, каб той разгледзеў яго і за рэгіён (з якога ў бюджэт, успомнім, ідзе больш за трэць валюты!) узяліся «ўсім светам». Пры экалагічнай камісіі ВС нават створана дадатковая, «салігорская» камісія, якая пакуль яшчэ практычна не пачала грунтоўную працу. Але, як паведаміла Марыя Худая, старшыня камісіі па экалогіі ВС, у ліпені яна і яе калегі абавязкова збіраюцца наведаць рэгіён.

Вядома, праблем сёння ў краіне незлічоная колькасць. Вырашэнне ўсіх гэтых «першачарговых» справа не аднаго дня, месяца, а можа і года. Горад-здабытчык на мяжы Палесся — можа, і не самае балючае для рэспублікі, ды і сам ён адчуе горка-салёны прысмак свайго багацця ў поўнай меры, магчыма, няхутка... Адчуваеце? Гэта значыць, што калі таямніцы нявывучаных праблем рэгіёна не выцягнуць з «гарызонтаў», пад якімі яны знаходзяцца 30 гадоў з лішнім — спадчына, пакінутая з савецкіх часоў, можа адліцца слязамі-расоламі нашым нашчадкам.

Але шукаць тыя яды мы сёння не будзем. Кропкі над «і» павінны, у рэшце рэшт, расстаўляць спецыялісты самых розных профіляў, людзі з уладай у руках і гэтак далей. Гэтага працэсу хопіць, магчыма, на доўгія гады. І гэта нармальна: нельга знесці горы праблем адным махам. Паставіўшы кропку, мы пакінем іх у спадчыну, — тым, на кім нашыя сённяшнія пытанні могуць узяць ды раптоўна паставіць крыж...

Крый Божа: на нашай зямлі і так крыжоў хапае!

...Калі я гутарыла са старшынёй Салігорскай раённай экалагічнай камісіі Аляксандрам Гернішэўскім, нехта прынёс вянок. Пахавальны. Аказалася: маладая яшчэ жанчына памерла раптоўна, угасла за некалькі месяцаў.

Жанчына здавалася зусім здаровай — памерла ад лейкозу...

**Таццяна СНІТКО.**

*НЕАКТУАЛЬНАЯ ТЭМА*

# ПЧАЛІНЫ ЯД

*«Пчала дае магчымасць вылечваць усе нашы хваробы. Гэта лепшы, маленькі сябар, які толькі ёсць у чалавека на свеце».*

**Д. МАТО.**

**Аляксея Уладзіміравіча Коваля можна сустрэць на гродзенскім рынку. «Прадам пчаліны яд» — агітуе пакупнікоў таблічка на яго грудзях. Аднак купляюць слаба. «Гэты прадукт сёння ў нас нікому не патрэбны, — гаворыць А. Коваль, — бо мала хто ведае пра яго унікальныя ўласцівасці».**

Аляксей Уладзіміравіч — выхаванец дзіцячага дома, удзельнік Вялікай Айчыннай, амаль тры дзесяцігоддзі праслужыў у арміі. Яшчэ большы стаж, з дзяцінства, налічвае яго захапленне пчоламі. Прычым, гэты інтарэс звязаны не толькі з атрыманнем мёду, але і з лячэннем прадуктамі пчалярства. Аляксей Уладзіміравіч прачытаў шмат адпаведнай літаратуры, а таксама неаднойчы выпрабаваў на сабе ўласцівасці мёду, пчалінага яду, пропалісу ў барацьбе з блізарукасцю, гаймарытам, астмай, ліквідацыяй нарастаў... А. Коваль сцвярджае пра вельмі станоўчыя вынікі. І не верыць яму ніякіх падстаў няма. Да таго ж, апітэрапія (лячэнне прадуктамі пчалярства) — гэта зусім не сенсацыя, яна вядома не дзесяткі — сотні гадоў.

Але пра гэта, відаць, лепш пачуць з вуснаў не журналіста, а загадчыка кафедры немедыкаментознай тэрапіі і рэабілітацыі Гродзенскага медінстытута, доктара медыцынскіх навук прафесара Яўгена Тамашчыка. Дык вось, аказваецца, яшчэ Гіпакрат называў мёд асноўным лекавым сродкам, гаворачы пры гэтым «лячы, але не шкодзь». Ён апісаў абеззаражваючыя, адхарквальныя і агульнаўзмацняльныя ўласцівасці мёду, прызначаў яго пры сардэчна-лёгачных, пячоначных захворваннях. У старажытным Рыме з мёду рыхтавалі каля 50 лякарстваў. Гален (II ст. н. э.) рэкамендаваў пчаліны яд для лячэння аблысення і як абязбольваючы сродак пры многіх захворваннях. З літаратуры вядома, што Карл Вялікі і Іван Грозны пчалінымі ўкусамі вылечваліся ад падагры. У Расіі пчалярства ў сярэднія вякі атрымала «прапіску» ў так званых лячэбных хатах пры манастырах. Дарэчы, на асабістай пячатцы Екацярыны другой быў адлюстраваны вулей з пчоламі, не забываліся пра іх і пры ўстанаўленні герба горада. А ў Японіі маюцца нават помнікі гэтым нястомным працаўніцам.

Прымяненне пчалінага яду як лячэбнага сродку было заснавана на простых, выпадковых назіраннях. Так, было вядома, што пчалаводы рэдка хварэюць на рэўматызм і падагру. Таму галоўнымі прапагандыстамі лячэння пчалінымі ўкусамі былі спачатку пчалаводы, яны ж часта з'яўляліся і лекарамі. А з XIX стагоддзя гэты метад стаў прыцягваць увагу так званай афіцыйнай медыцыны. У 1915 годзе прафесарам Пражскага універсітэта Лангерам быў атрыманы першы прэпарат пчалінага яду. Ну, а сёння... У нас апітэрапія — справа асобных энтузіястаў, такіх, як Аляксей Коваль. А вось, напрыклад, у ЗША 20 фірмаў спецыялізуецца на вырабе лякарстваў з прадуктаў пчалярства. Апітэрапеўтычныя клінікі на некалькі соцень ложкаў ужо чвэрць стагоддзя дзейнічаюць у Балгарыі і Румыніі. Ніякаму шарлатанству тут, само сабой, месца няма. Бо методыка апітэрапіі распрацавана і на навуковым узроўні выпрабавана ўжо даўно. Не ўчора вызначана і група хваробаў, пры якіх выкарыстанне таго ж пчалінага яду проціпаказана.

— Пчаліны яд, — сцвярджае Яўген Тамашчык, — можа быць сёння выкарыстаны для лячэння па 18 напрамках — у прыватнасці, пры захворваннях нервовай сістэмы, псіхічных расстройствах, у кардыялогіі, гематалогіі, эндакрыналогіі, пры імунных парушэннях, запаленчых захворваннях... Цудоўнымі прыроднымі медыкаментамі з'яўляюцца таксама мёд, пропаліс, матачнае малачко, пылок, пчаліны воск, перга. Скажам, апошняя можа паспяхова проціставяць дыябету, іпатытам, калітам, зніжае ўзровень у крыві халестэрыну. Акрамя таго, яна станоўча ўплывае на дзейнасць страўнікава-кішачнага тракта, печані, шчытападобнай залозы, паляпшае кровазварот, запавольвае рост пухлін.

Я. Тамашчык упэўнены, што, наладзіўшы ў краіне адпаведную перапрацоўку прадуктаў пчалярства, іх можна будзе выкарыстаць амаль пры ўсіх захворваннях, акрамя выпадкаў з проціпаказаннямі. Яны могуць прымяняцца як у чыстым выглядзе, так і ў комплексе з іншымі метадамі і сродкамі. Пры гэтым выздараўленне людзей паскорыцца, а значыць зменшацца матэрыяльныя затраты. У пацвярджэнне Яўген Аляксандравіч аперыруе наступнымі лічбамі. Скажам, чалавека з неўралагічнымі захворваннямі (радыкуліты, астэахандрозы, неўрыты і г. д.) у гродзенскай бальніцы лечаць прыкладна 16 дзён. А паколькі суткі ўтрымання аднаго хворага абыходзяцца дзяржаве прыкладна ў 61 тысячу рублёў, дык атрымліваецца, што курс лячэння каштуе мільён. І гэта без аплаты бальнічнага ліста. А калі выкарыстаць пчаліны яд? Аказваецца, можа хапіць каля 70 пчолаўкалванняў, каб атрымаць аналагічны, а то і лепшы вынік, прычым, у большасці выпадкаў не займаючы бальнічны ложак, на дзённым стацыянары. Ці ж гэта не выгадна нашай беднай, пастаянна адчуваючай дэфіцыт грошай і лякарстваў медыцыне? Тым больш, што адкрываць Амерыку не трэба, тэхналогія апітэрапіі выпрабавана дзесяцігоддзямі і павучыцца ёсць у каго.

Дэфіцыту сыравіны таксама не будзе. «Толькі кіньце кліч пчалярам, — гаворыць А. Коваль, — яны вам за два тыдні прывязуць столькі таго ж пчалінага яду, што хопіць і сабе, і на продаж». Што ж датычыць фінансаў, дык асабліва вялікіх сродкаў для наладжвання перапрацоўкі прадуктаў пчалярства, на думку Я. Тамашчыка, не спатрэбіцца. Прычым, Яўген Аляксандравіч не сумняваецца, што ўкладзеныя сродкі ўжо праз год-два акупяцца і пачнуць прыносіць нам немалыя дывідэнды. Аднак гэта магчыма толькі пры ўмове, калі будзе зацікаўленасць на дзяржаўным узроўні. А вось яе якраз і не назіраецца. Апітэрапія патрэбна багатым амерыканцам і не вельмі заможным балгарам. Для нас жа гэта тэма зусім неактуальная.

Прафесар Тамашчык ужо звяртаўся з адпаведнымі прапановамі да кіраўніцтва фармацэўтычнай прамысловасці. Атрымаў адказ, што мы, маўляў, перапрацоўкай прадуктаў пчалярства не займаемся. Гэта было вядома і без адказу. Нічога абнадзейваючага не прынеслі і пісьмы ў Мінск пчаляра-аматара А. Коваля, у якіх ён прапаноўваў нарэшце абмеркаваць на дзяржаўным узроўні праблему апітэрапіі. Праўда, летась яму патэлефанаваў работнік Міністэрства аховы здароўя. «Вы азнаёміліся з маімі прапановамі?» — спытаў Аляксей Уладзіміравіч. «Не, — гаворыць спецыяліст, — мне сказалі патэлефанаваць». А вашы прапановы, маўляў, мы пашлём далей па інстанцыях... Здаецца, іх пераслалі ў Гродна. Але ж пытанне зусім не вузкарэгіянальнае.

З ВА «Белпчолпрам» Аляксею Уладзіміравічу паведамілі, што як толькі фармацэўтычная прамысловасць Беларусі пачне асвойваць вытворчасць медпрэпаратаў на аснове прадуктаў пчалярства, аб'яднанне давядзе заданне па іх збору грамадскім пчальнікам і таварыствам пчаляроў-аматараў. Аднак у якія кабінеты стукалася аб'яднанне, каб гэту праблему нарэшце зрушыць з мёртвай кропкі — пра гэта ў адказе ні слова.

Праўда, нядаўна ў Я. Тамашчыка і А. Коваля з'явілася надзея на зрухі да лепшага. Пчаляр — аматар з вялікім стажам Міхаіл Чыгір выступіў у газеце «Рэспубліка» з артыкулам «Станьце пчаляром — ніколі аб гэтым не пашкадуеце». Аўтар дзеліцца з чытачамі сваім багатым вопытам, спадзеючыся, што той, хто паспрабуе заняцца пчалярствам, ніколі ўжо яго не кіне, паколькі справа гэта захапляючая і да таго ж даходная. У артыкуле не гаворыцца пра лячэнне прадуктамі пчалярства, аднак можна меркаваць, што і да гэтай тэмы Міхаіл Чыгір неабыякавы. А паколькі ён не толькі пчаляр-аматар, але і прэм'ер-міністр нашай краіны, Яўген Тамашчык звярнуўся ў сталіцу з прапановамі па наладжванню апітэрапіі, падрыхтоўцы адпаведных спецыялістаў. Можа не дарэмна?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

ПЕРАПІСКА

# «ПАВАЖАНЫ ПАН, СПАДАР, ТАВАРЫШ...»

**Тут я атрымаў пісьмо. Мне напісаў Мікола Шарко з Салігорска. Натуральна, розныя пісьмы прыходзяць. Іншы раз клянуць, больш, прашу прабачэння за нясціпласць, ухваляюць маю пісаніну. Гэта, канешне, прыемна, але не дае пажытку для роздуму. А сп. Шарко даў. Хоць цёплым і мілым яго ліст назваць нельга.**

**Я думаю, гэта дастойна друку. Занадта ўжо тэма ўсеагульная і балючая.**

«У "Звяздзе" ад 1 чэрвеня г. г. Сяргей Шаўцоў («Гісторыя, расказаная ў 1949 годзе...») піша, што ў людзей кароткая памяць, што нават яе зусім няма, яе замяняюць рэфлексы, як у сабакі Паўлава, а калі памятаюць, дык каўбасу па 2.20. Далей ён пералічвае ўсё ганебнае з мінулага і адзначае, што яго Бог мілаваў, што ён нічога гэтага не перажыў, а вось старыя людзі, якія нахлябаліся ўсяго па вушы, аб гэтым мараць.»

Тут сп. Шарко некалькі перадзёргвае. Мараць людзі не аб рэпрэсіях (трэба быць у такім выпадку ідыётам), мараць аб гарантаванай беднасці. Ну, але пойдзем далей.

«Ды не, паважаны пан, спадар, таварыш Шаўцоў! (некалькі незразумелы зварот, — **С. Ш.**) Няма тут загадкі, калі добра падумаць. І аб памяці вы перагнулі палку, бо вам так хочацца бачыць і другім навязваць сваю думку.»

Далей Мікола Шарко выкладае гісторыю свайго жыцця.

Калі яму было паўтара года «тройка» прысудзіла да расстрэлу яго дзеда, у 4 гады не стала бацькі. Ён загінуў на фінскай вайне. У 7-8 гадоў яму хапіла ліха ў вайну ўжо наступную. Бачыў трупы аднавяскоўцаў, жыў у зямлянцы. Партызаны забралі ў іх карову. Сп. Шарко называе іх «начнымі налётчыкамі» і адзначае, што аб гэтым баяцца пісаць Верагодна, ён не памятае. Аб гэтым пісалі.

А вось тут мне хочацца працытаваць: «Вы не прымаеце мінулае, бо ад яго ўсё атрымалі, магчыма, нават праз партыйны білет, бо колькі мне вядома гісторыкаў і журналістаў, беспартыйных амаль не было. Вось чаму сёння і тыя, і другія так многа «ведаюць» аб мінулым і так «дбаюць» аб старых людзях...»

Як ні дзіўна, у КПСС я ніколі не быў. Нават не прапанавалі, а адзін мой начальнік так і сказаў пра мяне — «некіруемы». І ўсяго, чаго я дабіўся, дабіўся беспартыйным. У мяне была адна «прывілея» — прабіваць сцяну ўласным ілбом. Трэба сказаць, не без поспеху. Спецыяльна для вас, паважаны сп. Шарко. Перш чым трапіць у цэнтральную газету, шэсць гадоў матаўся па «раёнках» ад Беларусі да Поўначы. І хапіла, паверце, усяго.

Так што маральнае права судзіць аб мінулым, думаю, у мяне ўсё ж ёсць. І судзіць так, як я лічу неабходным.

Цытую далей: «Мне больш у памяці ўрэзалася, што я, вясковы хлопец, сын удавы-калгасніцы» без «валасатай» рукі і хабару здолеў атрымаць два дыпломы, што я і ўсе такія ж атрымлівалі накіраванні на працу, што за паўгода я атрымаў кватэру, потым двухпакаёўку, а затым і трохпакаёвую кватэру...»

І ўсё гэта, працягваю я, дзякуючы савецкай уладзе. Ваша думка мне зразумелая. Але тут такая штука. Я таксама без чыёйсьці дапамогі, «зялёным» шкаляром паступіў у БДУ пры конкурсе пяць чалавек на месца. Там, праўда, мне не спадабалася. Таму пасля арміі быў журфак БДУ. І таксама без дапамогі, хабару і «валасатай». Так што вы мяне ні ў чым не пераканалі.

Вы маглі ездзіць па краіне, наведваць тэатры і выставы, выпісваць некалькі газет і часопісаў. Выхавалі дзвюх дачок і далі ім адукацыю. Зараз гэтага б вам не ўдалося, зазначаеце вы. Поўнасцю далучаюся. Менавіта зараз — не.

Сп. Шарко папракае мяне любоўю да свабоды. Папрок прымаецца: люблю. Цытую далей: « Якой свабодай? Свабодай беспрацоўя, голаду? Свабодай на аперацыю са сваімі лекамі і бінтом? Хто сёння з выпускнікоў ПТВ ці ВНУ можа атрымаць накіраванне на работу, атрымаць кватэру? Для вас сёння сапраўды свабода, а для люду — анархія...»

Апошняе хацелася б удакладніць. Свабода — для каго? Журналістаў? Вельмі спрэчнае пытанне для краіны, дзе газеты закрываюць, а той, хто асмельваецца на сваю думку, — вельмі рызыкуе. Тады свабода для каго? Прадпрымальнікаў? А вы з імі пагаварыце. Яны вам раскажуць, што 90 працэнтаў прыбытку прыходзіцца аддаваць у казну. Калі ўсё — па закону. Кожны маленькі начальнік мае поўныя правы (і жаданне) мець свой кавалак з іх прыбыткаў. Апрача таго, любы, я падкрэслю, любы забяспечаны чалавек у нас патэнцыяльная мішэнь для «кілера». Што я, павінен вам тлумачыць прапісную ісціну: багатыя людзі — багатая краіна? Няўжо гэта так цяжка зразумець?

Так. Зараз пра свае бінты на аперацыю. Іншымі словамі, чаму мы так бедна жывём. Божа мой, зноў трэба гаварыць аб рэчах даўно вядомых.

Эканоміка не можа жыць па ўказах. Такая гэта нерэгламентаваная рэч. Грошы робяць грошы. Так проста. А ці ёсць у нашай краіны эканамічная палітыка? Сумніцельна. Ёсць палітыка — адабраць у адных і размеркаваць сярод другіх. Але так на ўсіх ніколі не хопіць усё роўна. Чалавек такая істота: чым больш яму даеш, тым больш яму хочацца. З гэтым прыходзіцца мірыцца. Больш таго, выкарыстоўваць у агульных інтарэсах. Растлумачу.

Падлічана навуковым чынам: у любой краіне бізнесам могуць займацца не больш 5—10 працэнтаў. Што трэба? Даць ім свабоду. Яны дадуць краіне грошы, рабочыя месцы, пенсіі, пабудуюць заводы і бальніцы, школы і універсітэты, куды вашы дзеці змогуць паступіць без «валасатай» рукі. Яны створаць сацыяльныя праграмы дапамогі бедным толькі для таго, каб гэтыя бедныя не палезлі на барыкады. Уласна, я вам выклаў кароткую гісторыю капіталізму гэтага стагоддзя.

Верагодна, сп. Шарко вядома прозвішча Сорас. У нас яго чамусьці прадстаўляюць гэткім монстрам, ледзь не агентам ЦРУ. А гэта проста чалавек, які ўмее рабіць грошы. Напрыклад, за суткі ён аднойчы зарабіў мільярд долараў. Толькі таму, што прадбачыў сітуацыю на біржы. Па-нашаму — спекулянт. Але што ў гэтым дрэннага, калі па ўсім свеце дзейнічаюць яго праграмы ў галіне навукі, культуры, адукацыі? У нас, дарэчы, таксама. Якая яго мэта? Дапамагчы нам самім вырашыць свае праблемы. Вучні, праўда, некалькі слабаватыя. Ну, гэта іншае пытанне.

Мы, паважаны сп. Шарко, губляем дарэмна час. Яго пасутнасці ўжо не засталося. Што будзе восенню — мне нават цяжка ўвіць. Зусім магчыма, аперацыі прыйдзецца рабіць самім сабе. Не кажучы пра свой бінт. Калі вы яго знойдзеце. У нашай паліклініцы няма паловы ўрачоў. Дзе яны? Зарабляюць грошы ў кааператывах ці на «чаўночных» маршрутах. Што можа быць дзічэй — дыпламаваны ўролаг возіць «шмоткі» з Турцыі? Чаму ён на сваім рабочым месцы не можа мець дастойны заробак? Хто вінаваты?

Так што выйсце даволі простае: дайце тым, хто можа зарабляць — зарабляць.

«А што тычыцца каўбасы, дык жывот можна падмануць найбольш таннай і карыснай капустай з бульбай, а вось душу падмануць нельга, шаноўны Сяргей». Тут я не магу не пагадзіцца. Але чаму ваша пакаленне толькі і займаецца гэтым? Адзін адказ: вы шмат галадалі. У вас такая псіхалогія, вам яе не пераробіш.

Вашыя дзеці не ведаюць, што такое голад. І слава Богу. Але ў іх іншая псіхалогія. Ім мала не галадаць. Ім хочацца большага. Напрыклад, з'ездзіць на уік-энд у Вену. Купіць мыйную машыну «Індэзіт». Ці тэлевізар «Філіпс». Ці пераехаць на ПМЖ у Філадэльфію. Ім хочацца, каб у свеце беларуса паважалі так жа, як паважаюць амерыканца. Ім, калі зусім проста, хочацца быць людзьмі. Так бы мовіць, канфлікт пакаленняў, у якім пераможцам будзе больш маладзейшае. Нічога не папішаш — закон гісторыі.

А ці прымаю я мінулае, дык, прабачце, гэта пытанне недарэчнае. Усё роўна, што сказаў бы: з існаваннем гары Джамалунгма катэгарычна не згодзен, тэрмінова патрабую знесці. Мінулае, яно было. Пытанне ў тым, як да яго ставіцца. А як? Верагодна, дыферэнцыравана. Прымаць адно і не прымаць другое.

А цяпер, сп. Шарко, дазвольце вас крыху «падкалоць», працытаваўшы вашыя апошнія радкі: «Нават тое, што вы можаце друкавацца на старонках газеты, выказваючы свае думкі, а я не, гаворыць аб нашай роўнасці ў свабодзе».

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

# ПРА БЕСПРАЦОЎЕ, ПРАЦОЎНЫ СТАЖ І ДАДАТКОВЫ АДПАЧЫНАК

***На пытанні нашых чытачоў, якія даслалі іх у сваіх пісьмах у рэдакцыю, адказвае начальнік аддзела заканадаўства Міністэрства працы Людміла АЛІКЕР:***

***— У студзені сёлетняга года я была звольнена па скарачэнню штатаў. На працягу 4-х месяцаў стаяла на ўліку ў службе занятасці з атрыманнем дапамогі па беспрацоўю. У маі мяне ўладкавалі на працу. Як адаб'ецца перыяд, калі я была на ўліку ў службе занятасці, на маім бесперапынным і агульным стажы работы?***

— У адпаведнасці з пунктам 8 арт. 18 Закона «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь» (у рэдакцыі ад 23 снежня 1992 г.) працоўны стаж не перапыняцца ў перыяд атрымання звольненым дапамогі па беспрацоўю.

Акрамя таго, у адпаведнасці з Законам ад 2 лютага 1994 г. «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб пенсіённым забеспячэнні» перыяд атрымання дапамогі па беспрацоўю, а таксама перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі беспрацоўных залічваецца ў стаж работы для прызначэння працоўнай пенсіі. Гэтая норма ўведзена ў дзеянне з 1 красавіка 1994 г.

***— На працягу двух гадоў я працаваў па сумяшчальніцтву электрыкам у будаўнічай арганізацыі. Адпачынак не выкарыстоўваў. Цяпер хачу звольніцца. Мне сказалі ў аддзеле кадраў, што я страціў права на кампенсацыю за нявыкарыстаныя адпачынкі. Ці правільна гэта?***

— Парадак работы па сумяшчальніцтву рэгулюецца адпаведным Палажэннем аб умовах такой працы, зацверджаным пастановай Дзяржкампрацы СССР, Міністэрства юстыцыі СССР і Сакратарыята ВЦСПС ад 09.03.89 г. № 81/604-К-3-84.

У адпаведнасці з п. 6 гэтага Палажэння аплата за адпачынак ці выплата кампенсацыі за нявыкарыстаны адпачынак пры звальненні праводзіцца сумяшчальнікам, якія выконваюць работу па рабочых спецыяльнасцях.

Улічваючы, што электрык — рабочая спецыяльнасць, пры звальненні з працы па сумяшчальніцтву вам павінна быць выплачана кампенсацыя за два нявыкарыстаныя адпачынкі.

***— Калі я знаходзілася ў чарговым адпачынку, захварэла маё дзіця. Ці павінны мне былі выдаць бальнічны ліст і прадоўжыць адпачынак на перыяд догляду хворага дзіцяці?***

— У адпаведнасці з пунктам 34 Інструкцыі аб парадку выдачы лістоў непрацаздольнасці і даведак аб часовай непрацаздольнасці ў час чарговага адпачынку такі лісток па догляду хворага члена сям'і не выдаецца.

На падставе частцкі II артыкула 74 КЗаП Рэспублікі Беларусь штогадовы адпачынак прадаўжаецца толькі пры часовай непрацаздольнасці самога работніка.

***— Я працую прыбіральшчыцай у спецшколе-інтэрнаце для разумова адсталых дзяцей. Хацела б ведаць, якой працягласці павінен быць мой адпачынак?***

— У адпаведнасці з Кваліфікацыйным даведнікам прафесій рабочых, якім устаноўлены месячныя аклады (зацверджаны пастановай Дзяржкампрацы СССР і ВЦСПС ад 20.02.84 г. № 58/3/102) прафесія «прыбіральшчык» падраздзяляецца на прыбіральшчыкаў вытворчых і службовых памяшканняў. Кваліфікацыйныя характарыстыкі такіх работнікаў адрозніваюцца па характару работы, якія яны выконваць. Натуральна, ад гэтага залежыць працягласць дадатковага адпачынку. Пастановай Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь ад 29.07.94 г. № 89 зацверджаны спісы вытворчасцей, цэхаў, прафесій і пасад са шкоднымі ўмовамі працы, работа ў якіх дае права на скарочаную працягласць працоўнага часу і дадатковы адпачынак.

Згодна з гэтымі спісамі прыбіральшчыкі вытворчых памяшканняў, тыя, што працуюць у школах-інтэрнатах для разумова адсталых дзяцей з пашкоджаннем цэнтральнай нервовай сістэмы з парушэннем псіхікі, маюць права на дадатковы адпачынак 30 рабочых дзён. Пры падсумаванні гэтага адпачынку з асноўным агульная працягласць яго роўная 42 рабочым дням (12+30).

А вось прыбіральшчыкам службовых памяшканняў дадатковы адпачынак не прадугледжаны.

**Падрыхтавала Наталля ДОЎНАР, юрыдычны кансультант «Звязды».**

КРАМА АНТЫРЭКЛАМЫ

# «БУРГУНДСКАЕ» ПУХАВІЦКАГА РАЗЛІВУ

Ні для каго не сакрэт, што на нашых вінных прылаўках вельмі шмат недабраякаснай прадукцыі. Сёння назва «віно» аб'ядноўвае мноства напіткаў, якія значна адрозніваюцца па сваіх саставу, спосабу прыгатавання, смакавых якасцях і спажыўнай каштоўнасці. Вінаробчы рынак наводнены грубымі падробкамі пад вядомыя маркі гарэлак і вінаў, сурагатамі віна, прыгатаванага нават без удзелу вінаграду.

У другім квартале 1996 года сектарам дзяржнагляду ў харчовай прамысловасці праведзена 24 праверкі якасці віна, піва, безалкагольных, слабаалкагольных і моцных алкагольных напіткаў, якія вырабляюцца і рэалізуюцца суб'ектамі гаспадарання розных формаў уласнасці.

Парушэнні патрабаванняў стандартаў пры вытворчасці былі выяўлены на трох прадпрыемствах: Пухавіцкім харчовым камбінаце, АП «Чэрвеньскае», СП «Інтэртайнмент».

Так, на Пухавіцкім харчовым камбінаце Мінсельгаспрода РБ дзве партыі віна «Белая вежа» не адпавядалі патрабаванням стандарту па разліваетойкасці, наяўнасці спалесцэнцыі, што пераходзіць у ападак. Прычына — выкарыстанне неапрацаваных, «хворых» віна-матэрыялаў. Спагнаны штраф у размеры 22 мільёны 800 тысяч рублёў. Службовыя асобы прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Пры праверцы якасці прадукцыі беларуска-брытанскага сумеснага прадпрыемства «Інтэртайнмент» устаноўлена, што выпрацоўваемыя лікёры і аперытывы ў Рэспубліцы Беларусь не сертыфікуюцца. Па выніках праверкі вытворчасць лікёраў забаронена.

На АП «Чэрвеньскае» ўстаноўлены грубыя парушэнні тэхналогіі вытворчасці спірту-рэктыфікату.

Праверaная ў рознічным гандлі мінералізаваная вада «Баржомі», пастаўленая з Расіі, не адпавядае патрабаванням нарматыўнай дакументацыі па маркіроўцы і хімічнаму саставу.

**Галіна МІРГАРОДСКАЯ, прэс-сакратар Беларускага таварыства абароны спажыўцоў.**

# ЭКАЛАГІЧНУЮ АБСТАНОЎКУ АЦЭНІЦЬ КРЫЛАТАЯ ЛАБАРАТОРЫЯ

**Учора ў Мачулішчах і Уруччы адбылося адкрыццё двух праектаў па экалагічнаму аднаўленню тэрыторый Беларусі. Праекты падрыхтаваны ў рамках аднаго з сямі пагадненняў Праграмы Нанна-Лугара па сумеснаму змяншэнню ядзернай пагрозы.**

На аэрадроме ў Мачулішчах з удзелам Надзвычайнага Упаўнаважанага пасла ЗША ў Беларусі Кенета Ялавіца беларускаму боку была перададзена лятаючая лабараторыя на базе самалёта АН-26. Самалёт аснашчаны дыстанцыйнымі датчыкамі і найноўшым фатаграфічным абсталяваннем. Вялізную дапамогу ў рэалізацыі праектаў аказаў урад ЗША. Ім было прадстаўлена абсталяванне па перааснашчэнню самалёта і лабараторыя. Цяпер з дапамогай гэтага абсталявання рэспубліка можа праводзіць ацэнку эканамічнага стану мясцовасці і мерапрыемствы па экалагічнаму аднаўленню на былых стратэгічных ракетных базах.

У рамках другога праекта дэлегацыяй была адкрыта фоталабараторыя ва Уруччы. Лабараторыя аснашчана па апошняму слову тэхнікі і прызначана для работы з устаноўленымі на самалёце фотакамерамі. У час аблёту самалётам зон забруджвання спецыяльным абсталяваннем робіцца фотаздымка і збор даных з дапамогай датчыкаў дыстанцыйнага зандзіравання. Фотаплёнка і іншая сабраная з борта самалёта інфармацыя будзе перадавацца ў размешчаныя ва Уруччы фоталабараторыю і лабараторыю апрацоўкі геаграфічнай інфармацыі. Сукупнасць усіх гэтых сродкаў дазволіць ураду Беларусі з мінімальнымі затратамі знайсці і вызначыць абрысы ўчасткаў зямлі, якія маюць патрэбу ў экалагічным аднаўленні.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ЦІ БЫЦЬ БЕЛАРУСІ МАРСКОЙ ДЗЯРЖАВАЙ?

**Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», улады Севастопаля звярнуліся да ўрада Беларусі з прапановай стварыць у іх горадзе прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь.**

На першым этапе супрацоўніцтва прапануецца стварыць кампактнае марское параходства. Севастопальскі бок сярод пераваг такога супрацоўніцтва называе магчымасць для нашай рэспублікі выхаду да марскіх партоў Чорнага, Міжземнага і іншых мораў, а таксама здабычы і транспарціроўкі living марской прадукцыі. У якасці аргументаў сваёй прапановы севастопальскія ўлады назвалі неабходнасць пашырэння супрацоўніцтва ў межах СНД і тое, што ў Севастопалі сёння пражывае каля 65 тысяч беларусаў.

Ва ўпраўленні воднага транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый РБ гэту інфармацыю пацвердзілі, аднак даваць каментарыі, спаслаўшыся на тое, што афіцыйныя дакументы паступілі ва ўстанову літаральна ўчора, адмовіліся. І ўсё-такі пытанне, ці быць Беларусі марской дзяржавай, разглядаецца.

**Сяргей ПРОТАС.**

# Яна можа выткаць габелен, сплесці маленькі шэдэўр з саломкі, распісаць велікоднае яйка

**ДНЯМІ СТУДЭНТКА шостага курса тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў Таццяна Маркавец, якая займалася на кафедры гісторыі і тэорыі выяўленчага мастацтва, абараніла дыплом па тэме «Мастацтва выцінанкі». Яе работа магла б быць цікавай кніжкай, у якой выкладзена мноства інфармацыі пра традыцыі выцінанкі ў розных народаў, прасочана гісторыя ўзнікнення і развіцця гэтага віду мастацтва ў Беларусі.**



Дарэчы, ці кожны з вас ведае, што такое выцінанка?

— Выцінанка, выстрыганка, выразанка — так называюць на Беларусі, — тлумачыць Таццяна Маркавец, — ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы. Гэты від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва вядомы ў нас здавён. Беларускія мастацтвазнаўцы прытрымліваюцца думкі, што на Беларусі такая традыцыя існуе з XIX стагоддзя як народная. Але чамусьці не бяруць пры гэтым пад увагу тую акалічнасць, што ўжо ў XVII—XVIII стагоддзях беларуская шляхта, гараджане, звычайна на Вялікдзень, рабілі самаробныя паштоўкі-віншаванні ў тэхніцы выцінанкі. Я не зусім разумею, чаму трэба адмаўляць існуючую свецкую традыцыю...

Як бы там ні было з традыцыямі, відавочна, што яны, нягледзячы амаль на поўнае забыццё ў наш час, існуюць. Так, пад Каляды паўсюдна ў Беларусі выразаюць з паперы каляровыя сняжынкі, а вясковыя хаты нярэдка ўпрыгожваюць цэлыя сюжэты, зробленыя з дапамогай паперы, нажніц і фантазіі.

Таццяна Маркавец патраціла нямала часу, каб вывучыць гісторыю выцінанкі, зрабіць самой адметныя творы, папулярызаваць гэты від мастацтва.

— Менавіта мастацтва, — лічыць Таццяна. — Калі я трапіла на першую рэспубліканскую выстаўку беларускай выцінанкі, што праходзіла ў Палацы мастацтва ў Мінску, я зразумела, што ніводзін мастак не ставіцца да выцінанкі як да твора мастацтва. Для ўсіх аўтараў гэта была толькі забава і не больш. Я тады падумала: дзіўна, як жа так, гэта так цікава і захапляюча, такія неабмежаваныя магчымасці ў гэтай тэхнікі!

Вось з таго моманту, напэўна, Таццяна сур'ёзна занялася выцінанкай. Яна аформіла ўсе свае работы ў рамы і наладзіла персанальную выстаўку. А пасля зрабіла серыю паездак з ёй па розных гарадах Беларусі, падчас якіх чытала лекцыі пра выцінанкі для гледачоў і тлумачыла, як іх можна зрабіць самім.

Адначасова з вывучэннем тэорыі і гісторыі мастацтва ў акадэміі Таццяна Маркавец навучылася ткаць габелены, вырабляць паясы, распісваць велікодныя яйкі, плесці з саломкі самыя разнастайныя рэчы і фігуркі. За што і атрымала дыплом «народнага майстра».



Адкуль такая мэтанакіраванасць і апантанасць у маладой дзяўчыны, спытаеце вы. Сапраўды, далёка не ўсе маладыя людзі ўмеюць знайсці сваю справу, засяродзіцца на ёй. Ды каб справа гэта, да таго ж, была патрэбнай грамадству. Нарэшце, як і дзе ёй, гараджанцы, удалося авалодаць такімі рамёствамі, як саломапляценне, ткацтва, авалодаць тэхнікай выцінанкі?

Сама Таццяна лічыць, што важнымі і вызначальнымі ў яе жыцці былі два моманты. Першы — гэта незабыўныя Докшыцы. Там яна бывала кожнае лета ў дзядулі і бабулі. Тыя былі настаўнікамі, таленавітымі ад прыроды людзьмі. Бабуля, Соф'я Аляксандраўна, напрыклад, майстрыха на ўсе рукі — і ткаць, і шыць, і вышываць, і вязаць, і з саломкі плесці. Калі прыязджалі ўнукі, Соф'я Аляксандраўна хутка знаходзіла, чым іх заняць — давала малым саломку і паказвала, як рабіць саламяных «павукоў». Дзеці гадзінамі праседжвалі за сваім заняткам.

Тут жа, у Докшыцах, яшчэ малой, Таццяна пабачыла ўпершыню кросны і як на іх працуюць.

Калі прыйшла пара вучыцца, бацька Таццяны, жывапісец Віктар Маркавец, адправіў сваю дачку ў школу з мастацкім ухілам. Там давалі навыкі працы з глінай, вучні малявалі алеем, алоўкам, акварэльнымі фарбамі...

— Другім вызначальным момантам, — мяркуе Таццяна Маркавец, — сталася тое мастакоўскае асяроддзе, у якім я пастаянна знаходзілася. Майстэрня майго бацькі ў двух кроках ад школы, дзе я вучылася. Дзве яго сястры — мастачкі па габеленах, якія тады яшчэ не мелі сваёй майстэрні, а працавалі ў бацькавай. Я пастаянна бегала да іх, нярэдка дапамагала ткаць габелены, сама брала пэндзаль у рукі.

Памятаю, неяк малюю і не ведаю, якія колеры пакласці. Стала пытацца ў бацькі. А той: «Як зробіш, так і будзе». Тады я страшэнна злавалася на яго, а пазней зразумела, што толькі ад мяне самой залежыць мая будучыня. А Яўген Кулік, сусед па бацькавай майстэрні, нярэдка вучыў: «Рабі кожны свой твор так, быццам ты робіш шэдэўр...» Памятаю, як бацька з сябрамі недзе ў лесе ля ракі абмяркоўваюць, што такое прыгажосць, з чаго яна складаецца: святла і цені, колераў і адценняў...



Як кажа Таццяна, у час вучобы ў школе яна не думала пра тое, што сама будзе займацца мастацтвам. Яна добра бачыла, які цяжкі мастакоўскі хлеб, колькі энергіі ідзе на стварэнне твора... І тым не менш апынулася ў палоне мастацтва. Пасля заканчэння школы вырашыла заняцца вывучэннем традыцый беларускага мастацтва. Яе настаўніцай па саломапляценню стала вядомая майстрыха Таіса Агафоненка. Паўгода, дзень пры дні, яны працавалі побач, абменьваліся думкамі, дзяліліся запаветным. Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце — гадоў сорак, сталі блізкімі сяброўкамі і прыяцелькамі.

— Таіса Паўлаўна — мастачка ад Бога, — неяк узнёсла гаворыць пра сваю настаўніцу Таццяна Маркавец. — Дзякуючы гэтай жанчыне ў маёй свядомасці адбыўся пераварот. Я была ўражана тым, як мастацтва паглынае ўсю яе істоту, яна ўвесь час знаходзілася ў гэтым залатым свеце саломкі. Тады я захапілася гэтым светам, сутнасцю славутых «павукоў», вобразамі і тэхналогіяй іх вырабу. Больш таго, я зразумела, наколькі важна для сучаснага мастака веданне традыцый народнага мастацтва.

Адначасова з саломапляценнем Таццяна займалася ткацтвам. Вельмі дарэчы аказаліся вялікія старыя бабуліны кросны. Менавіта на іх дзяўчына рабіла (не, не рабіла, а стварала!) свае габелены, ткала паясы. У час работы прыходзіла да яе ўсведамленне глыбіннасці і значнасці арнаментаў, іх семантыкі...

«Бацька, цёткі, сваякі — ужо вядомыя мастакі, як бы не зрабіцца іх ценем, як застацца самой сабой?» — такое пытанне нярэдка паўставала перад дзяўчынай. Яна разумела, што прыналежнасць да мастакоўскай сям'і вымагае ад яе асабістых учынкаў, дзеянняў, працы, якая будзе таксама заўважана ў грамадстве, патрэбна людзям.

Што яна асабіста з сябе ўяўляе, паглядзець на сябе як бы збоку Таццяна змагла, калі летась трапіла ў Данію, дзе муніцыпалітэт горада Цыстэда наладзіў праграму для маладых мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Па-першае, яна стала пераможцай у конкурсе сярод прэтэндэнтаў для ўдзелу ў такой праграме, а іх было нямала. Тры месяцы мастачка з Беларусі працавала разам з калегамі з Паўночнай Ірландыі, Югаславіі і Даніі. Пасля гэтага яны наладзілі выставу сваіх твораў. Пра Таццяну з Беларусі тады пісалі ўсе дацкія газеты. У адной з іх быў змешчаны вялізны фотаздымак мастачкі і яе творы. Асабліва датчан уразіла тэхніка ткацтва на дошчачках.

— З ёй яны, як аказалася, знаёмыя з XII стагоддзя, — каменціруе артыкул у дацкай газеце Таццяна Маркавец. — Сенсацыяй стала тое, што я працую ў такой старажытнай тэхніцы. Дарэчы, у датчан яна выкарыстоўваецца і цяпер. А вось у ткацтве габеленаў у нас зусім розныя традыцыі. Было выказана меркаванне, што беларуская школа ткацтва больш блізкая да французскай, чым да дацкай ці нарвежскай.

Пасля Даніі Таццяну Маркавец запрасілі на тры месяцы ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Дэпартамент па справах мастацтваў штата Нью-Джэрсі выдзеліў гранд беларускай мастачцы, якая павінна была падзяліцца сваім вопытам ткацтва, саломапляцення, вырабу выцінанак. Дарэчы, у Штатах з вялікім поспехам прайшла выстаўка твораў Таццяны Маркавец. Дзяўчына з Беларусі навучыла рабіць паясы, птушак і «павукоў» з саломкі, выцінанкі — словам, навучыла ўсяму, што ўмее сама, нашых суайчынніц, жанчын, якія ўжо многія гады ўдалечыні ад радзімы наладжваюць выстаўкі, дзе паказваюць творы беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

— Паездкі за мяжу, знаёмства з еўрапейскім мастацтвам у значнай ступені папоўнілі маё ўяўленне і веды пра традыцыі выцінанкі, — лічыць Таццяна. — У Даніі, напрыклад, гэта былі рухомыя карцінкі з героямі казак Андэрсана. Фактычна ў кожным доме прысутнічае ў інтэр'еры такая карцінка. Зусім іншая традыцыя кітайская, я пабачыла ў Даніі выстаўку кітайскіх выцінанак. Пра ўсё гэта я пісала ў дыпломе. Трохі пазней напішу артыкул і для чытачоў газеты або часопіса. Гэта будзе цікава.

... Таццяніна бабуля, Соф'я Аляксандраўна, неяк выткала вялікі дыван. Паказваючы яго сваім малым унукам, яна тлумачыла тое, што на ім адлюстравана: «Вось елкі — гэта мы з дзедам, — казала яна, — баравічкі — гэта нашы дзеці, вашы бацькі, а ельнічак — то вы, нашыя ўнукі».

Малая Таццяна тады ніяк не магла зразумець гэтага сімвалізму. «Як гэта людзі — і раптам яны ж елкі і грыбы...» Але многа пазней яна ўсвядоміла глыбінны сэнс сказанага бабуляй, і выразала на сваёй выцінанцы і елку, і сілуэт вясковай хаты — усё тое, што так няўлоўна нагадвае пра дом, бацькоўскі край, пра сваю да яго прыналежнасць.

«Маладая беларуская інтэлігенцыя вельмі ўпэўнена ўваходзіць у жыццё і заяўляе пра сябе і свой народ як у журналістыцы, так і ў мастацтве», — напісала пасля выстаўкі Таццяны Маркавец газета беларускіх эмігрантаў у Амерыцы.

Гэта выказванне, пэўна, павінна было б падняць уласны рэйтынг у вачах самой Таццяны. Але яна, як мне здаецца, ужо прайшла перыяд самасцвярджэння. Цяпер дзяўчына занята іншым: яна рыхтуецца прыняць удзел у сямейнай выстаўцы, якая адбудзецца з нагоды юбілею горада Докшыцы.

**Таццяна АНТОНАВА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# ХТО ЎРАТУЕ «ХАРОШКІ»?

**ХАРЭАГРАФІЧНЫ АНСАМБЛЬ «ХАРОШКІ» прадстаўляць чытачу не трэба. Ён мае свайго сталага прыхільніка і ў Беларусі, і за яе межамі ў многіх краінах свету. Дзве вялікія і разнастайныя праграмы калектыву — «Па старонках Полацкага сшытка» і «Бывай, XX стагоддзе!» вылучаны сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

АЛЕ ЗУСІМ НЕ МАСТАЦТВАЗНАЎЧЫ РАЗГЛЯД іх вартасцей прымусіў узяцца за пяро. Сітуацыя, якая склалася ў ансамблі, праблемы, з якімі штодня сутыкаецца яго мастацкі кіраўнік народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая, вельмі характэрныя для ўсёй нашай культуры. У такіх выпадках трэба біць у званы і крычаць: «Ратуйце!». Бо паступовае знікненне такога сапраўды ўнікальнага калектыву, якім з'яўляюцца «Харошкі» (а яно можа адбыцца, калі стаўленне да яго дзяржавы не зменіцца), збедніць усю беларускую культуру. Калі вы лічыце, што я драматызую і згушчаю фарбы, мяркуйце самі. Вось што расказала Валянціна Іванаўна Гаявая:

— «Харошкам» зараз цяжэй, чым іншаму калектыву. У нас артысты высокага класа, іх многія хацелі б запрасіць да сябе. Некага хочуць «пазычыць» на час паездкі, некага запрашаюць назусім. Прычым, узровень высокі і ў танцораў, і ў музыкантаў. Усё гатова, адшліфавана да высокага прафесіяналізму. Прапаноўваюць большую зарплату, і людзі ідуць, я нічога лепшага ім даць не магу.

— Гэта прагматычны падыход, пры якім мастацтва не можа існаваць...

— Такі падыход вызначае становішча спраў у мастацтве. Хачу я гэтага або не хачу, крыўдна мне гэта слухаць або не. Артысты, якім засталося тры гады да пенсіі, вядома, імкнуцца застацца. Але ж калектыву патрэбен творчы, прафесійны рост, патрэбна перспектыва! Мы не павінны спыняцца, стаяць на месцы.

— Некалькі гадоў таму па Мінску хадзілі чуткі, што «Харошкі» збіраюцца ці не ў поўным саставе з'ехаць працаваць за мяжу (па прыкладу таго ж ансамбля У. Співакова «Віртуозы Масквы»), бо ўмоў для творчасці ў роднай рэспубліцы ніякіх...

— Смешна гэта чуць! За ўвесь час існавання ансамбля за мяжой не застаўся ніводзін чалавек. Мы знаходзіліся на замежных гастролях у жніўні 1991 года, якраз у той момант, калі ў Маскве была спроба перавароту. «Харошкі» павінны былі ўжо выязджаць дамоў. Не ведаю адкуль, але каля нашага аўтобуса з'явілася безліч журналістаў, сяброў, знаёмых, якія казалі: «Вы ведаеце, што ў вас адбыўся пераварот? Вам нельга вяртацца!» Нам прапаноўвалі застацца ўсім калектывам, але мы вярнуліся дадому.

Разам з тым тэндэнцыя да распаду ўвесь час прысутнічае. Вось прыклад. У 1995 годзе ў «Харошках» поўнасцю змяніўся састаў аркестра. Музыканты адправіліся ў Амерыку — за вялікімі грашыма. І мне давялося збіраць новы аркестр. У праграме «Бывай, XX стагоддзе!» былі зусім іншыя інструментальныя нумары, вельмі цікавыя. Думаю, што мы да іх яшчэ вернемся. А з новымі музыкантамі давялося рабіць фактычна новую праграму. Музыкантаў набралі па конкурсу — з Акадэміі музыкі, Універсітэта культуры.

Прадоўжу «спіс страт». У час працы над аднаактовым харэаграфічным спектаклем «Па старонках Полацкага сшытка» мы згубілі трэцюю частку ансамбля. Тады якраз пачаўся перыяд камерцыйнага мастацтва, і артысты пайшлі з «Харошак» зарабляць вялікія грошы. Некаторыя зараз у Амерыцы мыюць посуд і падлогу. І тады, каб выратаваць сітуацыю, я ўзяла ў калектыў выхаванцаў студыі, якая ўжо дзевяць гадоў існуе пры ансамблі.

Са студыяй і памяшканнем для рэпетыцый у нас таксама шмат праблем. Наша зала для рэпетыцый у філармоніі малая і нязручная. Дзяцей няма дзе прыняць, ім няма нават месца пераапрануцца. У дадатак зала ўвесь час занята дарослымі артыстамі. Таму са студыйцамі даводзіцца займацца ў нязручны, позні час. Частка бацькоў не вытрымлівае і перастае вазіць дзяцей.

Цяпер нам выдзелілі частку салдацкай казармы на вуліцы Захарава пад рэпетыцыйнае памяшканне. Гэта добра, што блізка, у цэнтры горада. Але — зноў бяда! — няма грошай на рэканструкцыю. У нашай рэспубліцы ледзь не тыдзень праводзіцца які-небудзь фестываль, і на гэта ахвяруюцца сотні тысяч долараў. А мне на рэканструкцыю казармы патрэбна ўсяго 20—25 тысяч долараў! І дзякуючы гэтаму на доўгія гады была б забяспечана будучыня ўнікальнага калектыву.

— Калі мы ўжо гаворым пра праблемы «Харошак», дык які перыяд жыцця калектыву найбольш цяжкі для вас?

— Цяперашні. Наогул апошнія тры гады. Гэта проста жахліва... Раней можна было пагаварыць з прадстаўнікамі ўлады і табе нечым дапамагалі. Я не ведаю, з кім размаўляць наконт выратавання ансамбля «Харошкі», калі цябе нават слухаць не хочуць. Дарэчы, мяне ніхто не прымае. Запісвалася на прыём да Прэзідэнта, ён мяне пакуль не прыняў. Да віцэ-прэм'ера — таксама. Калі ўлада нам не дапаможа, ансамбль перастане існаваць. Мне адной яго не ўтрымаць. Артысты раз'едуцца ў розныя краіны, не ўсе разам, а як зараз — групамі, паасобку. Бо людзі не могуць жыць на такую мізэрную зарплату. Наша прафесія патрабуе чалавека цалкам, толькі тады можна дасягнуць выніку. Калі спартсмены выязджаюць на зборы, іх спецыяльна ўзмоцнена кормяць, ствараюць адпаведныя ўмовы. А артыст перад прэм'ерай новай праграмы можа дазволіць сабе такое? Трэба змяніць статус калектыва, няхай ён будзе называцца «нацыянальны» і плаціць у ім будуць не так, як усюды. І стаўленне да яго з боку ўлады будзе іншым.

— Ці запланаваны ў вас на бліжэйшы час якія-небудзь гастрольныя вандроўкі?

— Ніякіх планаў няма, таму што няма сродкаў. Нават для гастроляў па Беларусі трэба мець грошы на аўтобус. Наконт замежных вандровак. У свой час «Харошкі» вельмі доўга пратрымалі ў ізаляцыі, не выпускалі за межы рэспублікі...

— Гэта нейкае дзіва! Чаму?

— У Міністэрстве культуры лічылі, што «Харошкі» — гэта не той калектыў, які павінен прадстаўляць Беларусь.

— А хто тады?!

— У мяне было шмат стасункаў з прафесіянальнымі менеджэрамі, але ў Мінску ім «абсеклі» ўсе кантакты, я і дагэтуль іх знайсці не магу. Таму ў плане гастроляў у нас вельмі абмежаваныя магчымасці. Раней, пасля 1991 года, аўтобус каштаваў 100$ у суткі. І мы вельмі часта ездзілі на гастролі, напрыклад, у Італію. Зараз аўтобус каштуе 270—400$. Такім чынам, 10—15 тысяч долараў трэба мець толькі на транспарт. Калі вылічыць гэтую суму з усяго, што мы заробім, колькі застанецца выплаціць артыстам? Кола замыкаецца, я не бачу выйсця.

— А аншлагавыя канцэрты, якія праводзяцца ў філармоніі, даюць вам нейкі прыбытак?

— Вельмі вялікія сумы «з'ядае» арэндная плата. Бо «Харошкі» — не філарманічны калектыў, мы ўжо даўно існуем асобна. Фактычна мы тэатр танца, толькі без уласнага памяшкання і транспарту.

— А афіцыйных спонсараў у вашага калектыву на Беларусі няма?

— Спонсары могуць з'явіцца, толькі мне трэба звярнуцца для гэтага ў Маскву. А калі ў Беларусі мы звярталіся ў самыя розныя, прычым, досыць багатыя ўстановы, да нашай прапановы ўсур'ёз ніхто не паставіўся. Таму ў фінансавым плане нам застаецца разлічваць толькі на цуд. Ніякай перспектывы я не бачу, святла ў канцы тунеля няма...

Заканчваючы маналог Валянціны Гаявой на такой песімістычнай ноце, мы спадзяёмся, што прадстаўнікі ўлады знойдуць час і сродкі, каб дапамагчы словам і справай калектыву, які шмат зрабіў за два дзесяцігоддзі для ўмацавання аўтарытэту Беларусі ў многіх краінах свету. Зрабіў сваім талентам, зрабіў танцам, песняй, народнай мелодыяй.

«Харошкі» сёння — гэта тэатр танца Валянціны Гаявой. Гэта ўзор сцэнічнага ўвасаблення народнага танца. Жывая, сучасная класіка. Праз дзесяцігоддзі мы зразумеем і ўсвядомім гэта. Толькі ці не позна? Вось пытанне, якое непакоіць: ці выжывуць «Харошкі»? Што будзе з імі далей?

**Таццяна МУШЫНСКАЯ.**

ІМЕНЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь»**

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка Старшыні Суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Вашкевіча А. Е., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Чудакова М. Ф.

з удзелам

прадстаўнікоў Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага акта: Лазовіка Н. І. — старшыні падкамісіі па мясцоваму самакіраванню Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню; Броўкі С. В. — галоўнага спецыяліста Экспертна-прававога ўпраўлення сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

экспертаКівеля В. Н. — выкладчыка кафедры канстытуцыйнага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта;

сведкаў Гурыновіча А. В. і Тарчэўскага Н. Н.

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Міранічэнка І. А, — намеснік Старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь; Камянкоў В. С. — намеснік Старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь; Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь; Андрэеў І. С. — першы намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Справа ўзбуджана Канстытуцыйным судом 5 чэрвеня 1996 г. па прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання М. І. Грыба, якая пазней была пацверджана Старшынёй Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання С. Г. Шарэцкім.

Праверцы падлягаў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», выдадзены з грыфам «не для друку».

Пунктам 1 названага Указа ўнесены змяненні і дапаўненні ў пункт 1 Указа ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў». У адпаведнасці з імі ў пералік службовых асоб, аклады якіх вызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, уключаны старшыні мясцовых Саветаў дэпутатаў. 31 снежня 1995 г. Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 528 «Аб удасканаленні аплаты працы некаторых службовых асоб» гэты пункт прызнаны страціўшым сілу, як і Указ ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 у цэлым. Адначасова гэтым Указам уведзены новыя памеры акладаў для шэрага службовых асоб, у тым ліку і для старшынь мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Пунктам 2 Указа ад 26 снежня 1995 г. № 519 мясцовым выканаўчым камітэтам прадпісана забяспечыць вырашэнне неабходных пытанняў арганізацыйна-тэхнічнага абслугоўвання дзейнасці адпаведных Саветаў дэпутатаў і ўтвораных імі органаў. Прадугледжана, што для забеспячэння ўзаемадзеяння мясцовага Савета дэпутатаў абласнога і базавага ўзроўняў з выканаўчым камітэтам, а таксама дзейнасці старшыні Савета ствараецца рабочы апарат Савета ў саставе аднаго спецыяліста і вадзіцеля службовай аўтамашыны. Устаноўлена таксама, што старшыня мясцовага Савета дэпутатаў абласнога і базавага ўзроўняў пры ажыццяўленні сваёй дзейнасці выкарыстоўвае службовы аўтатранспарт на ўмовах, прадугледжаных для намесніка старшыні адпаведнага выканаўчага камітэта.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, сведак, вывучыўшы іншыя матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі і законаў, Канстытуцыйны суд устанавіў наступнае.

У адпаведнасці з артыкулам 6 Канстытуцыі дзяржава грунтуецца на прынцыпе падзелу ўладаў: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

Артыкул 7 Канстытуцыі прадугледжвае, што дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы звязаны правам, дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законаў.

Згодна з артыкулам 117 Канстытуцыі мясцовае кіраванне і самакіраванне ажыццяўляецца грамадзянамі праз мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, мясцовыя рэферэндумы, сходы і іншыя формы прамога ўдзелу ў дзяржаўных і грамадскіх справах.

Артыкулам 124 Канстытуцыі ўстаноўлена, што кампетэнцыя, парадак стварэння і дзейнасці органаў мясцовага кіравання і самакіравання вызначаюцца законам.

Законам «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» да выключнай кампетэнцыі мясцовага Савета аднесены зацвярджэнне структуры Савета і вызначэнне расходаў на яго ўтрыманне. Мясцовыя Саветы дэпутатаў самастойна ўтвараюць свае органы, вызначаюць свае паўнамоцтвы, устанаўліваюць структуру і расходы на іх утрыманне. У прыватнасці, яны вызначаюць памер расходаў на ўтрыманне выканаўчых і распарадчых органаў і органаў мясцовага самакіравання, у тым ліку фонд аплаты працы, зыходзячы са службовых акладаў і ўмоў матэрыяльнага забеспячэння, устаноўленых дзеючым заканадаўствам.

Артыкул 30 Закона «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь» прадугледжвае, што мясцовыя Саветы дэпутатаў самастойна вызначаюць напрамак выкарыстання сродкаў мясцовых бюджэтаў, за выключэннем перададзеных ім з бюджэту вышэйстаячага ўзроўню фінансавых рэсурсаў, якія маюць мэтавае прызначэнне.

У адпаведнасці з артыкулам 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» Прэзідэнт выдае ў межах сваіх паўнамоцтваў на аснове і ў мэтах выканання Канстытуцыі, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета Указы і распараджэнні, кантралюючы іх выкананне. Пры гэтым Указы і распараджэнні Прэзідэнта не павінны супярэчыць Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, пастановам Вярхоўнага Савета, не могуць іх дапаўняць ці змяняць.

З улікам вышэйсказанага Канстытуцыйны суд прыйшоў да вываду, што пункт 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», а таксама Указ ад 31 снежня 1995 г. № 528 «Аб удасканаленні аплаты працы некаторых службовых асоб» у частцы вызначэння Прэзідэнтам службовых акладаў старшыням мясцовых Саветаў дэпутатаў не адпавядаюць Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь.

Ні Канстытуцыя, ні законы не прадастаўляюць Прэзідэнту такога права. Зыходзячы з прынцыпу падзелу ўладаў, кіраўнік выканаўчай улады не мае права ўстанаўліваць аклады службовым асобам органаў прадстаўнічай улады. Суд лічыць, што ўказаныя пытанні павінны рэгулявацца на ўзроўні закона.

Нельга таксама прызнаць правамерным устанаўленне службовых акладаў старшыням мясцовых Саветаў дэпутатаў рашэннем Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, як гэта было зроблена яго пастановай ад 25 студзеня 1995 г. «Аб адпаведнасці работы мясцовых Саветаў дэпутатаў у сувязі з падзелам прадстаўнічай і выканаўчай улады». Як адзначалася ў заключэнні Канстытуцыйнага суда ад 14 снежня 1995 г. па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», Прэзідыум Вярхоўнага Савета, згодна з артыкулам 89 Канстытуцыі, ствараецца для арганізацыі работы Вярхоўнага Савета і таму не мае права разглядаць пытанні па арганізацыі і забеспячэнню дзейнасці іншых органаў улады.

На думку суда, уступае ў супярэчнасць з Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь пункт 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 у частцы, якая прадпісвае стварыць рабочы апарат Савета для забеспячэння ўзаемадзеяння мясцовага Савета дэпутатаў абласнога і базавага ўзроўняў з выканаўчым камітэтам. Устанавіўшы такую норму, Прэзідэнт тым самым умяшаўся ў кампетэнцыю мясцовых Саветаў дэпутатаў і пазбавіў іх магчымасці самастойна вырашаць пытанні, аднесеныя законам да іх выключнай кампетэнцыі.

Не грунтуецца на законе і прадпісанне гэтага Указа Прэзідэнта аб тым, што старшыня мясцовага Савета дэпутатаў пры ажыццяўленні сваёй дзейнасці выкарыстоўвае службовы аўтатранспарт на ўмовах, прадугледжаных для намесніка старшыні адпаведнага выканаўчага камітэта.

Частка другая артыкула 9 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» прадугледжвае, што арганізацыйна-тэхнічнае абслугоўванне дзейнасці мясцовага Савета і створаных ім органаў забяспечваецца выканаўчым камітэтам і апаратам Савета. Суд лічыць, што ўказаныя пытанні павінны вырашацца на аснове ўзаемнай згоды мясцовага Савета і выканаўчага камітэта пры захаванні ўсіх патрабаванняў закона.

Мясцовыя выканаўчыя камітэты, рэалізуючы палажэнні правяраемага Указа, на практыцы выйшлі за межы сваіх паўнамоцтваў, прадугледжаных законам, і прынялі рашэнні, якімі ўстанавілі фінансаванне апарату Саветаў дэпутатаў з трох адзінак, ліквідавалі разліковыя рахункі Саветаў і ліквідавалі іх пазабюджэтныя фонды, перавялі на свой баланс маёмасць Саветаў. У выніку мясцовыя Саветы дэпутатаў абласнога і базавага ўзроўняў пазбавіліся магчымасці належным чынам ажыццяўляць свае паўнамоцтвы ў якасці органаў прадстаўнічай улады. Гэта трэба прызнаць парушэннем прынцыпаў мясцовага кіравання і самакіравання, абвешчаных артыкулам 3 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь», а іменна: народаўладдзя, законнасці, сацыяльнай справядлівасці, гуманізму, падзелу функцый прадстаўнічай, выканаўчай і судовай уладаў; самастойнасці і незалежнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Такія дзеянні выканаўчай улады не ўзгадняюцца таксама і з асноватворнымі прынцыпамі мясцовага самакіравання, абвешчанымі ў Еўрапейскай хартыі аб мясцовым самакіраванні, прынятай Саветам Еўропы, членам якога імкнецца стаць Рэспубліка Беларусь.

Суд звяртае ўвагу, што Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 і ад 31 снежня 1995 г. № 528 выдадзены з грыфам «не для друку», не апублікаваны і не даведзены да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам. Гэта супярэчыць артыкулам 7 і 34 Канстытуцыі, артыкулу 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» і не ўзгадняецца з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 г. № 252 «Аб парадку апублікавання і ўступлення ў сілу Указаў і распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Акрамя таго, суд адзначае, што правяраемы Указ уступіў у сілу з моманту яго падпісання. У той жа час, згодна з Указам ад 3 снежня 1994 г. № 252, Указы Прэзідэнта ўступаюць у сілу з моманту іх афіцыйнага апублікавання, за выключэннем тых з іх, якія не маюць нарматыўнага характару.

На падставе вышэйсказанага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 11, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

ВЫРАШЫЎ:

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 1, абзацы 3 і 4 пункта 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», а таксама пункты 1 і 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1995 г. № 528 «Аб удасканаленні аплаты працы некаторых службовых асоб» у частцы вызначэння Прэзідэнтам службовых акладаў старшынь мясцовых Саветаў дэпутатаў.

Лічыць гэтыя нормы страціўшымі сілу з дня прыняцця гэтага Заключэння.

2. Прапанаваць:

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і мясцовым выканаўчым камітэтам прывесці свае рашэнні ў адпаведнасць з гэтым Заключэннем;

Вярхоўнаму Савету — разгледзець пытанні, якія вынікаюць з гэтага Заключэння.

3. Апублікаваць Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

4. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ.**

*4 ліпеня 1996 г., г. Мінск. № 3-40/96.*

## Асобная думка

намесніка Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Фадзеева В. А. па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь»

Канстытуцыя і законы Рэспублікі Беларусь не ўтрымліваюць спецыяльнага рэгулявання парадку ўстанаўлення формаў, сістэм і памераў аплаты працы работнікаў апаратаў мясцовых Саветаў, у тым ліку і іх старшынь. Згодна з падпунктам 8 пункта 2 арт. 8 і арт. 9 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» мясцовыя Саветы самастойна зацвярджаюць структуру Саветаў і расходы на іх утрыманне, а ў адпаведнасці з падпунктам 4 пункта 1 арт. 36 указанага Закона мясцовыя Саветы самастойна ўстанаўліваюць памер расходаў на ўтрыманне выканаўчых і распарадчых органаў і органаў мясцовага самакіравання, у тым ліку фонд аплаты працы, зыходзячы са службовых акладаў і ўмоў матэрыяльнага забеспячэння, устаноўленых дзеючым заканадаўствам. Лічу, што даная норма не азначае права мясцовых Саветаў самастойна вырашаць пытанні, звязаныя з устанаўленнем парадку аплаты працы іх работнікаў.

Уяўляецца, што ўказанае пытанне павінна быць вырашана на ўзроўні закона, улічваючы прававы статус і прынцыпы дзейнасці мясцовых прадстаўнічых органаў, замацаваныя ў Канстытуцыі і законах Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым згодны з Заключэннем Канстытуцыйнага суда па ўказанай справе ў той частцы, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з яго прававога становішча, вызначанага арт. 89 Канстытуцыі, неправамоцны ўстанаўліваць парадак аплаты працы работнікаў мясцовых Саветаў.

Разам з тым не знаходжу падстаў для прызнання неадпаведнымі Канстытуцыі і законам пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 1995 г. № 519 у частцы ўстанаўлення службовых акладаў старшынь мясцовых Саветаў, зыходзячы з наступнага.

Згодна з арт. 6 Закона аб Кабінеце Міністраў ён устанаўлівае мінімальны памер заработнай платы, а таксама формы, сістэмы і памеры аплаты працы работнікаў дзяржаўных бюджэтных устаноў і арганізацый у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі.

Артыкулам 83 КЗаП вызначана, што формы, сістэмы і памеры аплаты працы ў вышэйшых дзяржаўных органах Рэспублікі Беларусь устанаўліваюцца законам, а работнікаў іншых дзяржаўных бюджэтных устаноў і арганізацый — у парадку, вызначаемым Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Мясцовыя Саветы з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі і павінны быць аднесены да дзяржаўных бюджэтных устаноў у сэнсе арт. 83 КЗаП.

У адпаведнасці з пунктам 26 арт. 100 Канстытуцыі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, ускладзеныя на яго Канстытуцыяй і законамі (маюцца на ўвазе паўнамоцтвы, акрамя пералічаных у пунктах 1—25 указанага артыкула).

Частка чацвёртая арт. 2 Закона аб Кабінеце Міністраў прадастаўляе Прэзідэнту права вырашаць любыя пытанні, якія знаходзяцца ў веданні Кабінета Міністраў.

Такім чынам, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, устанаўліваючы службовыя аклады старшынь мясцовых Саветаў, не парушыў, на мой погляд, палажэнняў Канстытуцыі, Законаў Рэспублікі Беларусь аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, аб Прэзідэнце, аб Кабінеце Міністраў, Кодэкса законаў аб працы.

З заключэннем суда па абзацу трэцяму і чацвёртаму пункта 2 правяраемага Указа згодзен.

**Намеснік Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. А. ФАДЗЕЕЎ.**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці змяненні і дапаўненні ў наступныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь:

І. У Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., №1, арт. 4; 1970 г., №1, арт. 2; 1982 г., №36, арт. 671):

1. У частцы першай артыкула 27 словы «або», «або ў іншых месцах, у раёне пражывання асуджанага» выключыць.

2. Артыкул 28 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 28. Вынікі злоснага ўхілення ад адбывання папраўчых работ без пазбаўлення волі

У выпадку злоснага ўхілення ад адбывання пакарання асобы, асуджанай да папраўчых работ без пазбаўлення волі з адбываннем па месцы работы, суд па прадстаўленню органа ўнутраных спраў ці па хадайніцтву працоўнага калектыву можа замяніць неадбыты тэрмін папраўчых работ пакараннем у выглядзе пазбаўлення волі на той жа тэрмін».

ІІ. У Крымінальна-працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь, зацверджаным Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., №1, арт. 5; 1970 г., №12, арт. 147; 1977 г., №10, арт. 145; 1983 г., №27, арт. 445), у артыкуле 373 словы «або грамадскім ганьбаваннем», «накіраванне асобы, асуджанай да папраўчых работ без пазбаўлення волі з адбываннем па месцы работы, для адбывання пакарання ў іншыя месцы, якія вызначаюцца органамі, што ведаюць прымяненнем папраўчых работ, у адпаведнасці з артыкулам 28 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, а таксама», «грамадскай арганізацыі або» выключыць.

ІІІ. У Папраўча-працоўны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 16 ліпеня 1971 года (ЗЗ БССР, 1971 г., №21, арт. 298; 1982 г., №15, арт. 259; 1983г., №10, арт. 192):

1. У частцы другой артыкула 18 і частцы трэцяй артыкула 22 словы «пунктах 2 і 3» замяніць словамі «пункце 2».

2. У артыкуле 96:

у частцы першай словы «або ў іншых месцах, якія вызначаюцца органамі, што выконваюць гэты від пакарання, але ў раёне пражывання асуджанага, з улікам яго працаздольнасці і, па магчымасці, спецыяльнасці» выключыць;

у частцы трэцяй:

словы «дзяржаўных і грамадскіх» выключыць;

пасля слова «арганізацыях» дапоўніць словамі «розных форм уласнасці»;

у частцы чацвёртай словы «акрамя выпадкаў, прадугледжаных часткай першай артыкула 28 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь» выключыць;

частку пятую выключыць.

3. У артыкуле 98:

у частцы першай слова «палітыка-выхаваўчай» замяніць словам «выхаваўчай»;

у частцы другой:

словы «накіроўваюць на работу асоб, асуджаных да папраўчых работ у іншых месцах, асоб, асуджаных да папраўчых работ без пазбаўлення волі па месцы работы, якія накіраваны судом для адбывання пакарання ў іншыя месцы, і» і словы «Саюза ССР і» выключыць;

слова «палітыка-выхаваўчай» замяніць словам «выхаваўчай».

4. У артыкуле 102:

часткі шостую і сёмую выключыць;

частку дзявятую пасля слова «прадстаўленне» дапоўніць словамі «або працоўным калектывам узбуджана перад судом хадайніцтва».

IV. Гэты Закон увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*26 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 451-XIII.*

*36,6°*

# АСЦЯРОЖНА, ЛЕКІ!

**Цяпер людзі так заняты справамі, што часта не звяртаюць увагі на ўласнае здароўе. Зразумела, да пэўнага моманту. А многія сімптомы хвароб мы глушым тым ці іншым лекавым сродкам: баліць галава — анальгін, тэмпература павысілася — аспірын, непакоіць страўнік — но-шпа... І атрымліваецца так, што ўсё больш інфармацыі мы «ўпітваем» не ад спецыялістаў, а «ад Марыі» з рэкламных ролікаў. Вось тут і крыецца галоўная небяспека для нашага здароўя і нават жыцця. Справа ў тым, што вырашыць, які лекавы сродак трэба прымаць пры той ці іншай хваробе, можа толькі спецыяліст, і толькі ў індывідуальным парадку. У лекавых сродкаў, як і ў медаля, ёсць свой адваротны бок — проціпаказанні. Сёння мы друкуем кароткія даныя аб проціпаказаннях некаторых найбольш распаўсюджаных лекаў. Каб не нашкодзіць сабе, прытрымлівайцеся нашых парад.**

**Анальгін**. Проціпаказаны пры аспірынавай форме бранхіяльнай астмы, парушэннях кроватварэння, бронхаспазме. Пабочныя з'явы: пры доўгім карыстанні — прыгнечанне кроватварэння, алергічныя рэакцыі. Максімальная разавая доза для дарослых — 1 грам (2 таблеткі па 0,5 грама), максімальная сутачная доза — 3 грамы (6 таблетак па 0,5 грама).

**Аспірын** (ацэтылсаліцылавая кіслата). Проціпаказаны пры язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, у першыя тры месяцы цяжарнасці, а таксама пры аспірынавай форме бранхіяльнай астмы. Пабочнае дзеянне: магчымы алергічныя рэакцыі, шум у вушах, аслабленне слыху, павышанае потавыдзяленне, а пры доўгім карыстанні — парушэнне згушчальнасці крыві. Прымаць толькі пасля ежы. Разавая доза для дарослых — не больш за 1 грам, сутачная — не больш як 4 грамы.

**Алахол**. Проціпаказанні: язвенная хвароба страўніка, некаторыя захворванні печані, у тым ліку гепатыты, закупорка жоўцевых пратокаў. Пры каменях у жоўцевым пузыры і яго пратоках патрабуецца асаблівая асцярожнасць у прымяненні гэтага прэпарату. Пабочныя эфекты: алергічныя рэакцыі, панос. Пры самалячэнні прымаць не больш як 1 таблетку тры разы ў дзень.

**Бісептол**. Проціпаказаны пры парушэннях функцый печані і нырак, захворваннях крыві, цяжарнасці, павышанай адчувальнасці арганізма да сульфаніламідаў. Яго нельга ўжываць у першыя дні жыцця дзіцяці. Пабочныя эфекты: ванітаванне, рвота, панос, алергічныя рэакцыі, паражэнне нырак, парушэнне саставу крыві. Дозы і працягласць курсу лячэння назначаюцца ўрачом індывідуальна.

**Дыазалін**. Проціпаказанні: язвенная хвароба страўніка і дванаццаціперснай кішкі, запаленчыя захворванні страўніка і кішэчніка. Максімальная доза для дарослага: разавая — 0,3 грама (3 таблеткі па 0,1 грама), сутачная — 0,6 грама (6 таблетак па 0,1 грама).

**Сульгін**. Проціпаказаны пры парушэнні функцыі нырак і павышанай адчувальнасці да сульфаніламідаў. Пабочныя эфекты: ванітаванне, рвота. Максімальная доза: 2 грамы на адзін прыём (4 таблеткі па 0,5 грама) і 7 грамаў у суткі (14 таблетак па 0,5 грама).

***Увага! Небяспечныя лекі.***

**Парацэтамол. У мінулым годзе у Вялікабрытаніі ад гэтага прэпарату памерлі 223 чалавекі. Многія з іх былі самазабойцамі, але былі і няшчасныя выпадкі. Ёсць надзейная альтэрнатыва — паметон.**

**Вытворцы абавязаны прыкладаць інструкцыю да любога прэпарату, а ў аптэцы — выдаваць анатацыю да купленых лекаў.**

**Падрыхтаваў Сяргей ПРОТАС.**

***ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...***

# ГАРЭЛА СВЕЧКА НА СТАЛЕ

**Купля адзення даўно перастала быць праблемай. Хоць цэны яшчэ даволі высокія, але можна, як гэта робіцца ва ўсім свеце, адносна танна набыць даволі прыстойную рэч так званай другой носкі, як правіла, з натуральных валокнаў. І хоць гэта адзенне стэрыльна апрацавана, сумненні ўсё ж адольваюць: хто ведае, які чалавек яго насіў. З якімі душэўнымі якасцямі, з якім стаўленнем да людзей? Вельмі многае мы даведаліся аб стойкасці негатыўнай інфармацыі ў прадметах ужытку. Асабліва доўга захоўвае яе старое адзенне. Ці можна ад яе пазбавіцца?**

Так, можна. І гэта ўмелі яшчэ нашы продкі, якія ведалі ачышчальную сілу агню. Вучоныя толькі адносна нядаўна адкрылі, што агонь знішчае чужую біяэнергетыку. А нашы бабулі, прынёсшы дадому купленую рэч, вешалі яе на плечыкі і праводзілі па контуры полымем свечкі. Гэта быў абавязковы рытуал. Затым рэч мылі і, калі гэта было магчыма, сушылі на сонцы. Дарэчы, такую працэдуру трэба раз у год праводзіць і для ўласнага адзення. Яно стане энергетычна стэрыльным — выветрацца ўсе сляды вашых адмоўных эмоцый, накопленых за час носкі.

Пакланенне агню прыйшло яшчэ з часоў язычніцтва, калі людзі больш тонка адчувалі прыроду. Цяпер мы да гэтага вяртаемся, але ўжо на падставе фізічных ведаў. Так, з дапамогай свечкі можна ачышчаць кватэру, у якой жывеш, рабочы офіс. Памяшканне, у якім пастаянна бываеце, прасякнута вашым біяполем, у тым ліку і народжанымі негатыўнымі эмоцыямі. Агонь яшчэ ачышчае ад нябачнай павуціны. Тэхналогія ачышчэння адпрацавана за сотні гадоў, і разам з памяшканнем ачышчаецца і душа, калі гэта рабіць з малітвай.

Нават калі вы няверуючы, няварта ставіцца да малітваў іранічна. Гэта — адпрацаваны стагоддзямі інструмент уздзеяння на псіхіку. Старанны падбор слоў, іх чаргаванне ачышчае душу ад усяго негатыўнага, наноснага, шкоднага, прыносіць заспакаенне, што дабратворна дзейнічае на здароўе. А ачышчаць памяшканне трэба пакой за пакоем. Вазьміце ў руку запаленую свечку і абыходзьце пакой уздоўж сцяны ад бліжэйшага кута па гадзіннікавай стрэлцы. Зрабілі поўны круг, адступілі на крок да цэнтра і зноў пайшлі. Так, пакуль не апынецеся ў цэнтры пакоя. Адсюль яшчэ раз вярніцеся ў кожны кут і патушыце свечку пальцамі. Пакой стаў біяэнергетычна чыстым.

Таксама з дапамогай свечкі ачышчаюць біяполе вакол хворага чалавека: ходзяць вакол яго 12 разоў. Зразумела, гэта не вылечвае хваробу, але стварае спрыяльную ауру, дзе лекі дзейнічаюць больш эфектыўна. І калі блізкі чалавек ад'язджае ў далёкую дарогу, яго праводзяць са свечкай у руках. Свечка павінна згарэць поўнасцю. Ды і проста пасядзець каля запаленай свечкі карысна.

**Вера КРАСНОВА,**
**«Российская газета».**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 16 ліпеня

### Беларускае тэлебачанне

**8.30** Дзённік V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96».
**8.45** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял.
**9.40** Абібок.
**10.05** «Сядзіба». Праграма для дачнікаў.
**10.40** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
**11.00** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма.
**11.25** Чацвёртае вымярэнне.
**12.05** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Ну, пачакай!» Мультфільм. 12-13-ы выпускі.
**16.05** «Роднае слова». Тэлечасопіс.
**16.25** Пад знакам «Ч». Перадача з Гомеля.
**16.40** «Хельмут і Домна». Тэленарыс.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Чым багаты...» Рэспубліканскі навукова-даследчы і праектна-тэхналагічны інстытут будаўніцтва.
**18.15** Будзьце здаровы.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Дзённік V Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар-96». Перадача з Віцебска.
**19.15** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял.
**20.10** Калыханка.
**20.30** Панарама.
**21.15** V Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар-96». Конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Дзень другі.
**22.45** «Зоркі» на экране. Уладзімір Машкоў і Марыя Шукшына ў мастацкім фільме «Амерыканская дачка».
**0.25** Навіны.

### ГРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Навіны.
**8.15** Серыял «Новая ахвяра».
**9.50** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян.
**10.20** «Фарбаваны ліс». Мультфільм.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.55** «Вяртанне Будулая». Серыял.
**13.15** «Летні снегавік». Мультфільм.
**13.25** «Каханне з першага погляду».
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.55** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Новая ахвяра». Серыял.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** Тэма.
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Мікалай Кручкоў у фільме «Шчодрае лета».
**22.35** Канцэрт Дэвіда Боўі.

### Канал «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**7.55** «Славянскі базар». Дзённік фестывалю.
**8.05** «Санта-Барбара».
**16.20** Музыка ўсіх пакаленняў.
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** Кліп-антракт.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Расіі. «Дынама» (Масква) — «Тарпеда» (Масква). У перапынку — тэлечасопіс «Здароўе».
**19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.30** «Бочка мёду».
**21.00** Надвор'е на заўтра.
**21.05** «Славянскі базар». Міжнародны фестываль мастацтваў. Трансляцыя з Віцебска.
**22.50**. «24—метэор-24».
**23.15** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.25** Зоркі сусветнага экрана.

### НТБ

**6.00, 18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**6.15** «Сямейка Флінстоўн».
**6.40** «Прыгоды Неда Блесінга». Маст. фільм.
**7.20** «Згублены уікэнд». Маст. фільм (ЗША).
**8.55** Дак. фільм «Самыя вялікія загадкі мінулага і сучаснага» (ЗША).
**9.15** «Дзікія пальмы». 4-я серыя.
**10.00** Маст. фільм «Чорная мантыя для забойцы».

### «Расійскія універсітэты»

**12.00** «Пяць хвілін».
**12.05** Руская мова.
**12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы.
**13.00** Востраў у паўночным моры.
**13.25**, **16.45** Навіны.
**13.30** «Жыццё Кліма Самгіна». Маст. фільм. 2-я серыя.
**14.40** Цішыня № 9.
**15.15** Мастак Андрэй Паздзееў.
**16.00** Музычныя навіны.
**16.15** «Муззон».

### НТБ

**17.00** «Незвычайныя прыгоды Скубі-Ду».
**17.30** Жаночыя гісторыі. «Ланкастэр і Мілер: гісторыя кахання». 2-я серыя.
**18.35** «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». Дак. фільм. 2-я серыя.
**19.00** Оскар Вернер і Джулі Крысці ў маст. фільме Франсуа Труфо «451 градус па Фарэнгейту». (Вялікабрытанія).
**21.35** «Дзікія пальмы». 5-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Вялікі рынг.
**23.50** Меламанія: «Іглс».

### Санкт-Пецярбург

**11.55**, **12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ.
**12.05** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Тэрмін адказу — сёння.
**13.40** Парады садаводам.
**14.05** «Вялікі чалавек». Серыял.
**15.10** «Дом кіно» прадстаўляе: Э. Казан і яго фільм «Твар у натоўпе». Частка 1-я.
**16.25** «Ліса і дрозд». Мультфільм.
**16.40** Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам».
**17.05** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.30** Стыль жыцця.
**17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.15** Толькі без панікі.
**20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Вялікі чалавек». Серыял.
**22.10** Праграма перадач.
**22.15** «Генеўра». Прэм'ера маст. фільма (Літва, ЗША).

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**16 ліпеня** (як мяркуецца) **1350 года** нарадзіўся Вітаўт, князь гарадзенскі, трокскі, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, сын Кейстута. У Грунвальдскай бітве 1410 года ўзначальваў войска ВКЛ, якое было асноўнай сілай у разгроме крыжакоў. Пры Вітаўце Вялікае княства Літоўскае дасягнула найбольшай магутнасці.

**16 ліпеня 1872 года** нарадзіўся Руаль Амундсен, вядомы нарвежскі палярны падарожнік і даследчык. Першым дасягнуў Паўднёвага полюса (14.12.1911 г.). У 1918—20 гадах прайшоў уздоўж паўночных берагоў Еўразіі на караблі «Мод». У 1926 годзе кіраваў першым пералётам праз Паўночны полюс на дырыжаблі «Нарвегія». Загінуў у 1928 годзе ў Баранцавым моры ў час пошукаў італьянскай экспедыцыі У. Нобіле.

У сярэдзіне ліпеня **1881 года** ў Пецярбургскім універсітэце было ўтворана нелегальнае студэнцкае беларускае зямляцтва.

**16 ліпеня 1883 года** ў мястэчку Бярозаўка заснаваны шклозавод «Нёман». Зараз завод выпрабляе больш як 500 найменняў гатунковага посуду, у тым ліку мастацкае шкло. Лепшыя вырабы дэманстраваліся на міжнародных выстаўках.

**16 ліпеня 1941 года** выйшаў агітплакат пад назвай «Раздавім фашысцкую гадзіну». Са жніўня 1945 года — сатырычны і гумарыстычны часопіс «Вожык».

### Хочаце — верце...

У ноч на 17 ліпеня адбудзецца **злучэнне Меркурыя з Чорным Месяцам,** што вядзе да канцэнтрацыі думкі на цёмныя бакі жыцця і індывідуалістычныя памкненні. У гэты дзень трэба асцерагацца стратаў і крадзяжоў. Магчымы таксама збоі ў рабоце электрапрыбораў і камп'ютэраў.

### Неверагодна!

***Аліса Крэйдэр з амерыканскага гарадка Джэксан — вялікая фанатка Элвіса Прэслі, і для таго, каб гэта даказаць, яна не вымавіла ніводнага слова з таго часу, як ён памёр, — 16 жніўня 1977 года.***

53-гадовая разведзеная жанчына пакляласся маўчаць, пакуль не ўбачыць канкрэтных доказаў таго, што «Кароль» не інсцэніраваў сваю смерць (такія чуткі вельмі шырока распаўсюджаны), а сапраўды пахаваны пад таблічкай з яго імем у славутым Прэйслендскім доме ў Мемфісе.

— Я ведаю, што гэта гучыць дзіўна, але Аліса не сказала ні слова з таго часу, як Элвіса не стала шмат гадоў таму, — заявіла яе сястра Фрыда Марлот. — Што яшчэ больш ненармальнае, дык гэта тое, што яна верыць, быццам ён яшчэ жывы. Пачуўшы ў той дзень, што Элвіс памёр, яна напісала мне запіску, у якой гаварылася, што яна не верыць у яго смерць і што яна не вымавіць ні гука да таго часу, пакуль той не вернецца.

І фанат № 1 Элвіса трымае слова. Цяпер ужо 17 гадоў яна маўчыць, як нямая. Яе муж змог вытрымаць толькі некалькі гадоў, і з таго часу пра яго нічога не чуваць. Цэлымі днямі Аліса слухае пласцінкі з запісамі Прэслі ці глядзіць кінафільмы з яго ўдзелам. І яшчэ яна чакае вяртання «Караля». Хай чакае. Гэта яе жыццё.

### Загадкавае...

***Калумбіец Эрнеста Дуартэ вельмі тэмпераментны, як, дарэчы, і многія яго суайчыннікі. Але ў адрозненне ад іншых, яго вельмі небяспечна злаваць. І не таму, што ён хуткі на расправу. Хутчэй наадварот: разззлаваўшыся, Эрнеста бляднее, напружваецца ўсім сваім целам так, быццам камянее, і не можа нават рукой павварушыць ці крок ступіць.***

У яго бялеюць вочы, а кучаравыя ад нараджэння валасы распрамляюцца і тырчаць ва ўсе бакі. Але і гэта не самае страшнае.

Людзі неаднаразова заўважалі, што калі раззлаваны Эрнеста ўпадае ў такі стан, то ва ўсіх, хто знаходзіцца побач, імгненна разраджаюцца батарэйкі, а таксама акумулятары аўтамашын. «Замыкаюцца» электрапрыборы, «ляцяць» электронныя трубкі тэлевізараў, ламаюцца камп'ютэры. Людзі і жывёла пад уплывам энергіі Эрнеста могуць траціць прытомнасць, а мухі і іншыя насякомыя і наогул гінуць.

Супакоіўшыся, Эрнеста літаральна валіцца з ног ад нечаканай страшэннай стомленасці і спіць ледзь не суткі запар. Прачнуўшыся, ён незвычайна шмат есць і п'е, яўна папаўняючы запас жыццёвых сіл ці нейкай іншай незразумелай, але сакрушальнай энергіі, якую выпрабляе яго арганізм у раззлаваным стане.

### Анекдот

*Прымаючы маладую пацыентку, урач просіць яе распрануцца. У гэты момант яго выклікаюць на тэрміновую кансультацыю, і вярнуцца ён змог толькі праз гадзіну. У кабінеце ўсё яшчэ сядзела распранутая дзяўчына.*

*— Прафесар, — кажа яна, — ці не маглі б вы закончыць агляд, а то мне надакучыла цэлую гадзіну сядзець голай і ўсім адказваць, што я не ваша сакратарка.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 3521.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12